## Дай жа Божа!..

І зноў і зноў думаю: а ці хто калі-небудзь прачытае іх, мае кнігі публіцыстыкі, у якіх сабраны артыкулы, нататкі, гутаркі, прамовы, з дэпутацкай і розных іншых трыбун — пра гэты несуцішны боль, пра гэту неадхланную трывогу за лёс нашага народа, нашай мовы і культуры, нашай дзяржаўнасці? А што будзе толку, калі і прачытае тады, як усё будзе на апошнім здыханні, усё будзе дабіта да ручкі? А невядома! Можа, і дапамогуць каму. Калі для нас пачала адкрывацца публіцыстыка ідэолагаў і айцоў БНР (Купалы, Лёсіка, Бядулі, Гаруна, Шантыра, Бурбіса, Смоліча, Ластоўскага, Цвікевіча, братоў Луцкевічаў і іншых), хіба мы не адчулі, што гэта нам трэба, — што іх палымянае слова было не марным, што і праз 70 гадоў мы бяром яго для жыцця і змагання, бяром (чытаем і перачытваем), каб мацней паверыць у іх і нашу супольную справу — у вялікую справу нацыянальна-культурнага і дзяржаўнага адраджэння Беларусі?.. Адчулі, і бралі, і бяром, у тым ліку і я, шараговец у арміі валанцёраў Свабоды і Незалежнасці, ад самых маладых гадоў апантаны любоўю да Бацькаўшчыны і верай у яе вялікую будучыню. О, як мяне падтрымала і падтрымлівае іх натхнёнае Святою Праўдаю Слова!..

*1995*

## Я кажу — «ад ідэалаў»...

Праклінаю той дзень, калі мы ў сваёй краіне адракліся ад сацыялістычных ідэалаў і кінуліся маліцца ідэалам капіталістычным — біць паклоны не Богу, а залатому цяльцу. Я кажу: ад сацыялістычных ідэалаў, а не ад сталінскага ці брэжнеўскага «сацыялізму», які не быў увасабленнем тых ідэалаў, бо быў увесь на хлусні і наскрозь фальшывым. Але пры ім сумленныя людзі маглі заставацца сумленнымі і нават больш-менш зносна існаваць. Цяпер — сумленным людзям жыць становіцца ну проста немагчыма.

*1996*

## Няўцямныя, ці што?

Чаго мы, усе жыхары, усе грамадзяне Беларусі, хочам? Лепшай долі? Хочам жыць заможна, культурна, па-людску? Дык жа зразумеем нарэшце адну элементарную ісціну, а менавіта: толькі тады, калі чалавек у сваёй хаце гаспадар, калі ён сам глядзіць і вырашае, што яму трэба рабіць і зрабіць, — ён можа зажыць па-людску. А калі яму будзе сусед дыктаваць, што садзіць у агародзе і якую жывёлу гадаваць, і якую страву варыць, і дзе ў хаце якую мэблю паставіць, і якія абразы павесіць і г. д. — значыць, ён не гаспадар, і ніколі ў яго не будзе ладу-парадку і дастатку...

Дык што — мы безнадзейна ад прыроды няўцямныя?

*1996*

## Дзеля збліжэння з Еўропай?

У апошнія гады ў нас усё часцей чуюцца галасы, што беларускае пісьмо — дзеля збліжэння з Еўропай — трэба пераводзіць з кірыліцы на лацініцу. І робяцца нават практычныя спробы друкаваць тэксты лацінскім альфабэтам. Ініцыятыва гэта — кур'ёзная (калі ўвогуле не правакацыя). За зменай альфабэту — змена пісьменства, а г. зн. — асуджэнне на смерць усёй нашай літаратурнай спадчыны, якую немагчыма — усю! — перавесці на новае пісьмо. У свой час бальшавікі зрабілі такі дзікі гвалт у Сярэдняй Азіі: традыцыйнае арабскае пісьмо замянілі кірылічным, якое зусім не прыдатнае для перадачы іх жывога маўлення.

*Канец 1990-х гг.*

## Дзясяткі гадоў — не ў той бок...

Дзясяткі гадоў палітасвета і палітадукацыя былі не ў беларускіх руках. Усё жыццё і на кожным кроку — уся прапаганда (лекцыі, даклады, гутаркі), уся наглядная агітацыя — нават у пакоі адпачынку на жывёлагадоўчай ферме (лозунгі, плакаты, дыяграмы і г. д.) — усё на рускай мове. А музеі,

дзе беларушчынай і не пахне! А кіно! А тэле! А прэса!.. У Беларусі ўсё гэта, за нязначным выняткам, было не ў беларускіх руках і таму ішло не ў той бок, — было антыбеларускае па сутнасці, было — каланізатарскае, асімілятарскае, русіфікатарскае... І ўсё гэта штодзённа ўбівалася ў галовы, у душы і сэрцы беларускай моладзі.

Убівалася... А як цяпер усё гэта адтуль выбіць, каб запоўніць сваім, родным, нашым? О, якая праца, якая невымерная праца чакае нас, дарагія сябры!

*1990-я гг.*

## О, дарагія, любыя браты мае!..

Я — прыродны славянін і вельмі люблю прыродны, глыбінны дух славянства, тыповы менталітэт славяніна. Я захапляюся мовамі славянскіх народаў, іх музычным і харэаграфічным фальклорам, іх песні гатоў слухаць — калі б толькі была магчымасць — кожны дзень і з ранку да ночы. Я — усімі фібрамі душы за славянскае брацтва. Але!.. але як быць, калі нават знакамітыя рускія пісьменнікі не радуюцца нашай беларускай незалежнасці, нашай нацыянальнай свабодзе? Калі толькі не рускія па крыві падтрымліваюць нас у нашых законных правах і памкненнях? Я быў сустаршынёй Міжнароднага Славянскага Фонду, я быў вельмі-вельмі рады сустрэчам і размовам са сваімі рускімі пабрацімамі, паэтамі і пісьменнікамі... І што ж? і што ж мне адкрылася? Славянская еднасць, пра якую столькі крыку, мае хітрую геапалітычную падаснову: не брацкае раўнапраўе, а імперыя!.. О, калі б шчырае брацтва — гэта было б здорава! Беларусь і Балгарыя, Беларусь і Сербія, Беларусь і Славенія!.. Вось гэта брацтва! Ніхто нікому не пагражае, ніхто нікога не баіцца, усе — на роўных, ні большага брата, ні меншага. А як прыемна ўсведамляць гэтае брацтва, як радасна распазнаваць братоў па мове, па звычаях, па песнях!

О, дарагія, любыя браты мае!..

*1990-я гг.*

## Сёння — не толькі прыкра, але…

Беларускі народ... Беларускі? А ці беларускі? Ці не выдаем мы жаданае за рэальнае? Якія ў нашай краіне будуць працэсы і як іх назваць, калі ўжо і ад даяркі і ад свінаркі, якія цягнуцца да «вышэйшай, сапраўднай культуры», чуеш не іх родную мову, а такую ж жахлівую мешаніну, якую дзвесце гадоў назад можна было пачуць ад панскай прыслугі, што старалася «навярнуць» на панскі лад, і якую слухаць было прыкра? Сёння — не толькі прыкра, але і сумна і горка, бо жывём у незалежнай беларускай дзяржаве, і нават прыслугі зусім непісьменнай, цёмнай няма.

*1990-я гг.*

## А за што сыноў?..

Давялі да самазабойства Усевалада Ігнатоўскага — Прэзідэнта АН БССР, камуніста, самаахвярна вернага Савецкай уладзе, палымянага патрыёта Беларусі. Зрабіў гэта слаўны сын Бацькаўшчыны ў прадчуванні расправы над ім, у пачатку 1931-га... Але ж катам-людажэрам было гэтага мала. Пазней арыштавалі і загубілі абодвух сыноў Ігнатоўскага — маладых інтэлігентаў, чыстых душой, усімі помысламі і памкненнямі... За што? За што? Нічога ж супроць савецкай дзяржавы не рабілі, нават не казалі...

О, які жах! Якая нялюдская, канібальская ўлада!..

*1997*

## НАН — ці цётка Аўдотка?

А якая роля нашай акадэмічнай інтэлігенцыі ў працэсе станаўлення беларускай нацыянальнай дзяржавы? Ці гучыць належным чынам яе слова, яе голас? Ці дастаткова яна стукаецца-грукаецца ў галоўныя дзяржаўныя дзверы, ці гаворыць, ці заяўляе, ці крычыць: «Урад, апомніся!»? Ці, можа, хто думае, што ў гэтым працэсе весці рэй будуць цётка Аўдотка ці дзед Міхед з Камароўскага рынку?..

Калі Акадэмія працуе на беларускую нацыянальную ідэю — гэта выдатна. А калі — наадварот? Калі супроць гэтай ідэі? Дык тады чаму яна беларуская? Вядома, ёсць у НАН РБ інстытуты мовы, літаратуры, гісторыі, філасофіі, ёсць ІМЭФ... Ёсць і шмат робяць на карысць Бацькаўшчыны. Але бяда ў тым, што ўся Акадэмія ў цэлым не выконвае тую місію, якую павінна выконваць як НАН Беларусі. Не з'яўляецца прыкладам, узорам для ўсёй астатняй інтэлігенцыі краіны.

*1998*

## Дык будзем судзіць?

Чытаю — і ахоплівае жах. Наколькі ўсё было страшней, чым мы сёння думаем, разумеючы заднім розумам. Многія ўжо гатовы лезці ў суддзі паэтаў той жахлівай эпохі.

И благодарного народа
он слышит голос: «Мы пришли
сказать: где Сталин — там свобода,
мир и величие земли».

Гэта — Ганна Ахматава. Падобныя радкі ёсць і ў Мандэльштама. А вось страфа з Пастэрнака:

«...Смех у завалин,
и мысль от сохи,
и Ленин, и Сталин,
и эти стихи».

Ахматава пісала працытаваныя мной радкі ў тыя дні, калі стаяла ў чарзе, каб перадаць арыштаванаму сыну кавалак хлеба... Дык будзем судзіць?..

*1998*

## На Беларусь у Вільню…

Як успрымалася Вільня людзьмі, якія там нарадзіліся? Паэтка Наталля Арсеннева: «Больш як пятнаццаць год мне давялося жыць на чужыне, у Польшчы, але хоць раз на год я прыязджала на Беларусь, у сваю родную Вільню, або да мужавых бацькоў у Валожыншчыну». («Між берагамі», 1979).

Вось так успрымалі, і толькі так! Асабліва ў часы «Нашай нівы» і ў міжваенны перыяд (1920–1939), калі ў Заходняй Беларусі Вільня была сталіцай культурнай аўтаноміі. Там усё засяродзілася, там! Натуральна засяродзілася — і натуральна Вільня стала сталіцай.

*1999*

## Лепш бы не ведаць…

У Народнай Рэспубліцы Балгарыі было 70 тысяч «стукачоў» — то бок, адзін на кожныя 130 чалавек! А сярод інтэлігенцыі — адзін на кожныя 10 чалавек. Удумацца толькі: кожны дзясяты інтэлігент — сакрэтны супрацоўнік Камітэта Бяспекі! Ну і «працаваў жа»: паведамляў, дакладваў, то бок — даносіў...

Як гэта кажуць: лепш бы не ведаць такое.

*1999*

## Вось вам і роля музыкі

Слухаў па радыё ўрыўкі нямецкіх патрыятычных песень і маршаў канца 1930-х гадоў. Гэта — страшна. Страшна ад закладзенай у іх сілы. Гэтыя рытмы, гэтыя выкрыкі... Устаяць цяжка. Масавы псіхоз непазбежны...

Вось вам і роля музыкі. Пад такую музыку пойдзеш не толькі nach osten. І ў пекла пойдзеш.

Славянская музыка — нават гераічная — зусім не тое.

*7.XI.2000*

## І гэта — па радыё!..

15 лютага 2001 года, у 5:30 раніцы, па радыё прагучала вось такая песня (у выкананні групы «Агата Кристи»):

Улыбаются кошки,
Улыбаются мышки,
Улыбаются черви
В куче дерьма.

Улюбляются кошки,
Улюбляются мышки,
Улюбляются черви
В куче дерьма...

Гэта прапагандысты культуры і мастацтва прапануюць замест паэзіі Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Някрасава, Блока, Маякоўскага, Ясеніна, Пастэрнака, Твардоўскага, — калі браць толькі рускую паэзію, паколькі гэтая «черведерьмовая» песня складзена на мове рускага народа.

Не здзіўлюся, калі заўтра запросяць гэты «черведерьмовый» гурт спяваць у сталіцу нашай дзяржавы і над галоўным праспектам Мінска будуць вісець транспаранты, на якіх літарамі, велічынёй па сабаку, напісана: гурт «Агата Кристи». Ну вядома, запросяць! Павінны ж і мінчане ведаць, як «улюбляются черви».

*2001*

## Але ёсць і другое...

Калі мы не аваладваем такой міжнароднай мовай, як руская, мы адразаем сябе ад галоўнай крыніцы жыццёва неабходнай нам разнастайнай інфармацыі (навуковай, эканоміка-гаспадарчай, палітычнай, культурнай і г. д.). Нехта скажа: дзеля гэтага можна аваладаць і карыстацца ангельскай, яна пашырана ў свеце яшчэ больш, чым руская. Пагадзіцца з такім довадам нельга: і тысяча, і нават сто тысяч беларусаў

могуць авалодаць ангельскай, але ўвесь беларускі народ на гэта проста не пойдзе, гэта нерэальна, ды і няма сэнсу.

Але ёсць і другое. Адвярнуцца нам ад рускай мовы — азначала б у вялікай меры пазбавіць сябе радасці знаёміцца з цудоўнымі скарбамі рускай літаратуры па арыгіналах, а не па перакладах на беларускую. Ды і колькі яе ў нас перакладаецца? Усю перакласці — і за сотні гадоў нерэальна.

Гэта ж датычыць і рускай песні. Хто з нас разлюбіць і адрыне рускую песню? Сапраўдную рускую песню, а не сучасныя, народжаныя «бледнай немаччу», пародыі на яе...

О, сапраўдная руская песня! Дзеля цябе варта і добра вывучыць мову, каб ты магла як найглыбей запасці ў душу і сэрца.

*2001*

## Самае страшнае…

Самае страшнае, што прынесла і ўсталявала бальшавіцкая эпоха і пастунова зрабіла нормай жыцця, і зрабіла псіхалогіяй звычайнага чалавека і ўсяго грамадства — гэта: незалежнасць ад векавечных непарушных маральных законаў, прынцыпаў і нормаў агульнажыцця чалавечага, — ад тых самых Дзесяці запаведзяў, адступленне ад якіх — разбурэнне і гібель асобы, распад ўсяго і ўся, на чым грамадства трымаецца, можа трымацца, і калі сёння яшчэ трохі трымаецца — толькі ў той меры, у якой гэты распад яшчэ не стаў усеахопным, усепранікальным, у якой меры яшчэ аказваецца яму супраціўленне. Кім аказваецца? Неабыдлелай часткай грамадства, перш за ўсё — сумленнай незапраданскай інтэлігенцыяй.

*10.XII.2001*

## Слухайце — і вам аддасца!

Сёння, 17 лютага, слухаў, як адпраўляў святую імшу біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Антоній Дзям'янка. Гучала, папросту кажучы, здорава! О, калі б нашы людзі кожны дзень слухалі такія казані святароў! Якое процістаянне злу, п'янству, наркаманіі, распусце, карацей — Сатане, які хоча забіць чалавека ў чалавеку! А найперш — якая мова! Якая мова гучала! Часта чую: а дзе пачуць сапраўдную беларускую мову? А вось дзе! У Касцёле! Божа, як яна тут гучыць! Як соладка для душы! Сэрца млее і плача. Ад шчасця, што гэта мова ёсць і я магу яе слухаць.

*2002*

А сёння, 24 лютага, слухаў казані ксяндзоў Уладзіслава Завальнюка, Антонія Дзям'янкі, Яна Крэмца... слухаў — як песню, як гімн, які Божай сілай робіць у маёй душы штосьць такое, што я не магу адзначыць і сказаць, а толькі магу ціха, безгалоса плакаць — столькі чую вышэйшай праўды ў іхніх казанях, столькі спрыяння і даравання маёй душы грэшнай!.. І я звяртаюся да ўсіх вас, людзі Беларусі: слухайце, слухайце, слухайце — ці вы праваслаўныя, ці вы католікі, ці вы пратэстанты, ці вы якое іншае веры, але жывяце тут, на зямлі беларускай. І ёсць грамадзянамі нашай краіны, — слухайце мову зямлі гэтае, зямлі крывіцка-ліцвінска-беларускай! Слухайце, шаноўныя, — і вам аддасца! І вам аддасца!..

*2002*

## Дык куды рухаемся?

На канцэрце ў Маскве для Мінюста артыст Баскаў спеў «Шарманку» — адну з самых лепшых сучасных рускіх песень. У зале — ніхто ані не зварухнуўся. Не кранула. Пасля Баскава на сцэну выйшаў крыўляка — з пошлымі досціпамі. О, як адразу ж ажывілася зала! Цудоўная песня не кранула,

а бяздарная пашляціна, цынічнае выскалянне на тэму сексу — у захапленне прывяло.

Дык куды рухаемся?

*7.X.2002*

## Кожны беларус павінен гэта ведаць

Далучыўшы гвалтам Вялікае Княства Літоўскае да Расейскай імперыі, Кацярына II агаласіла ўказ: «...Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ ее белорусами, чем на века привяжем ее к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя» (1796).

Як у такім разе кажуць: каментар непатрэбны. Гадоў праз 70, задушыўшы паўстанне, якім кіраваў Кастусь Каліноўскі, губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў (Мураўёў-вешальнік) пісаў: «В Северо-Западном крае так называемый белорусский язык необходимо низвести на ничто, ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя».

І зноў жа: каментар непатрэбны.

Але ведаць і помніць гэта мы, беларусы, павінны. Калі хочам заставацца сабою — свабодным, самастойным, паважаным у свеце народам.

*2002*

## Пра ВКЛ

На двары 1965 год, а мы ўсё яшчэ пішам і друкуем: «У Маскоўскую дзяржаву паслы ехалі праз Вялікае Княства Літоўскае, у склад якога ўваходзіла Беларусь» («Полымя», 1965, № 4). Не пішам «ВКЛ — сярэдневяковая беларуская дзяржава, у склад якой уваходзіла Жамойція (сучасная

Летува) і вялікая частка Украіны, а пішам «Беларусь уваходзіла». У што ўваходзіла, куды? Беларусь у Беларусь? Нонсенс! Але — гэта мы сёння паразумнелі і расплюшчылі вочы. А зусім яшчэ нядаўна, зусім нядаўна! — не ведалі, хто куды ўваходзіў. Не ведалі элементарнай гісторыі сваёй краіны, свайго народа.

*2002*

## «Гори, гори...»

Калі перастане гучаць песня «Гори, гори, моя звезда»? Калі перастане існаваць Расія. Сёння яна гучыць так, як і тады, калі паявілася, — з тым жа болем, з той жа сардэчнай пранікнёнасцю, з той жа глыбінёй пачуцця. І слухаюць яе гэтак жа, з такім жа хваляваннем, як і сто гадоў назад. Тут справа вось у чым. На багатым-разбагатым Захадзе ніколі — падкрэсліваю: ніколі! — не магла і не можа паявіцца песня «Гори, гори, моя звезда». Як ніколі не можа нарадзіцца Сяргей Ясенін. Хто гэтага не разумее — той не можа зразумець і самага галоўнага, што вызначае сутнасць рускай душы. І беларускай таксама.

*2003*

## Чаму трэба ведаць пра бітву пад Оршай

Шаноўныя! Вы падымаеце крык-гвалт і патрабуеце забараніць адлюстраванне ў падручніках бітвы пад Оршай 1514 года — пераможнай для беларусаў-ліцвіноў і страшнай для маскоўскага цара. Але скажыце, калі ласка: вы ведаеце, што было б з Беларуссю, калі б не тая Перамога? Беларусі б не было. Мы страцілі б яе. Гэтак, як Смаленск, страцілі б і Віцебск, і Полацк, і Магілёў, ды і Мінск таксама.

Давайце пералічым, панове, колькі этнаграфічна-беларускіх зямель намі страчана за апошнія чатыры стагоддзі нашай трагічнай гісторыі. Страчаны адвеку-адроду беларускі Смаленск, адвеку-адроду беларускія Невель, Себеж, Дзвінск, адвеку-адроду беларускія Клінцы, Старадуб, Навазыбкаў,

адвеку-адроду беларуская Вільня, адвеку-адроду беларуская Беласточчына... Спынімся на гэтым далёка не поўным пераліку. Якая яшчэ краіна ў свеце гэтак з усіх бакоў абкарнана, абрэзана, абскубана? Няма такой іншай краіны.

Ніхто з беларусаў не патрабуе сёння нанава перакройваць межы. Але што з намі рабілі — ведаць трэба. Для чаго? Для таго, каб не страціць усё астатняе — што засталося ад колісь вялікай Беларусі. Каб помніць, што апетыт на «смачны кавалак» у нашых суседзяў, на вялікі жаль, не прапаў. І што хапнуць гэты кавалак можна без штыкоў і танкаў.

*2004*

## І станавіцца нормай...

За апошнія два дзясяткі гадоў істотна перайначыліся ў лепшы бок гуманітарныя навукі ў Беларусі, асабліва — гістарыяграфія. Гэтыя перамены выспявалі яшчэ ў нетрах хрушчоўскай, а затым брэжнеўскай эпохі. З пачаткам перабудовы нашы гуманітарныя навукі імкліва ірванулі наперад — да перагляду канцэпцый, тэарэтычных пастулатаў, ацэнак гістарычных фактаў. Вучоным, якія няйначай як вырваліся з руціны, стала ясна: далей так існаваць гуманітарная навука не можа! Бо — ганьба і сорам! Бо — свет і далей будзе глядзець на нас з пагардлівай насмешкай. Намаганнямі і старэйшых навукоўцаў і іх вучняў, маладых, былі пастаўлены заслоны перад напорамі хлусні, крывадушша, прыстасавальніцтва і элементарнай прафанацыі. Заслоны, вядома ж, не зусім шчыльныя, і ўсё ж, і ўсё ж!.. У асяроддзі навукоўцаў-гуманітарыяў зноў пачало адраджацца і станавіцца нормай пачуццё годнасці і гонару, якое было моцным у пакаленні М. Доўнар-Запольскага, У. Ігнатоўскага, А. Смоліча, В. Ластоўскага, С. Некрашэвіча... Зноў набывае сілу маральны крытэрый: «Не пераступі!..»

*2005*

## І не будзе спраўляцца, пакуль…

У Бярдзяева вычытаў: «Дзяржава не ёсць спосаб будаваць клазеты. Дзяржава ёсць вядомая каштоўнасць і пераследуе вялікія мэты ў гістарычным лёсе народаў і чалавецтва». Ну і якія ж мэты пераследуе сённяшняя беларуская дзяржава? Будаваць іменна клазеты... прабачце, лядовыя палацы. І клазеты, і палацы, вядома, будаваць трэба — асабліва клазеты, бо, па заўвагах іншаземцаў, гасцей Беларусі, анідзе ў Еўропе няма такіх праблем з клазетамі, як у нас. Проста неверагодна, здзіўляюцца замежныя госці. Як бачым, нават і з роляю будаўніка клазетаў наша дзяржава не спраўляецца.

І не будзе спраўляцца, пакуль не прыме разумны, асэнсаваны, рэалістычны курс развіцця эканомікі, культуры і палітычнай сістэмы, пакуль будзе трымацца даўно збанкрутаваных адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання ва ўсіх сферах жыццядзейнасці нацыі.

*2010*

## Самыя любімыя, самыя дарагія!

Колькі гадоў слухаю па беларускім радыё перадачы «Сустрэчы з песнямі мінулых гадоў». Пажылыя і зусім старыя жыхары краіны просяць пусціць у эфір песні іх маладосці, — самыя любімыя, вядома ж, самыя дарагія сэрцу. Дзясяткі разоў прагучала па просьбе старэнькіх вясковых бабуль і вось гэта любімая:

Чтобы здесь, в тайге, встали фабрики,
Встали новые города.
Расцветай, Сибирь, наша родина,
Та, что матерью мы зовем.

Вось так: Сібір — наша маці! Сібір, у якой сатлелі костачкі мільёнаў беларусаў. У тым ліку і бацькоў (ці блізкіх родных) гэтых бабулек.

З абязлюдзелай за вайну Беларусі дзясяткамі тысяч ехалі нашы хлопцы і дзяўчаты абжываць Сібір. А дома — родная зямелька зарастала хмызнякамі. І каб табе адна песенька...

*2012*

## «Пакажыце кулакі, дзецюкі!»

Шосты з'езд пісьменнікаў Беларусі (1971), як і папярэдні Пяты (1966), быў для мяне, можна сказаць, праграмна-баявы: я зноў увесь пафас прамовы, дакладней — увесь боль і гнеў, засяродзіў на адной галоўнай тэме: нашу родную беларускую мову, а значыць, нашу нацыянальную будучыню, трэба ратаваць ад пагібелі. Трэба біць і біць ва ўсе званы, каб людзі, грамадзяне Беларусі, пачулі і абудзіліся ад спячкі. Усе ў зале, у каго ў грудзях тахкала нераўнадушнае да нашага болю сэрца, успрынялі маё слова з гарачым пачуццём салідарнасці і ўдзячнасці. На перапынку многія падыходзілі, паціскалі руку, казалі добрыя словы. Падышла і Данута Бічэль. Таксама нешта сказала і працягнула складзены напалам аркушык.

— Вось, нешта напісалася, будзе дома час — пачытайце, калі ласка.

Я машынальна разгарнуў аркушык і ўбачыў... зграбна ад рукі напісаны верш. Нават першы радок паспеў перачытаць. «Што сядзіце вы, злажыўшы рукі...» Далей чытаць не стаў, паколькі была просьба зрабіць гэта дома.

Ну, а дома прачытаў, — і раз, і другі, і трэці... Уразіў верш вельмі моцна. «Ну, Данута! Ну, малайчына! Вось якая нам трэба сёння паэзія! Не пішуць такую мужчыны — напісала жанчына». Што напісала менавіта Данута Бічэль — я не здзівіўся. Неабходная беларусам мужнасць у яе творчасці заяўляла аб сабе ўжо неаднойчы і дагэтуль. Па невядомых мне прычынах верш нідзе не друкаваўся, хоць прайшло ўжо больш за сорак гадоў, і цяпер, з дазволу Дануты Янаўны, я прапаную яго ўвазе чытачоў. Арыгінал твора загалоўка не мае, але мне здаецца, яму вельмі падышла б назва «Беларускім дзецюкам».

Што сядзіце вы, злажыўшы рукі?
Хіба дзецюкі не з Белай Русі?
Па кутах пустыя жорны мелеце?
Сеяць так, як прадзеды, не ўмееце?
Не праглынецца хай слова вашае,
Хоць крыўдлівае, грубае — важкае.
Ды не ўтапіць вам у стопцы думку.
Ад санлівага гультайства не пратухніце.
Як не скамандуеце самі, не прытупнеце —
Ой, наскачацеся пад чужую дудку!
До з нагі на нагу перапінацца —
Хоць заплачце, як адвыклі смяяцца!
Як не ўмееце грымнуць, дык завыйце.
Ажывіце!
Пакажыце кулакі, дзецюкі!

Як у такім разе звычайна кажуць: калі б не дата, можна было б быць пэўным, што верш напісаны сёння. Але, але! Не сёння, а сорак два гады назад. Сорак два! Новыя пакаленні дзецюкоў выраслі. І пасталелі. І ўжо старэюць. А Маці Беларусь усё чакае: ну, калі ж вы, дзецюкі, перастанеце скакаць пад чужую дудку?..

*2013*

* * *

«Крупіцкія музыкі» на міжнародным фальклорным фестывалі ў Італіі заваявалі Гранд-Пры. І затым цэлы месяц гастралявалі па Італіі... Валянціна Пархоменка на фестывалі аўтэнтычнага (неапрацаванага) фальклору заняла першае месца... Падкрэсліваю: фальклору, нашага беларускага фальклору. Здавалася б: задумаемся! Глыбока задумаемся: што гэта значыць? Што ёсць таленавітыя выканаўцы? — Бясспрэчна. Што ёсць моцныя, яркія творы? — Так, вядома. А калі глянуць яшчэ глыбей? — Ёсць вялікая самабытная мастацкая культура, магутны патэнцыял Духоўнай творчасці народа. Карацей кажучы — ёсць Беларусь. І ёсць тое, без чаго Беларусі няма, без чаго Беларусь — не Беларусь.

* * *

У любой літаратуры свету сур'ёзныя, сапраўды таленавітыя пісьменнікі — не блазнавалі ў творчасці. Міхась Зарэцкі ў дваццаць восем напісаў раман «Крывічы», Кузьма Чорны ў дваццаць сем — раман «Сёстры». Які сур'ёзны падыход да творчасці, якія задачы перад сабою ставілі! Ніякага блазенства! Ад блазенства — крок да цынізму. Ісціна адвечная як свет: пачынайце з таго, як вы трымаецеся ў сваім асяроддзі і глядзіцё на сваё прызванне.

* * *

Грамадзянская мужнасць, прынцыповасць, шчырасць, звышпатрабавальнасць да сябе, самаахвярнасць у працы, вернасць запаветам вялікіх настаўнікаў. Чаму пра ўсё гэта трэба гаварыць маладым пісьменнікам, зрабіць праграмай ідэйна-эстэтычнага і маральнага выхавання іх? Таму што хітраванцы-прыстасаванцы і мітусліўцы-баязліўцы не ствараюць патрэбную людзям сур'ёзную літаратуру.

*1983*

* * *

Слухаю спевы з Дзятлаўшчыны і Мастоўшчыны, а тады з Рагачоўшчыны, а тады з Расоншчыны, а тады са Случчыны, а тады з Амсціслаўшчыны, — слухаю і думаю: Божа прамілы прасветлы! Гэта ж дзе той Ваўкавыск ці Масты, а дзе той Амсціслаў ці Расоны, а дзе той Пінск ці Слуцак — і ўсё Беларусь. І ўсе мы гаворым адною мовай, дык гэта ж мы ўсе родныя, усе браты і сёстры, дык гэта ж мы паяднаны адным лёсам, адною доляй-нядоляй, адным горам і адною надзеяй... Дык чаго ж мы не-не ды і грыземся між сабою? Беларусы!..

*Пачатак 1980-х гг.*

* * *

Пра Данііла Заточніка, знакамітага пісьменніка Старажытнай Русі, Вісарыён Бялінскі пісаў: «...гэта была адна з тых асоб, якія, на бяду сабе, занадта разумныя, занадта даравітыя, занадта шмат ведаюць і, не ўмеючы хаваць ад людзей сваёй перавагі, абражаюць самалюбівую пасрэднасць; ...словам, адна з тых асоб, якіх людзі спярша хваляць і песцяць, потым зжываюць са свету і, нарэшце, замарыўшы, зноў пачынаюць хваліць...».

Колькі такіх занадта разумных і занадта развітых зжыта са свету пасрэднымі зайздроснікамі! І колькі зжываюць сёння. Маю на ўвазе — у нас, на Беларусі.

*1983*

* * *

Атанас Стойкаў прыслаў сваю манаграфію «Мастацтва Кубы». У кнізе — каля 200 каляровых і чорна-белых ілюстрацый. Чытаю, разглядаю, радуюся. І зайздрошчу балгарскім сябрам, Балгарыі.

А дзе такія нашы манаграфіі? Чаму нашы мастацтвазнаўцы не едуць у замежныя краіны, не вывучаюць тамтэйшае мастацтва, не пішуць кнігі? Мне было б вельмі цікава ведаць, як беларус беларускімі вачыма глядзіць на свет, як успрымае і ацэньвае мастацтва іншых народаў.

*1984*

* * *

На з’ездзе славістаў у Кіеве (1983) акад. Рыбакоў гаварыў аб «Литовском владычестве», якое было пагубным для Кіева і славянаў. Літоўскае — значыць тое, што сыходзіла ад ВКЛ. Дык што гэта такое шаноўны акадэмік прыдумаў?

* * *

Калісьці на сценах старажытных сабораў пісалі важныя гістарычныя і іншыя звесткі, закляцці, звароты да Бога... А цяпер? Што пішуць у нас на сценах камяніц цяпер?

* * *

Проста ўдарыць — яму мала. Яму трэба прынізіць, абразіць, растаптаць чалавека, калі гэты чалавек — беларус, ды яшчэ і непахісны. З якой высакамернасцю, з якой пагардай, з якім чванствам ён вывальвае з сябе бруд на беларусаў!

Ён думае, што знішчае нас, што паралізуе нашу ідэю беларусізацыі Беларусі, цынічна іранізуючы над справай адраджэння беларускай мовы, культуры, гісторыі, дзяржавы... Ён з тых, што ніколі не прызнае права за іншымі на чалавечае жыццё ў сваім Доме...

Ну гэткі ён, гэткі! Дастаеўскі назваў такіх «бесамі». Дакладней не скажаш.

*1988*

* * *

З пэўнага часу на беларускім радыё і тэле музычна-песенныя праграмы ўзялі ў свае рукі забойцы культуры, не толькі нацыянальнай, а наогул культуры, забойцы ўсяго таго, што можа памагчы чалавеку заставацца чалавекам. Запанавала суцэльная дурнота, нясцерпная безгустоўшчына, шабаш ведзьмаў, агідная какафонія, прымітыўныя практыкаванні ў музычна-паэтычнай творчасці, вульгарнае дрыганожаства, «мастацкая» прадукцыя людзей, якія ніколі не слухалі вялікай, геніяльнай класічнай музыкі, не выхоўвалі сябе, свой эстэтычны густ на геніяльных народных мелодыях і паэзіі...

* * *

Віна мая, паважаныя калегі — вялікая. А перад усім тая, што я ўвесь час і перш за ўсё думаў і клапаціўся, як мы, пісьменнікі, можам дапамагчы народу, нацыі нашай ацалець

на гэтых жахлівых скразняках гісторыі, як ўратаваць нашу мову і культуру, бо не мной жа сказана: «памрэ мова ў вуснах народа — памрэ і народ». Я спадзяваўся, што калі на ўсё іншае, што адносіцца да гэтак званай калялітаратурнай мітусні, мяне проста не хапае — дык гэта даруецца мне ў імя таго галоўнага, на што ішлі мае сілы і час. Як відаць, я памыліўся. Людзей якраз цікавіць і хвалюе перш за ўсё гэта самая мітусня. Відаць, такое пракляцце над усімі намі.

*1988*

* * *

Дзесьці ў першай палавіне 70-х гадоў слынны перакладчык еўрапейскай паэзіі Вільгельм Левік прыслаў нашаму выдатнаму паэту-перакладчыку Юрку Гаўруку свае адказы на пытанні, якія датычыліся яго біяграфіі. З гэтых звестак («Нёман», 1975, № 2) даведваемся, што паэма Генрыха Гайнэ (правільна трэба пісаць іменна так!) «Германія. Зімовая казка» ў перакладзе В. Левіка на рускую мову друкавалася 20 (дваццаць!) разоў. Пераклад быў зроблены ў пачатку 1930-х, упершыню апублікаваны ў 1935-м, а дваццаты раз — у 1971-м. На сёння гэты лік, напэўна, істотна павялічыўся.

Дваццаць разоў за 36 гадоў! Для нас, беларусаў, — гэта фантастыка. Хоць бы два разы — за 36 гадоў! Ну, вось так. Жывём у адной краіне.

*1989*

* * *

О, пракляцце! Ва ўсіх сферах жыцця, па ўсіх лініях усё робіцца для таго, каб беларускі народ усё больш траціў сваё ўласнае этнічна-нацыянальнае аблічча, сваю культурную фізіяномію, сваю самабытнасць, сваю нацыянальную індывідуальнасць.

*1990*

* * *

Колькі разоў браў слова, каб унушыць дэпутатам, што трэба даць дзяржаўны прастор беларускай мове. Пакуль не аб'яднае ўвесь Вярхоўны Савет нацыянальная беларуская ідэя — ідэя Адраджэння з вялікай літары — нічога не будзе. Іншай ідэі няма! Ні сацыялізм, ні капіталізм — ніштo нас, беларусаў, не ўратуе. А ўратуе толькі ідэя нацыянальнага адраджэння, усведамленне, што мы — самі, самі павінны сцвердзіць сябе ў свеце.

*1990*

* * *

Літаратура сведчыць, як марудна, але ўпэўнена ў грамадстве наступаюць перамены, як абуджаецца тое, што нібыта было канчаткова забіта — нацыянальная і гістарычная самасвядомасць беларусаў. Дык вось — не канчаткова. Былі, жылі і тварылі яе носьбіты і ў самы цяжкі час. Былі і навукоўцы (гісторыкі, філолагі, філосафы, краязнаўцы), і літаратары (паэты, празаікі, драматургі), і асветнікі (настаўнікі, бібліятэкары, культработнікі). Дзякуючы іх вытрымцы — ацалелі і ажываем.

*1993*

* * *

1825 год. Дзекабрысты. Рускія і польскія афіцэры. Пра самастойнае існаванне Беларусі і не заікаліся.

1830-1831 гады. 20.I.1831 г. шляхецкі сейм абвясціў аб аднаўленні Польскай дзяржавы Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, г. зн. заграбаючы ў яе склад і ўсю Беларусь. Пра ВКЛ на сейме не ўспомнілі зусім, як бы яго ўжо і не было.

У лозунгу І. Лялевеля «За нашу і вашу свабоду!» і намёку не было на свабоду (незалежнасць) ВКЛ. Мелася на ўвазе Рэч Паспалітая як чыста польская дзяржава. Усе апазіцый-

ныя настроі 1830-1850 гг. на тэрыторыі Беларусі былі прапольскія (у палітычным аспекце, а не ў культурным).

*1993*

* * *

За доўгія стагоддзі нашы мілыя суседзі з Захаду і Усходу дасягнулі выніку: амаль да астатку вытравілі ў нас нацыянальную самасвядомасць, давялі амаль да поўнай страты нацыянальнай самабытнасці і пачуцця нацыянальнай годнасці. Адсюль — і нездаровы лад жыцця. А што шанаваць? Чым даражыць? Хто я? Рускі? — Не! Паляк? — Не! Беларус? — А які я беларус? Што ўва мне беларускае? Дык хто я?

— Ну, яно сабе! Давай вып'ем!

— Давай! Пасля разбяромся!..

*1999*

* * *

Журналістка з дэмакратычнай газеты пытае ў вялікім інтэрв'ю вядомага дзеяча мастацтва: «Як вы цягнеце ў пасцель сваіх натуршчыц — па згодзе ці гвалтам?»

Замест таго, каб спытаць (дэмакратка ж): «Што вы думаеце пра паглынанне Беларусі Расіяй?»

Не, гэта яе не цікавіць. Ёй абыякава, што палітычныя гангстэры дабіваюць спрэс усё беларускае, што яшчэ не дабіта. Дабіваюць з дапамогай вядомых вучоных, дзеячаў мастацтва, тэатра. І бяздарных літаратараў. І запраданцаў-журналістаў. Усіх, хто бачыць, з чаго сёння можна смачна карміцца, і ўпусціць гэту магчымасць, гэта карыта — не хочуць.

*1999*

* * *

Яны, сённяшнія рашучыя, размашыстыя крытыкі, ганячы і бэсцячы літаратуру папярэдніх дзесяцігоддзяў (60–80-х гадоў), заяўляюць, што змагаюцца з пэўнай ідэалогіяй. Гэта — не так, гэта — ашуканства, у лепшым выпадку — самаабман, бо на справе гэта — неразумнае беларускае самаедства, замах і ўдар па каранях народнасці, духоўнасці, маральнасці нашай паэзіі, нашай беларускай эстэтычнай думкі.

*Канец 1990-х гг.*

* * *

Каб табе адзін раман ці аповесць пра сучаснасць, у якіх у цэнтры ўвагі была б Нацыянальная ідэя! (як у «Крывічах» М. Зарэцкага). Каб табе адзін твор (раман, аповесць) пра тое, як у сённяшняй Беларусі здзекуюцца з беларуса, з яго мовы, з яго кнігі, з яго нацыянальнай культуры, з яго беларускага менталітэту! Дзе кнігі пра наша жахлівае звыродства? Каб прачыталі і, як у люстэрку, убачылі сябе? Няма такіх кніг, няма! Дык як жа будзе адбывацца нацыянальнае самаўсведамленне народа?

*2000*

* * *

Тыя, што сёння ў актыўнай апазіцыі, у свой час не зразумелі, што адбылося — якая бяда звалілася на Беларусь. І толькі праз 5–6 гадоў «дайшло», і яны ўзяліся змагацца. Чаму не дайшло раней? Што перашкодзіла? Слабасць нацыянальнага пачатку ў іх уласнай самасвядомасці. Недаацэнка гэтага моманту — тыповага для «геаграфічных» беларусаў усіх пасляваенных пакаленняў. Былі грамадзянамі «Страны Советов», а не Беларусі. «Читайте, завидуйте» і г. д. Вось і не надавалі значэння таму, што павінна быць галоўным у кожным дзеячы нацыянальнай дзяржавы.

*2000*

* * *

Які б ты ні быў пісьменнік — ты ёсць, пішаш, выдаеш кнігі толькі таму, што ёсць Мова. І ты радуешся, што цябе больш-менш — але ўсё ж чытаюць, значыць — ведаюць, прызнаюць, цэняць... Гэтай радасці ты б не меў, калі б не Мова. Мова цябе зрабіла пісьменнікам, Мова!

Дык чаму ж ты маўчыш, бачачы, што робяць з мовай запраданцы? Чаму ты не змагаешся за Мову? За рэжым, які быў бы на абароне роднай мовы, які ведаў бы, што такое Мова ў жыцці нацыі.

*2000*

* * *

Лозунг кіраўнікоў дзяржавы Рэспубліка Беларусь: «Наперад! Да вяршынь! Да росквіту! Перамагаючы і топчучы галоўную перашкоду на нашым шляху — беларускую мову!»

*2001*

* * *

Тыя беларускія дзеячы, што пачыналі ажыццяўляць ідэю нацыянальнага адраджэння (1917–1918), былі народнымі інтэлігентамі, г. зн. людзьмі еўрапейскай адукацыі і культуры і — людзьмі народнага выхавання, народнага сумлення, народнай маралі. Яны не маглі дзейнічаць грубай сілай... У той жа час Мяснікоў, Ландэр і іншыя бальшавікі ў Беларусі стаялі на пазіцыях антысялянскіх, антынацыянальных і кіраваліся жалезнай воляй, былі асабліва непрымірымыя да беларускіх рэвалюцыянераў, бо «даеш сусветную сацыялістычную рэвалюцыю!», «к чорту нацыянальныя дзяржавы!»

*2001*

* * *

Замежныя беларусісты, якія займаюцца мастацкім перакладам, напэўна заўважылі, адчулі, як нашмат лягчэй стала перакладаць найноўшыя творы беларускай прозы: непатрэбны і слоўнікі, досыць ведаць 2–3 тысячы беларускіх слоў. А перакладчыкам Гарэцкага, Чорнага, Калюгі, Пташнікава не хопіць ніякіх, нават самых поўных акадэмічных слоўнікаў. Хіба што дыялектныя дапамогуць. Вось такія змены адбываюцца ў мове нашай мастацкай літаратуры. Багацеем!

*2001*

* * *

Яднанне славян — рэч выдатная, але пры ўмове, што яно сапраўды брацкае, раўнапраўнае. А для гэтага трэба, па-першае, падняцца над рэлігійнымі вераваннямі, якіх аж некалькі: праваслаўе, каталіцызм, пратэстанцтва, мусульманства... А гэта — наўрад ці рэальна.

Па-другое, трэба, каб Расія перастала пашыраць імпершавіністычную экспансію. Каб не хітравала. Бо ніколі брацкай згоды, а значыць і яднання славян не будзе. Яднанне за кошт гібелі Беларусі? А наступная ахвяра — хто?

*2001*

* * *

На юбілейнай вечарыне П. Місько, у пакоі бібліятэкі Саюза пісьменнікаў... Бедненька — аж сумна. Так было і на юбілеях А. Моркаўкі, А. Баршчэўскага, Я. Мальца... Як да Кастрычніка ці на пачатку 1920-х, калі прытуляла «беларуская хатка»... Такія маленькія вечарыны, вузкім колцам, пры самадзейнасці бардаў... Ніякага дзяржаўнага маштабу, ніякіх адрасоў, шыкоўных папак... Ні тэле, ні радыё... Як усё здрабнела!.. На чым жа трымалася наша годнасць тады — яшчэ нядаўна, калі было і мнагалюдна, і святочна? Што стала — у нас і з намі?

*2001*

* * *

У душах людзей нарастае пачуццё пратэсту — з пачуцця сораму і крыўды. Заўчора сорам адчувалі адзінкі, учора — сотні, сёння — тысячы. Заўтра будзе яшчэ больш. Абавязкова! Бо не можа такога быць, каб у 10-мільённай нацыі ў наш час — падкрэсліваю: у наш час! — панаваў духоўна-маральны заняпад. Каб у грамадстве не абуджалася, не нарастала сіла, якая выбухне і скрышыць гэтае аледзяненне. Паглядзіце адно, колькі ў нас мастакоў і якія сярод іх прызнаныя ў свеце таленты!

*2002*

* * *

Кожны дзень безліч разоў чую па радыё, па тэле, чытаю ў газетах: на шчасце, адзіны народ, які быў сілком разарваны ў 1991-м, цяпер зноў уз'ядноўваецца; зноў мы збіраемся ў адно цэлае; зноў народ будзе адзіны... Так і гавораць, і пішуць. Народ будзе адзіны — рускі.

Адзіны? Рускі?

Дык а дзе дзеўся беларускі народ?

*2002*

* * *

У кожнай цывілізаванай краіне Нацыянальная Акадэмія Навук задае тон развіццю культуры, вядзе рэй, увогуле вызначае галоўную тэндэнцыю прагрэсіўнага поступу нацыі на шляху самасцвярджэння ў свеце. Які ж тон задае Нацыянальная Акадэмія Навук РБ? Якую тэндэнцыю вызначае? Тэндэнцыю — ператварыць беларускую Акадэмію ў дадатак да РАН? Тэндэнцыю — абезаблічыць, каб нацыянальным толькі фігавы лісток застаўся? Як і ў цэлым у культуры Беларусі?

*2002*

* * *

Ах, вялікія дзяды, чаму вы не пайшлі за Янам Чачотам? Чаму не прыслухаліся, як ён называў і нашу зямлю і нашу мову? Чаму не адчулі пагрозу — небяспеку ў накінутым царыцай найменні? Пайшлі б усе за Чачотам — і ўсё было б як мае быць! Крывія! Крывічы! Крывіцкая! І ніякай Русі — ні белай, ні чырвонай!

*2002*

* * *

Кожны інтэлігент любой нацыі перш за ўсё і лепш за ўсё ведае культуру (гісторыю, мову, мастацтва, літаратуру) сваёй нацыі, і гэта натуральна. А ў нас — адзінкі такіх... Затое — колькі варачэнцаў-перараджэнцаў!.. А было ж калісь: кожны беларускі селянін і гараджанін ведалі Сваё (быт, веру, звычаі, абрады, песні, увесь фальклор наогул) і даражылі, і ганарыліся... ведалі зямлю, прыроду (дрэвы, травы, птушак), асаблівасці клімату, народныя прыкметы і павер'і. Чужое — дабаўлялася, але не выцясняла, не замяняла сваё, роднае.

*2003*

* * *

Колькі людзей у нас могуць з зайздросным веданнем гаварыць пра сучасных іншаземных дзеячаў мастацтва і літаратуры і — ні ў зуб нагой пра сваіх беларускіх! І лічаць гэта натуральным. А між тым — колькі імі страчана ў выніку такой неразумнай, абсурднай пазіцыі, якія каштоўныя духоўныя багацці!..

*2003*

* * *

Усе нашы заклікі захоўваць, даражыць, цікавіцца нацыянальнай культурай будуць даваць мала плёну — датуль, пакуль не пачнем гэта ўнушаць дзецям ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, з першых дзён у школе.

*2003*

* * *

Мы шануем не тых, што вялікія сумленнем, а тых, што «вялікія» нахабствам, прагай нажывы, подласцю. О, калі б мы шанавалі іменна тых, што вялікія сумленнем — сваім і нашым усебеларускім сумленнем!

*2003*

* * *

«Сёння беларускі літаратар павінен еўрапеізавацца...»

А што гэта значыць — еўрапеізавацца? Павысіць інтэлектуальны, духоўны ўзровень? Пераймаць «адтуль» прыёмы пісьма? (Напрыклад, пісаць вершы без знакаў прыпынку?) Пазбаўляцца нацыянальнага аблічча? (Пісаць — як на эсперанта: без водару роднай зямлі, гісторыі, духу?)

Дык вось: у Беларусі ў пачатку XX ст. самымі еўрапеізаванымі былі М. Багдановіч, М. Гарэцкі... Пісалі на ўзроўні тагачаснай еўрапейскай літаратуры. Але былі і ярка-нацыянальнымі.

*2004*

* * *

Калі сёння і трэба чым абурацца, дык гэта тым, што ўсё яшчэ зусім мала прыкладаецца намаганняў, каб людзі хутчэй і лягчэй авалодвалі беларускай мовай (хоць збольшага для пачатку: навучыцца чытаць, разумець, карыстацца пасіўна).

Пазарэз патрэбны двухмоўныя слоўнікі — асабліва кішэнных фарматаў. Хто, якое выдавецтва пахваліцца, што такія слоўнікі стаяць у плане і ў самы бліжэйшы час выйдуць на-

кладам 300–500 тысяч асобнікаў, каб нават у кожнай прадуктовай краме, у касе, як талоны на праезд, прадаваліся?

*2004*

* * *

Стаць членам Іспанскай Акадэміі — найвялікшы гонар для кожнага іспанскага пісьменніка. Так і ва ўсіх краінах Еўропы. Калі пісьменнік акадэмік — значыць, ён належыць да ліку самых лепшых, самых таленавітых і ўплывовых. Так павінна было быць і ў нас. Але... У нас у акадэмікі не так выбіралі, як назначалі, і глядзелі не толькі на мастацкую вартасць творчасці, але і на беззаганныя паводзіны і на пасаду. У пасляваенны час акадэмікамі былі М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Глебка, П. Броўка, М. Танк, І. Шамякін... Ну, добра. Таленавітыя, вядомыя, нават папулярныя. А А. Куляшоў? А І. Мележ? А П. Панчанка? А Я. Брыль? А В. Быкаў? Чаму іх не выбралі ці не назначылі? Хіба — менш таленавітыя? Не заслугоўвалі?

Так, у вачах правадыроў — не заслугоўвалі.

*2004*

* * *

Што рабілася дзясяткі гадоў у душах беларусаў, найперш — у душах беларускай інтэлігенцыі? І што ў іх назбіралася, накапілася, напрарастала! Колькі сумненняў і расчараванняў, колькі крыўды і знявер’я, пакут і болю!

*2005*

* * *

Сёння пад пытаннем не той ці іншы мастацкі стыль, жанр, пошук, эксперымент — пад пытаннем сам сэнс існавання нашай літаратуры.

*2005*

* * *

За апошнія 15 гадоў я прачытаў у расійскім друку мноства публікацый пра нацыянальнае адраджэнне Балгарыі (другая палавіна XIX ст.). Вядома ж, у рэчышчы ідэі славянскага брацтва. А пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі (канец XX ст.) не прачытаў нічога. Няма! Каб хоць адна брашурка! Каб хоць адзін артыкул! Хаб хоць адна нататка! Каб хоць адзін абзац! Каб хоць два-тры слоўцы ў падтрымку! Маўляў — вітаем! Зычым поспехаў! Жыві і адраджайся, Беларусь, краіна братоў нашых!

Можа, прачытаю ў наступныя 15 гадоў?..

*2006*

* * *

Выпадкова злавіў у эфіры і паслухаў перадачу «Песні пра Мінск». Ніводнай на беларускай мове! Ніводнай! Аўтары тэкстаў — ніводнага беларускага паэта! Ніводнага! Хораша гучаць (напрыклад, у выкананні Гайды і Падгайскага), але гэта не пра Мінск песні, а пра нейкі савецкі горад наагул, пра расійскі. Ніводнага знаку беларускасці Мінску — ні з гісторыі, ні з архітэктуры, ні з этнаграфіі — ні знаку!.. Вось вам і песні пра сталіцу Беларусі!

*2.VII.2009*

* * *

Супроць чаго нам, беларусам, трэба змагацца? Супроць шкоднай, злачыннай палітыкі дыфузіі насельніцтва. Калі так будзе ісці працэс далей — мы, беларусы, як нацыя загінем, мы сыдзем паступова на нішто. Спачатку нас стане ў сваёй краіне 60%, затым — 50, затым — 40, а 60% ужо будуць перасяленцы (рускія, азербайджанцы, таджыкі і г. д.). Пры слабым нацыянальным імунітэце — гэта страшна. А затым скажуць: ды вас тут ніколі і не было!

*2010*

## У гэтым і мудрасць…

Даўным-даўно, яшчэ недзе ў школьным узросце, пачуў упершыню гэту прымаўку: «Дурны, як бот з левай нагі». Пасля чуў яе неаднойчы. І сам прамаўляў пры нагодзе. Ніколі не задумваючыся: а чаму менавіта з левай? А што — з правай нагі разумнейшы?

У гэтым і мудрасць прымаўкі. Гэтым і інтрыгуе, і запамінаецца. Правакуе пытанне: а чаму? Чаму — з левай? Шукаць адказ, даваць тлумачэнне — справа марная. Народ так сказаў — і ўсё тут!

*1983*

## Лепш бы не ведаць…

У газеце «Правда» за 7.X.1988 змешчана публікацыя «Власть и Закон» — аб парушэннях законнасці ў СССР у 1930-я гады. Як кажуць: лепш бы не чытаць і нічога гэтага не ведаць. О, які жах! Якія страшныя людаедзіны кіравалі краінай і храбасталі жывымі лепшых з лепшых! Сталін, Вышынскі, Яжоў і іншыя пачалі знішчаць сацыялізм знутры. Вынікам іх злачынных, антычалавечных, людажэрскіх пастаноў і загадаў было ўсенароднае расчараванне. Яны адвярнулі ад сацыялізму мільёны людзей.

Вось такая наша гісторыя. Такі наш лёс. І як цяпер быць? І што рабіць? Перабудоўвацца? Лёгка сказаць...

*1988*

## Дык адкуль і з чаго крык, шаноўныя?

І вось нашы браты ў нас закрычалі: «Мы не павінны цярпець факты дыскрымінацыі па нацыянальнай прыкмеце». (Гэта значыць, рускіх у Беларусі.)

Скажыце, шаноўныя: а дзясяткі гадоў дагэтуль — дыскрымінацыі не было? Ды было горш, чым дыскрымінацыя! Быў фактычна генацыд. Быў жалезны курс на знішчэнне нацыянальнай мовы, нацыянальнай культуры, а значыць, і

самой нацыі. Пра якую дыскрымінацыю вы, шаноўныя, закрычалі? Дзе яна? А вось дзе яна была зусім нядаўна — бачна ўсяму свету. Ці, можа, гэта быў росквіт сацыялістычных нацый?Калі я не мог знайсці ў Мінску ні адной беларускай школы, каб вучыць сваё дзіця ў роднай мове — у мове вялікага славянскага народа — гэта была не дыскрымінацыя? Не здзек? Не прыгнёт па нацыянальнай прыкмеце? Ды што ў Мінску! Ні ў адным горадзе і гарадку Беларусі! А яшчэ праз 10-15 гадоў — і ні ў адной вёсцы ўжо не знайшоў бы беларускай школы.

Дык што ж вы цяпер так закрычалі пра дыскрымінацыю гэтак званага рускамоўнага насельніцтва? Што — яму няма дзе ў нас вучыцца рускай мове? Ах, ёсць дзе, ёсць?! Літаральна на кожным кроку ёсць! Дык адкуль і з чаго тады гэты крык, шаноўныя?

*1991*

## Пытанне «на засыпку»

Адбыўся развал СССР — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Каб жа СССР! Саюза ўжо не было. Была імперыя — са смехатворнымі «суверэннымі правамі» рэспублік. Семдзясят гадоў «малацілі» ў друку, па радыё і тэле, на сходах і мітынгах пра Саюз раўнапраўных. А трэба было «малаціць» пра Саюз бяспраўных. Суверэнітэт Беларусі быў поўнай фікцыяй. Вярхоўны савет, Урад, ЦК КПБ — фігавыя лісткі. Ніводнага самастойнага кроку БССР не магла зрабіць — ніводнага! Нават ва ўнутранай палітыцы, не кажучы пра знешнюю (хоць і член ААН).

Ну, і вось развал... Распаўся «нерушимый». А ці мог бы ён захавацца і існаваць далей, калі б сапраўды быў саюзам раўнапраўных, суверэнных дзяржаў? Ці ўсё адно распаўся б, паколькі «скрэпы» былі ілюзорныя? А якія маглі б быць не ілюзорнымі, а рэалістычнымі, г. зн. узаемавыгаднымі?

Пытанне «на засыпку».

*1991*

Чаму? Ды ўсё таму... Таму што наш грамадскі лад самы справядлівы ў свеце.

*1987*

## Пачалі думаць?

«Литературная газета», «Литературная Россия» і нават «Правда» пачалі досыць часта публікаваць матэрыялы па нацыянальным пытанні, найперш — пра становішча мовы і нацыянальнай культуры ў саюзных і аўтаномных рэспубліках, у нацыянальных абласцях і акругах. І пачалі ў гэтых мэтах даваць слова пісьменнікам-«нацыяналам». Так, у апошнім нумары «Лит. России» (11.9.1987) змешчана гутарка з вядомым нанайскім пісьменнікам Грыгорыем Ходжэрам. (Помню яго па Трэцяй Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў у студзені 1956 года.) Ходжэр паездзіў па родным краі і дзеліцца сваімі думкамі.

«Это поколение... может совсем позабыть свое «нанайское» прошлое, но может к нему и вернуться. Ситуация для небольшого народа драматическая. Не случайно некоторые мои герои выход увидели в обращении к водке».

«Не случайно у них появляется тоска по материнскому языку, по дедовским легендам и преданиям». «У них» — гэта ў самых маладых нанайцаў, жыхароў роднага кутка Ходжэра. Факт відавочны: ужо не ўся нанайская моладзь валодае роднай мовай. «Язык нанайцев может умереть, — сумна уздыхае Ходжэр. — Раньше в печати об этом умалчивали. Проблема сохранения и развития родного языка северян считалась закрытой темой».

Уздыхнуў Ходжэр — уздыхаю, толькі яшчэ больш сумна, і я, прадстаўнік не маленькага, а 10-мільённага еўрапейскага народа.

*1987*

## З прамовы Яна Райніса

У зборніку «Працы акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» (Менск, 1927, с. 25) змешчана прамова ганаровага госця канферэнцыі, славутага латышскага паэта Яна Райніса. Мудрэц ёсць мудрэц, і верны сябар ёсць верны сябар. Вось урывак з яго выдатнага слоўца:

«Мне здаецца, што беларускі народ, які меў ужо высокую культуру ў той час, калі ў нас не было яшчэ ніякай культуры, гэты народ хутка дасягне культуры агульнаеўрапейскай і зойме віднае і пачэснае месца ў сям'і іншых народаў. Ваша будучыня самая слаўная. Гэтай слаўнай будучыні я і жадаю беларускаму народу...»

*1988*

## Да чаго ж яны былі ўвішныя

У часопісе «Маладняк» (№ 1 за 1931 г.) Алесь Кучар, якому толькі стукнула 20 гадкоў, апублікаваў артыкул «Пра адну рэакцыйную аповесць», у якім здрапежыў, збіў, счарніў выдатную аповесць Кузьмы Чорнага «Лявон Бушмар». Рэакцыйная — і ні больш ні менш. А рэакцыйная — значыць контррэвалюцыйная. Значыць — варожая. І аповесць надоўга знікла з поля зроку чытача. А на геніяльнага пісьменніка лягла чорная пляма, якая так і не сышла да заўчаснай — у 1944 годзе — смерці.

Што мяне асабліва здзіўляе — што ролю бязлітаснага суддзі-грамілы узяў на сябе 20-гадовы шпінгалет. Зялёны невук замахнуўся на творчасць вядомага, выдатнага майстра слова — самую вялікую надзею тагачаснай беларускай літаратуры. У мастацтве пісьма ён не разбіраўся, ён быў дока ў пытаннях ідэйнасці, ён скрозь зямлю бачыў рэакцыйнасць, то-бок контррэвалюцыйнасць.

Колькі ж яны, гэтыя ўвішныя невукі, нанеслі шкоды нашай літаратуры, нашай нацыянальнай трываласці!

*1988*

## Але якая мова!..

Наткнуўся на першавыданне зборніка гумарыстычных вершаў Альберта Паўловіча «Снапок» (1912). З цікавасцю перачытаў. Ну, гумар, шчыра кажучы, такі — невысокага кшталту. Але затое — мова. Якая жывая вясковая мова! Якая фразеалогія! Якая выразнасць інтанацыйная! І ні паланізмаў, і ні русізмаў — чысцюткая беларушчына!.. А быў жа не з мужыкоў.

Не, трэба ім аддаць належнае, гэтым нерэвалюцыянерам-недэмакратам!..

*1988*

## Беларускі каляндар. Год 1913

Выдадзены каляндар у Вільні, у друкарні М. Кухты.

Пад рубрыкай «З Роднай Нівы» друкуюцца творы Купалы, Багдановіча, Коласа, Буйло, Гаруна, М. Арла, Бядулі, Власта, Ядвігіна Ш., Гурло. На тытуле два радкі (заклік) Бр. Свідэрскай: «Нашу мову, нашу песню між людзей шырыце!» (У сэнсе: пашырайце!)

У Бядулі знайшоў знаёмае мне з дзяцінства наша лагойскае слоўца «пукаецца» (пупышка пукаецца, дрэва пачынае распускацца). Нідзе, апрача як у нас, ніколі не чуў, не сустракаў.

*1988*

## «Саха»

Чытаю беларускі часопіс «Саха». Раней, сорамна прызнацца, не чуў, не ведаў, што гэтакі быў у нас. Пад назвай часопіса значыцца: «Першы беларускі журнал сельскай гаспадаркі. 1920, чэрвень. 3–4 кніжка. Год выдання — IX».

Першы... Для сельскіх гаспадароў... Яшчэ нават не часопіс, а журнал. Але ж — беларускі! На мове гэтых сельскіх гаспадароў!..

Вось так пачынала ісці ў народ роднае друкаванае слова. А хто ж былі яны — тыя пачынальнікі? Хто? Вялікія, мудрыя людзі.

*1988*

## Народны...

У мяне ў руках «Беларускі народны каляндар на 1929 год», выдадзены ў Вільні. Кінулася ў вочы слова «народны». Не проста беларускі, а народны. Народны!

Божа, які каштоўны каляндар! Колькі і якой даступнай для простых людзей інфармацыі! Другая палавіна названа: «Мы і наша Бацькаўшчына». У ёй — матэрыялы па гісторыі і культуры Беларусі, па мове. Вершы Н. Арсенневай і М. Васілька, Фр. Грышкевіча, С. Песюна. Гартаю, чытаю і думаю: якая ішла ў Заходняй Беларусі праца па згуртаванні нацыянальна-патрыятычных сіл! У канцы 1920-х.

*1988*

## Мудры Ільін

У часопісе «Родина» (1990, № 10) наткнуўся на мудрае выказванне вядомага рускага філосафа І. Ільіна, да якога, на вялікі жаль, Расія ў свой час не прыслухалася. «Ні на класавай, ні на расавай, ні на партыйнай нянавісці Расію нам не адрадзіць і не пабудаваць... Мы павінны ачысціць сябе ад гэтых разбуральных сіл і пагасіць, выкараніць у сабе гэты дух пагрозлівых грамадзянскіх войнаў».

*1990*

## Шкада скокаў пад чужую дудку?

Газета дэмакратычных плыняў прыдзвінска-прыдняпроўскага краю «Выбар» апублікавала ўрыўкі з прамоў В. Ф. Кебіча ў Віцебску, дзе ён сустракаўся з народам на прадпрыемствах, са спецыялістамі сельскай гаспадаркі, з ва-

еннаслужачымі. І сказаў там кіраўнік Урада Беларусі такое, што вось чытаю-перачытваю і не магу паверыць вачам сваім. Гаварыў В. Ф. пра падпісанне ў Віскулях Пагаднення аб распадзе СССР. Цытую (у перакладзе на беларускую): «Калі мы падпісалі... то што тут толькі было! Намі авалодалі такія эмоцыі, што некаторыя тут жа запатрабавалі, каб на стол падалі шампанскага. Калі мы выйшлі з гэтага закрытага пакоя, эксперты сказалі: «А вы знаеце, што вы такое ўчынілі? Вы ж увогуле не проста путчысты, вы — пушчысты». Так мы і атрымалі гэту назву — пушчысты, ад імені пушчы, у якой увогуле-то здзейснены дзяржаўны пераварот. Ды што там казаць? Ну так! Ну так! (...) Дастаткова было адной вашай роты, каб гэтых пушчыстаў узяць за карак і кончыць увесь гэты пераварот. Але я так разумею, што і разведка, і органы дзяржбяспекі, і мы не разумелі, што мы рабілі. Вось ЧП і адбылося. ЧП у Белавежскай Пушчы».

Гэта — з выступлення перад ваеннаслужачымі.

Недарослыя хлапчукі не ведалі ў Віскулях, што яны робяць.

Калі хто з падпісантаў і не ведаў, дык хіба што адзін Вячаслаў Францавіч. Хіба што адзін ён!.. Падпісалі пагадненне, што СССР больш — з гэтай хвіліны — не існуе, і не ведалі, што падпісалі? Ну навошта ж хітраваць, прыкідвацца някемным дзіцём, шаноўны прэм'ер? Навошта? Калі гаворка ідзе пра лёс народаў і пра лёс нашага — гаротнага беларускага народа, які нарэшце атрымаў незалежнасць, стаў сам сабе гаспадаром, — дык навошта ж крывадушнічаць і трымацца за ўладу? Значыць, назад у Саюз, у кучу? Значыць, лепш выконваць каманды з Крамля, скакаць пад чужую дудку, чым будаваць сваё, любае сэрцу свабоднае самастойнае жыццё?

Госпадзе Божа мой! — Усё, што вырываецца з душы, прачытаўшы.

*1992, сакавік*

## Здавалася б, маючы такіх мудрацоў, такіх навукоўцаў…

Акадэмік Віктар Антонавіч Каваленка апублікаваў на старонках «ЛіМа» (7.4.1995) артыкул «Заклік да маршу ў нікуды». Даўно я не чытаў такога разумнага, глыбокага слова пра нашу беларускую сітуацыю, даўно не перажываў такой радасці ад сустрэчы з талентам. Падам толькі адну цытату.

«...Справа не ў запалохванні. Прэзідэнт — па ўсім ужо відаць — не з палахлівых. Справа ў мудрасці. А мудрасць прэзідэнту патрэбна, каб апамятацца, каб не рабіць заяў і не арганізоўваць акцый, з якіх пасмяецца свет. (...) Сутнасць праблемы ў тым, што ні дзяржаўнасць мовы, ні змест нацыянальнай сімволікі не належаць да тыпу пытанняў, па якіх можна праводзіць усенароднае галасаванне. Гэта пытанні спецыфічных кампетэнтных ведаў, і таму яны не вырашаюцца на ўзроўні масавай свядомасці.

Ідэя падобнага рэферэндуму магла ўзнікнуць толькі ў галовах людзей абсалютна гістарычна неадукаваных, недалёкіх палітыкаў, поўнасцю недасведчаных у галіне міжнароднай практыкі».

Як дакладна і як справядліва! Як мудра! Здавалася б, маючы такіх мысляроў, такіх навукоўцаў, Беларусь можа... Здавалася б!.. А вось жа не можа...

*1995*

## У бясстрашным «ЛіМе»

Сапраўды бясстрашны «ЛіМ» з нумара ў нумар друкуе водгукі чытачоў на подлы рэферэндум. У апошнім нумары (за 18.8.95) змешчаны артыкул пісьменніка Ю. Станкевіча «Мёртвы напрамак» з падзагалоўкам «Нататкі песіміста». Гэта — адзін з самых горкіх і балючых водгукаў. Ва ўрэзцы «Ад рэдакцыі» чытаем: «Падобных лістоў «ЛіМ» яшчэ не друкаваў. Тое, што адбылося на Беларусі 14 траўня, прымусіла многіх шчырых адраджэнцаў схамянуцца, задумацца

і пачаць шукаць адказ на пытанні: як магло такое здарыцца і... куды ж мы ідзём?»

Прыйдзе час — і нашчадкі ацэняць нашу пісьменніцкую газету, — яе бясстрашнае змаганне за Беларусь.

*1995, жнівень*

## Геніі і прыліпалы

«У моих друзей нет чувства Родины», — сказаў Сяргей Ясенін пра тых, што плоймамі ліплі да яго («Серега, Сережа, ну давай!..»). Ліплі — бо ва ўсіх сэнсах было надта ж выгадна. У гэтых плоймах былі і вершаробы, і нават з набітай у рыфмаванні рукой. Але — без «пачуцця Радзімы». А ён быў пранізліва-нацыянальны, само-сабой — геніяльны, рускі паэт. Такім — пранізліва рускім і геніяльным — пасля Сяргея Ясеніна быў толькі Аляксандр Твардоўскі.

*1996*

## У Вільні. За кошт аўтара

Прачытаў брашуру Ант. Навіны (А. Луцкевіча) «Янка Купала як прарок адраджэння» (У пяцідзясятыя ўгодкі народзін поэты. Лекцыя. Вільня, 1932).

На вокладцы пазначана: за кошт аўтара.

Магутная лекцыя! Дай Бог сёння беларусам паслухаць або пачытаць такую лекцыю! Якія за Прарокам ішлі Волаты нацыянальнага адраджэння!..

*1999*

## Чарговае палітычнае шоу?

У друку і па тэлерадыё абвешчана, што ў траўні адбудзецца Другі Усебеларускі з’езд. Ну што на гэта можна сказаць? Не думаю, зусім не думаю, што гэтая абвестка хоць каго-небудзь у Беларусі ўсхвалюе. А чым можа ўсхваляваць гэтае чарговае палітычнае шоу? Хіба тым, што на яго будуць

выкінуты чарговыя шматмільённыя «крохі» з бюджэту краіны? Мэты яго больш чым зразумелыя: яшчэ раз «народ» аднагалосна падтрымае адзіна правільны курс, якім вядзе нас наперад, да вышынь прагрэсу, мудрае кіраўніцтва. Можна, зусім не баючыся памыліцца, сказаць: Другі Усебеларускі з'езд будзе як дзве кроплі вады падобны на Першы. Усё — да апошняй дробязі — будзе гэтаксама, як было на папярэднім.

Помню: я ўважліва слухаў па тэлеэкране прамовы яго дэлегатаў. І што ж пачуў? Па-першае, ніводзін з іх не выступіў на мове народа, ад імя якога гаварыў. Па-другое, ніводзін дэлегат не сказаў пра самае галоўнае, пра самае балючае, пра самае трывожнае — пра трагічны лёс Беларусі, пра тое, куды мы, беларусы, ідзем, дакладней — куды нас вядуць, куды нас гоняць? І што нас чакае ў будучым — якая доля-нядоля? Як мы будзем жыць (мы, і нашы дзеці, унукі, праўнукі), калі апынемся там, куды нас заганяюць? Ці застанемся мы беларусамі?

*1999*

## Курс на вынішчэнне…

Хітрыя людзі прыдумалі заманлівую фразеалогію: «Стратэгія развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі». І многія на гэты кручок клюнулі. Ну а як жа не клюнуць: руплíўцы дбаюць! Не пра што іншае, а пра нашу родную мову! Хочуць, каб яна развівалася! Глядзяць уперад на цэлае стагоддзе! Ах, якія малайцы!

Дарагія сябры! Удумайцеся і адумайцеся, разважце і схамяніцеся! Гэтая *абстрактная* стратэгія *абстрактнага* развіцця ёсць не што іншае, як небяспечная лавушка, як подла-хітры спосаб адвесці ўвагу грамадскасці, перш за ўсё патрыятычнай інтэлігенцыі, ад канкрэтнай надзённай задачы — беларускую мову трэба ратаваць! На ўзроўні дзяржавы ўзяты курс на яе поўнае выцясненне з грамадскага, а значыць і з бытавога ўжытку, а значыць — на вынішчэнне, на канчатковае вынішчэнне. І гэты курс звышпаспяхова ажыццяўляецца. У мэтах яго ажыццяўлення быў праведзе-

ны рэферэндум, быў перайначаны Закон аб мовах 1990 года, была навязана новая Канстытуцыя (1996), па якой у Беларусі сталі дзяржаўнымі дзве мовы — беларуская і руская, а фактычна — адна руская.

Ці гэта каму яшчэ не бачна і не зразумела?

*2001*

## З жахам думаю…

Да якой жа ступені трэба забіць у сабе чалавека, трэба страціць у душы сумленне, каб, ведаючы, што выдатныя грамадска-палітычныя дзеячы знішчаны, ліквідаваны як апазіцыянеры, пісаць і друкаваць такое: «Яны з'ехалі за межы Беларусі і недзе там жывуць-пажываюць...»! (Маюцца на ўвазе Ю. Захаранка, В. Ганчар і інш. — *Н. Г.*)

Што стане з нашым грамадствам, калі такі рэжым працягнецца яшчэ пяць гадоў? Да чаго дойдзе агульная маральная дэградацыя? А калі пратрымаецца пяць — то пасля яшчэ і дваццаць пяць, бо за гэтыя пяць усякая мараль, усякая чалавечая годнасць будзе дабіта, ліквідавана канчаткова і... жах падумаць, што будзе з нашым няшчасным народам.

*2001*

## Пытанне ёсць…

На пасяджэнні Рады СБП адзін паэт з пакалення 40-гадовых сказаў: «Мы ўсе пачыналі з вершаў на рускай мове». Спантанна я запярэчыў: «Ну чаму ж усе? Я, напрыклад, не пачынаў. Наколькі ведаю, некаторыя мне равеснікі таксама...»

Пасля думаў над гэтым.

Відаць жа не так сабе ён сказаў «мы ўсе». Значыць, ведаў, — з размоў з сябрамі-паэтамі ці з іншых крыніц, — што «ўсе» ці амаль усе. І, канечне ж, меў на ўвазе сваё пакаленне.

Рэч не ў тым, што некаму большая пахвала (пачынаў пабеларуску), а некаму меншая (пачынаў па-руску). Купала пачынаў з вершаў на польскай мове, а Колас — з вершаў

на рускай, — ну і што? Абодва сталі класікамі беларускай літаратуры. Рэч у іншым — у пытанні: чаму маё пакаленне пачынала з беларускіх, а пакаленне 40-гадовых — з рускіх? А вось адказ на пытанне «чаму?» павінен быць. Ён падкажа нам, на якой мове пачынаюць пісаць сёння і на якой будуць пачынаць заўтра.

*15.XII.2001*

## Творцы і падробшчыкі

Ёсць творцы, іх мала, а ёсць інтэрпрэтатары і папулярызатары, пераробшчыкі арыгінальнага ў шырпатрэб. Іх страшна многа, гэтых «пераробшчыкаў», заўсёды гатовых спрытнякоў. А. Т. Твардоўскі ўспамінае, як у час вайны паралельна з «Василием Тёркиным» друкаваліся «Новые похождения бравого солдата Швейка» М. Слабадскога. Таксама была патрэбная работа, бо працавала на ідэю Перамогі, забаўлялацешыла байцоў. Ну дык і добра. Але было б недаравальнай памылкай не адрозніваць арыгінальную мастацкую творчасць ад інтэрпрэтатарства і падробкі.

*2002*

## Калі думаць пра лёс нацыі

«Мы (г. зн. Беларусь. — *Н. Г.*) павінны мець магутную баяздольную, першакласную армію, якая дасць адпор...» і г. д. Сумна слухаць і чытаць такое. Гэта — недарэчны палітычны атавізм. Гэта — астаткі нязжытай імперскай псіхалогіі — з адпаведнай бальшавіцка-генеральскай фразеалогіяй, жыўцом перанесенай у сёння з часоў Сталіна — Хрушчова — Брэжнева. Іначай — як зразумець такую ваяўнічую фанабэрыю? Усе еўрапейскія дзяржавы, не большыя за Беларусь, кіруюцца ў сваёй унутранай палітыцы зусім іншымі прыярытэтамі: разлічаная на мірныя патрэбы прамысловасць, сельская гаспадарка, экалогія, навука, культура, турыстычны бізнес. Для развіцця менавіта гэтых сфер у Беларусі ёсць усе неабходныя ўмовы. Калі думаць пра перспектыву, пра

заўтрашні лёс нацыі, дык за прыклад, шаноўныя дзяржаўныя мужы, трэба браць мірную, нейтральную, эканамічна расквітнелую, прыгожа-дэмакратычную Фінляндыю. Вось наш арыенцір, на які павінен нас скіроўваць элементарны здаровы сэнс. У чым жа загвоздка, чаму не кіруемся?

Наконт прыбалтаў і Украіны чуем: «Ну што ў іх? Якія поспехі? Безліч праблем — эканамічных, сацыяльных і іншых». Так, праблем шмат, рух наперад не лёгкі, часам хапае і драматызму. Праблемы ёсць, але няма таго, што вызначае палітычнае аблічча Беларусі: няма халуйскага «пресмыкательства», няма ганебнага курсу на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальнага суверэнітэту. Няма ў мільёнаў грамадзян цяжкага і брыдкага пачуцця: «Дык хто мы? І што ёсць наша дзяржава?» — пачуцця, якое мучыць нас, беларусаў.

*2002, чэрвень*

## «Что вы, братцы-белорусы, за люди?..»

Помню, зайшоў да мяне ў Саюзе пісьменнікаў паэт з Браншчыны. «Слушайте, недавно у нас был ваш белорусский поэт... Извините, но он абсолютно всех вас оплевал, вы все бездари, дерьмо и т. д. Что вы, братцы-белорусы, за люди?..»

Ужо колькі гадоў думаю і думаю аб гэтым: што мы, беларусы, за людзі? Адкуль у нас гэтае самаедства? Ад таго, што ў стагоддзях былі халуямі, слугамі, чэляддзю? Ад зайздрасці, што большы кусок з панскага стала дастаўся не мне? Чаму рускія пісьменнікі яўрэйскай нацыянальнасці гарой стаяць за сваіх аднапляменнікаў? Гэтак жа — і армяне, і грузіны, і азербайджанцы, і летувісы, і эстонцы. Падчас пленума СП СССР у Маскве масціты паэт Арсеній Таркоўскі звярнуўся да мяне з просьбай: «Поддержите поэта Вениамина Блаженного. Он очень талантливый, а его в Минске обижают...» Тады ж Канстанцін Ваншэнкін, з якім мы асабіста не былі знаёмыя (як і з Таркоўскім), падышоў і сказаў мне: «Слушайте, у вас есть такой прекрасный поэт Наум Кислик,

а вы, белорусы, его недооцениваете, не помогаете с изданием книги...»

Вось як трэба, браткі-беларусы! Вось у каго трэба вучыцца павазе і любові да сваіх аднапляменнікаў! А не аплёўваць і не абзываць дзярмом.

*1988*

## А гвалтаўнікі нашай маці ўшанаваны

Ландар і Мяснікоў былі зацятымі ворагамі незалежнай Беларусі і беларускага народа. Можна падумаць, што сябрамі і абаронцамі суверэннай Беларусі былі бальшавіцкія фанатыкі Валадарскі, Урыцкі або нямецкія бальшавікі Лібкнехт, Люксембург... Чаму ж іх імёнамі ў нашых гарадах названы вуліцы? Чаму? Хто мы і дзе мы жывём, людзі? Чаму дагэтуль церпім здзек з нашай нацыянальнай годнасці? Можаце ўявіць: сын маці, якую гвалціў і мучыў нехта, павесіў у сваім доме партрэт гэтага гвалтаўніка? Не можаце такое ўявіць? А чаму ж імёны гвалтаўнікоў Маці-Беларусі ўвекавечаны на вуліцах сталіцы і іншых гарадоў краіны? Як жа трэба не паважаць сябе і як трэба не любіць Маці, каб дазволіць такое ў сваім беларускім доме?

А тым часам вуліц, названых імёнамі выдатных сыноў і дачок Беларусі, ні ў сталіцы, ні ў іншых гарадах краіны няма. Няма вуліцы акадэміка Ігнатоўскага, вуліцы Лёсіка, вуліцы Некрашэвіча, вуліцы Ластоўскага... Жахліва, неверагодна жахліва, але... вялікі беларускі паэт Алесь Гарун не ўвекавечаны ў родным Мінску! «Ты, мой брат, каго зваць беларусам, Роднай мовы сваёй не цурайся!..» Гэта — пачатак верша Гаруна. Гэта і прычына, чаму ў нас няма вуліцы Гаруна.

*1991*

## Справа не ў партыйнасці…

Сёння многія нашы грамадзяне, асабліва маладога веку, бязбожна абсалютызуюць факт партыйнай прыналежнасці. На першае месца ставіцца пытанне — хто ты: ці былы член КПБ, ці не? Калі не — будзем з табой мець справу, калі ж былы — усё. Прэч! Ніякай размовы! Такі падыход не вытрымлівае крытыкі. Спадары не хочуць думаць, што ў нашым грамадстве, пры нашым узроўні культуры, маралі, пачуцця чалавечай годнасці і гонару пытанне аб партыйнай прыналежнасці вельмі і вельмі адноснае. Хочаце пераканацца? Паглядзіце, як лёгка, ані чмыхнуўшы, тысячы камуністаў перакінуліся, абярнуліся ў заўзятых антыкамуністаў. Паглядзіце, хто сёння паспеў у прыватным бізнесе стаць мільянерам? Хіба не былыя партакраты, высокія партыйныя саноўнікі? Побач з тымі, вядома, хто ніколі партакратам не быў, наогул не быў у партыі, але заўсёды быў хапугам і злодзеем, у адрозненне ад першых — беспартыйным хапугам і злодзеем. Цяпер яны працвітаюць ці пачынаюць працвітаць разам — на вачах «не здольных» да такога працвітання, на вачах няшчасных, аб'яднаных жабрацкай роўнасцю і беспартыйных, і былых партыйцаў (членаў КПБ). Паглядзіце, нарэшце, на некаторых членаў наваствораных партый — на тых, што сёння маюць уладу або проста маюць магчымасці: можа, яны вылучаюцца ўзорнай маральнасцю, высакароднасцю, сціпласцю, можа, яны начыста пазбаўлены «хапальных рэфлексаў», можа, яны зусім не здольныя пакарыстацца гэтак званымі «зручнасцямі» быту, радасцямі жыцця, раскошай?

Ну, што вы, што вы! Роўненька гэтак, як і былыя партакраты з ЦК, АК, ГК і РК КПБ, умеюць і яны паклапаціцца пра сябе, пра сябе і яшчэ раз пра сябе. А ўявіце, калі ім даць поўную ўладу? Як яны ёй пакарыстаюцца?

Таму і не трэба, не трэба, шаноўныя, захапляцца змагарствам на партыйна-палітычнай аснове. Напэўна, мала сэнсу гаварыць пра маральны абавязак тым, хто ўжо сёння сыта ласніцца ад шчасця, ад радасці за свой квітнеючы бізнес, ад

задаволенасці жыццём, лёсам. Наўрад ці можна спадзявацца, што забаліць душа за абяздоленых, за тых, хто сёння апынуўся ў жабрацкай беднасці, у бяспраўі. «Так ім, сумленным дурням, і трэба!» — не кажуць уголас, але думаюць разумнікі.

Так што справа не ў партыйнасці, справа — у здольнасці хапаць і красці.

*1992*

## Як жа лезе-вылазіць яна!..

Страшна бессаромныя лісты са скаргамі на Камісію па адукацыі і культуры прыходзяць у Вярхоўны Савет краіны. Пішуць: «Беларусь заўсёды была білінгвістычнай (двухмоўнай), такой яна павінна быць і далей».

Павінна быць і далей? Паглядзіце самі сабе ў вочы, панове! Яшчэ два-тры дзясяткі гадоў — і ўсё! Ніякага двухмоўя! Канчаткова запануе адна руская! Пішуць: «Рускую мову выганяюць са школы, прымушаюць адмаўляцца ад яе вывучэння...» Якая бессаромная хлусня! Хто адмаўляецца ў нас ад вывучэння рускай мовы? Хто і дзе яе выганяе са школы? Ну навошта гэта выдумляць? Дзеля чаго? Ды давайце хоць ураўняем іх — беларускую і рускую мовы — па становішчы! Па колькасці гадзін у школе.

Ах, шаноўныя, як жа ўсё-такі «лезе-вылазіць» з вас гэта непрыязнасць да мовы беларускага народа, як яна моцна сядзіць у вас і ў касцях і ў крыві! Як вы хапаецеся за ўсякую фразу закона, за якую можна ўхапіцца, за ўсякую больш чым сумніўную статыстыку! (Накшталт таго, што па дадзеных сацыялогіі толькі 6,5 працэнта бацькоў хочуць вучыць дзяцей на беларускай мове. Якой ці чыёй сацыялогіі? Вялікадзяржаўна-шавіністычнай? Тады дзіўна, чаму аж 6,5? Чаму не 1 або 0,5 працэнта? Відаць, толькі таму, каб хоць трохі было нейкай праўдападобнасці ў гэтай «сацыялогіі»!)

Ну і якую ж вы мэту ставіце? Самі сабе то, спадзяюся, вы не хлусіце, ведаеце — якую? Тады павінны ведаць, што дабром такія «хітрыкі» не канчаюцца. І павінны ведаць, што, калі б нацыянальнае пытанне вырашалася ў былым

СССР належным чынам — па-людску, з павагай да мовы і культуры кожнага народа, гэта значыць да душы народа, з забеспячэннем рэальнага раўнапраўя ў гэтай сферы, — не было б таго, што адбылося, бо, як кажа народная мудрасць: ад дабра дабра не шукаюць.

*1993*

## Варвары? Дзікуны? Аглаеды?..

Прачытаў у друку: загінула, сышло ў нябыт каля 80 працэнтаў усіх малых рэчак Беларусі. Удумаемся: каля 80 працэнтаў! Гэта значыць, з кожных дзесяці рэчак і рэчачак васьмі не стала. З кожных дзесяці засталіся дзве. З усіх краін Еўропы (а можа, і цэлага свету) Бог выбраў сабе як самую вартую ягонай ласкі Беларусь і надзяліў яе шчодра, як ніякую іншую, самым каштоўным багаццем — рэчкамі і рэчачкамі. Чаму ён гэта зрабіў — не ведаю. Не хочацца думаць, што і Бог здольны памыляцца, але... Але мы, беларусы, аказаліся не вартымі Боскага дару. Мы пусцілі яго на глум і пагібель. За лёс нашай зямлі ўзяліся... Хто? Варвары? Дзікуны? Аглаеды? Ці так, ці сяк, ці гэтак — нелюдзі.

Яшчэ ў 1967 годзе, жахнуўшыся ад таго, што творыць на нашай зямлі гэтак званая меліярацыя, я напісаў верш «Раўняюць хлопцы рэчку». Вось яго пачатак:

Раўняюць хлопцы рэчку,
Майго маленства рэчку...

Уласна, рэчкі ўжо няма —
Мінулае сканала:
Нібы напятая струна,
Прасцерлася канава.

Віроў, дзе кружыць лісце,
Дзе нас малых калісьці
Русалкамі палохалі, —
Не стала тых віроў,
Дзе шчупакі пялёхалі —

Будзь здароў!
І тых парэчак чорных,
Што над вадой кусціліся
І птушак незлічоных,
Што ў гушчары гняздзіліся, —
Няма, няма нічога.

Раўнюсенькія берагі.
Раўнюсенькае дно.
Як быццам кут зусім другі —
Не той, што знаў даўно.

У канцы верша я даю патлумачэнне, што прымусіла мяне ўзяцца за пяро. Глыбокае перакананне, што забойства жывой прыроды, тых жа рэчак і рэчачак — гэта забойства жывой чалавечай душы. Чалавек становіцца чалавекам у любоўным яднанні з прыродай.

Мне — душ шкада!
Хай будуць душы розныя,
Як нашы рэчкі родныя —
І з хвалямі бруістымі,
І з плёсамі празрыстымі,
З нябачнымі крыніцамі,
З вірамі-таямніцамі,
З вадзяніком, з русалкамі...
Стандартам іх не руш!
Хай будуць душы ўсякія,
Апроч нялюдскіх душ!

Ну, напісаў. Ну і што?

У Беларусі стратэгі і кіраўнікі меліярацыі беларускую паэзію не чытаюць.

*1997*

## Апошняе слова ў навуцы…

Калісьці ўсе грамадзяне СССР, якіх гэта цікавіла, ведалі, што апошняе слова ў мовазнаўстве XX стагоддзя сказаў правадыр усіх працоўных свету і карыфей усіх навук І.В. Сталін. Яго брашурка «Марксизм и вопросы языкознания» для ўсіх, хто тады вучыўся ці вучыў іншых у ВНУ Савецкага Саюза, была без перабольшання настольнай кнігай. Але прайшлі дзесяцігоддзі — і аказалася, што апошняе слова ў мовазнаўстве XX стагоддзя, куды больш глыбокае і мудрае, сказаў не І. В. Сталін, а іншы правадыр і карыфей, іншы бліскучы знаўца праблем мовы, іншы непараўнаны аўтарытэт у галіне філалогіі. Вось цытата з геніяльнай навуковай працы гэтага іншага: «Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык — бедный язык. В мире существует только два великих языка — русский и английский» (газета «Наша слова», 29 верасня 1999 г.).

Ну, гэтае апошняе слова ў нашым айчынным мовазнаўстве перакрыць ужо не ўдасца нікому — аніякаму і найвялікшаму карыфею.

*1999*

## Чужое ўсё гэта нам, чужое!..

Эстэтычна і маральна малапісьменныя людзі з непамернымі амбіцыямі і прэтэнзіямі да грамадства, да дзяржавы патрабуюць і дзейнічаюць. Даказаць ім што-небудзь немагчыма, бо — гэта размова на розных узроўнях не толькі інтэлекту, культуры, а, самае галоўнае, — маралі і сумлення. Небяспека для грамадства ў тым, што такі амаральны ўзровень можа запанаваць, і будуць правіць баль бездухоўнасць, пошласць, цынізм.

Іх мэта (спецыяльны заказ?) — распаліць у чалавеку нізкія жывёльныя інстынкты, забіць у чалавеку і без таго слаба развіты духоўны пачатак, аскацініць яго, аскацініць як мага больш насельніцтва, ператварыць людзей у жывёль-

ны статак. Для чаго? Статкам лягчэй кіраваць. Дастаткова мець палку ці бізун — і касмык сена, які можа называцца рублём ці доларам.

Усё, што мы робім насустрач рыначным адносінам, — ну хай сабе, ну добра — але чаму за кошт маралі? Чалавечнасці? Культуры? Эканамічны прагрэс, калі і ідзе, дык крокамі ліліпута, затое развал маралі ідзе крокамі Гулівера, сямімільнымі крокамі велікана, ідзе праз сродкі масавай інфармацыі, — асабліва і перш за ўсё. Гэта самы горшы від блудніцтва — блудніцтва духоўнага. Зараблянне грошай на самапрыніжэнні, на разбэшчванні, на самаагаленні. Гэта ўсё — тое, супроць чаго пратэстуе нармальны здаровы чалавек.

Гляджу на гэтых беспардонных пашлякоў і цынікаў... Дзе яны нарадзіліся і выраслі? Няўжо на гэтай зямлі? Пад гэтым небам? Сярод гэтых пагоркаў, лясоў і пералескаў? Сярод гэтых лугоў і палеткаў? Тут, дзе само паветра насычана іонамі дабрыні, спагадлівасці, памяркоўнасці, сумленнасці, сціпласці?.. Адкуль жа гэтая драпежніцкая хцівасць, бесцырымоннасць, жорсткасць, гэта агідная бессаромнасць? Чужое ўсё гэта душы і розуму нашага народа, яго адвечнай маралі і светапогляду. Чужое!

*Канец 1990-х гг.*

## Хто кіраваў краінай

Балгарская прэса перадрукавала з «Комсомольской правды» некаторыя вельмі цікавыя звесткі пра асобу Л. І. Брэжнева. Напрыклад, такія.

У «бацькі застою» было 114 ордэнаў і медалёў, у тым ліку тры зоркі «Героя Балгарыі» (!!!). У апошнія месяцы жыцця ён расплакаўся, калі зразумеў, што яго хочуць узнагародзіць ордэнам, а не «Залатой Зоркай» Героя Савецкага Саюза, і ў Крамлі хуценька ўзнагароду памянялі. Былі ў яго і дзве маршальскія зоркі з дыяментамі. Кіцель Брэжнева з узнагародамі важыў шэсць кілаграмаў. Належаў яму і ордэн «Перамога» («Победа»), які сёння каштаваў бы 16 мільёнаў долараў. На плацінавай зорцы, што ў аснове гэтага

ордэна, 170 звышкаштоўных камянёў па 16 карат кожны. Гэтым ордэнам Л.І. Брэжнеў узнагародзіў сябе ў 1978 годзе, праз 33 гады пасля Перамогі (пасля Другой сусветнай вайны). У 1989 годзе, праз сем гадоў пасля смерці Брэжнева, М. С. Гарбачоў адабраў у нябожчыка гэты ордэн: у яго прэзідэнцкай пастанове значылася, што «ўзнагароджаны не адпавядае патрабаванням на гэтую ўзнагароду».

У Брэжнева нават былі дублікаты ўсіх зорак Героя. Пасля смерці знайшлі ў скрынцы 34 дублікаты — 13 зорак Героя Сацыялістычнай Працы і 21 зорку Героя Савецкага Саюза. Усе дублікаты былі з чыстага золата.

Ну, дык хто кіраваў вялікай краінай? Нармальны здаровы чалавек? А хто быў з ім побач? Хто слугаваў яго хворай дурноце?

*2001, снежань*

## Усё той жа пракляты вырак

Германія, калі яна сёння сапраўды дэмакратычная, павінна помніць сваю віну перад Беларуссю яшчэ і за 1918 год. Ах, як жа яна тады падгадзіла нам! Тады нам, беларусам, архіважна было атрымаць ад Германіі маральную і палітычную падтрымку — прызнанне Беларускай Народнай Рэспублікі як незалежнай дзяржавы. Германія прызнала тады незалежнасць Украіны і незалежнасць Летувы, а незалежнасць БНР — не прызнала. Які гэта быў подлы ўдар! І тут нам гістарычнае нешанцаванне! І тут усё той жа пракляты вырак над намі! Хоць бальшавікі не паглядзелі б на пазіцыю Германіі і заграблі б Беларусь усё роўна (як заграблі Украіну) — і ўсё-такі, і ўсё-такі! Прызнай нашу незалежнасць Германія — можа, прызналі б і іншыя еўрапейскія дзяржавы. А як бы гэта астудзіла апетыт польскіх шавіністаў — у іх прэтэнзіі на «крэсы ўсходнія»! Але — і незалежна ад усяго гэтага. Ну чаму прызнала Украіну і Летуву — а БНР не прызнала?

Ах, Германія, Германія! Мы ж бы і сёння — іменна сёння! — успаміналі б тваё прызнанне з удзячнасцю.

*2002*

## Дык думайма, браткі, думайма!..

У мове — духоўная энергія народа, якая акумулявалася ў ёй гістарычна, на працягу многіх стагоддзяў. І мы хочам далучыцца да гісторыі, да яе помнікаў, не выдаткоўваючы гэтай энергіі, не прыводзячы гэтую энергію ў рух? Без духоўна-душэўных затрат, якія ўтвараем, карыстаючыся родным словам? Не вызваляючы гэтую энергію? Скажам: за назвамі вуліц, паселішчаў — падзеі нацыянальнай гісторыі, у якіх акумулявалася энергія жыцця і быту, бо не было нічога выпадковага.

Ці можна выхоўваць павагу да помнікаў гісторыі і культуры — без павагі да мовы, да таго, што з'яўляецца вечнай і найбольш трывалай сувязной ніццю паміж эпохамі і часамі, паміж пакаленнямі? Адказ адназначны: немагчыма. Божа праміпы, як жа даказаць такім адукаваным і асвечаным таварышам, што ў мове — у мове! — жывая сувязь стагоддзяў, эпох, пакаленняў, перадавых ідэй, народнай памяці, болю — усё ў мове! Без мовы — без яе вечна жывога і жыватворнага пульсавання ў нас, у нашых пачуццях, у нашых душах — усё гэта застаецца, як правіла, на ўзбоччы нашай самай глыбіннай чалавечай сутнасці, нібы чужое, хоць і цікавае, займальнае. Калі мы душою, мыслямі, пачуццямі не ў мове, не ў яе жывой стыхіі, — то наша сувязь з усім гэтым не жывая, не арганічная, не кроўная. І наш клопат пра ўсё гэта — як клопат не пра родных, а пра чужых дзяцей, якіх таксама, вядома, шкада, таксама любім, але нямногія падымаюцца да адчування іх як сваіх родных.

Вось чаму расправа з мовай — расправа з культурай — расправа з уласнымі імёнамі і назвамі — расправа з памяццю народа — расправа з гісторыяй — расправа з нацыянальнай свядомасцю — расправа з нацыяй як этнічнай асабовасцю, — гэта... крокі насустрач сваёй нацыянальнай смерці.

Дык думайма, браткі-беларусы, думайма!

*1990*

## Боль Купалы

Чаму дзясяткі гадоў абыходзілі, замоўчвалі ў Беларусі галоўны душэўны боль Янкі Купалы? Чаму на першым месцы ў яго творчасці, у яго пакутных песнях-думах бачылі сацыяльнае становішча беларускага мужыка — і ўсю размову зводзілі да гэтага? Таму што была схема, прадыктаваная зверху: Купала — абаронца сацыяльна абяздоленых. Такі і замацаваўся ў свядомасці чытачоў імідж паэта. Пасля пачалі патроху гаварыць і пра песняра беларускай прыроды, і пра паэта-філосафа. Але — усё абмінаючы і абмінаючы галоўнае, а іменна тое, што Купала-прарок і сцяганосец беларускага нацыянальнага Адраджэння, што ў яго творчасці нязмоўчна крычыць боль і гнеў знявечанай, растаптанай душы беларуса.

Толькі ў самы апошні час у даследчыкаў творчасці вялікага паэта акцэнты змясціліся на галоўнае, чым ён жыў і дзеля чаго прыйшоў у паэзію.

*2002*

## І вось з'явіліся суддзі...

На жаль, не маю ні сілы, ні здароўя, каб браць слова ў размовах пра сучасны стан беларускай літаратуры. З-за хваробы вачэй не магу шмат чытаць, сачыць за навінкамі, асабліва ў прозе. Таму хачу выказацца пра тое, што ведаю лепш, — пра беларускую літаратуру савецкага перыяду, у якой адпрацаваў гадоў сорак (да развалу СССР). Прашу прабачэння, але: за савецкім часам напісаў і апублікаваў каля дзясятка паэм і раман у вершах, і ні ў адным з гэтых твораў няма партыйных лозунгаў, няма партыі, няма вобраза камуніста... А што ёсць? Ёсць жыццё народа. Майго народа. Сярод якога і з якім жыў. Ёсць лёсы людзей, іх драмы і трагедыі, іх духоўныя памкненні, іх прага лепшага, светлага, іх вера ў дабрыню, у чалавечнасць, у здаровы сэнс пражытага бацькамі і дзядамі. Ёсць вернасць нацыянальным традыцыям, духоўным і мастацкім скарбам, ёсць боль за ўсё, што чынілася нелюдзямі або ідыётамі на нашай зямлі.

Многія з сённяшніх маладых (ды і не такіх ужо маладых) заяўляюць: мы будзем іншымі, чым нашы папярэднікі, пісьменнікі савецкага часу. Мы не будзем ідэйнымі. Будзем — пазаідэйнымі. Будзем як мага далей ад сацыяльнасці. Але ў такім разе — на каго, на якога чытача разлік? На шырокага? На масавага? Не трэба баяцца гэтага слова: мара кожнага пісьменніка — каб яго чыталі многія, масы. І масы чыталі! Кнігі Мележа, Брыля, Караткевіча, Казько, Стральцова і іншых разыходзіліся велічэзнымі накладамі. Чыталі і зачытваліся. Бо было цікава. Бо — вельмі таленавіта напісана пра жыццё, пра чалавека. І вось — цяпер кнігі многіх папярэднікаў замоўчваюць. Бо, ці бачыце, «савецкія». Бо — належаць да «сацыялістычнага рэалізму».

Таленавітыя беларускія пісьменнікі ніколі ў літаратурныя гульні не гулялі. Яны працавалі. Яны тварылі. Яны пісалі кнігі, за якія не сорамна не толькі перад сваім народам, але і перад цэлым светам. Чым хутчэй гэта зразумеюць «суддзі» — тым будзе лепш. Не толькі для літаратуры, але і для Беларусі.

*2003*

## Чатыры словы Аляксандра Яшына

У маскоўскай «Литературной газете» за 20–26 сакавіка 2013 года прачытаў артыкул Фелікса Кузняцова пра знакамітага расійскага паэта і празаіка Аляксандра Яшына. Імя Яшына, як і яго творчасць, мне стала вядома яшчэ ў 1950 годзе, калі ён атрымаў Сталінскую прэмію за паэму «Алёна Фомина». Тады для мяне было няпісаным законам — кожную кнігу, адзначаную Сталінскай прэміяй, — абавязкова прачытаць. Бо кожная з іх, не сумняваўся я і не мог усумніцца, была выдатным укладам у савецкую літаратуру.

І вось праз шэсцьдзясят з гакам гадоў даведваюся (з артыкула Кузняцова), што ў 1957 годзе Яшын публічна адмовіўся ад Сталінскай прэміі за гэту, «як яму стала бачыцца, занадта ідылічную паэму».

Такое ўва ўсёй савецкай літаратуры зрабіў толькі адзін чалавек — Аляксандр Яшын. Зрабіў, бо — усаромеўся, што паэма ідылічная і прэміі не заслугоўвала? Напэўна, так. Але — не толькі. Думаю, яшчэ і таму, што прэмія насіла імя Сталіна. А ўжо адбыўся ХХ з'езд КПСС з выкрыццём «культу асобы», і Яшын аказаўся ў ліку найбольш працверазелых майстроў слова. Не выпадкова, што менавіта з-пад яго пяра выходзіць тады ж геніяльнае апавяданне «Рычаги», якое зрабіла, можна сказаць, пераварот у поглядах савецкіх пісьменнікаў на свой найпершы абавязак. А затым былі «Вологодская свадьба» і «Угощаю рябиной» — таксама рэчы найвысокай ідэйна-эстэтычнай вартасці...

За дзень да смерці Аляксандра Яшына ў яго пабывалі Фелікс Кузняцоў і Васіль Бялоў. І пачулі, што ён, вялікі мудрэц, сказаў:

— Засталося ўсяго чатыры словы. Жыццё. Смерць. Праўда. Хлусня.

Чатыры самыя галоўныя ў мове чалавецтва словы...

*2013*

## «Пачытай і прыхавай у сябе», — сказаў Быкаў

У чэрвені 1970 года ў тыднёвіку «ЛіМ» быў апублікаваны мой артыкул «У чаканні рашучага павароту», літаральна разгромлены сакратаром ЦК КПБ С. Пілатовічам. Разгром адбыўся не абы-дзе, а на рэспубліканскай ідэалагічнай нарадзе, у якой удзельнічалі звыш тысячы чалавек. Натуральна, публікацыя мела розгалас вельмі шырокі, чаму дапамог і разгром. Аўтар артыкула толькі цудам утрымаўся на пасадзе выкладчыка філфака БДУ.

Праз нейкі час пасля гэтай падзеі да мяне на кватэру зайшоў Васіль Быкаў, тады яшчэ жыхар Гародні. Заходзіў ён да мяне нярэдка, іншы раз і начаваў — каб пазбегнуць назойлівых званкоў і візіцёраў у гасцініцы. Гэтым разам сябра ўручыў мне каштоўны падарунак — два рукапісы: аддрукаваныя на машынцы лагерныя вершы Ларысы Геніюш і машынапіс артыкула групы зэльвенскіх інтэлігентаў, зе-

млякоў Ларысы Антонаўны. Іхні артыкул быў інспіраваны публікацыяй майго разгромленага — на гэтую ж тэму, аб бядотным становішчы беларускай мовы ў Беларусі.

— Вось гэта табе, — сказаў Васіль Уладзіміравіч, — пачытай і прыхавай у сябе, бо ў мяне могуць зрабіць ператрус і забраць, шкада будзе.

— Ну, ператрэсці і ў мяне могуць, — адказаў я сябру. — Гарантый ніякіх.

— І ўсё-такі спакайней ім будзе ў цябе...

Так у маіх руках апынуліся і вершы нашай вялікай паэткі, і каштоўны дакумент з гісторыі беларускага вальнадумства другой палавіны XX стагоддзя. Што датычыць дакумента — пры першым жа чытанні ў мяне ўзнікла думка, што яго або рэдагавала, або ўвогуле памагала землякам напісаць Ларыса Антонаўна: надта ж відочныя адметнасці яе пісьма, яе мовы і стылю, не кажучы пра змест, пра ідэйную накіраванасць.

Ну, а вершы... Усе дваццаць вершаў належаць да гулагаўскага перыяду ў жыцці Ларысы Антонаўны, кожны аркуш падпісаны яе рукою (імя і прозвішча), над кожным вершам чарнілам пастаўлена дата напісання.

Праз сорак з гакам гадоў уручаны мне Быкавым скарб я перадаў Міхасю Скоблу.

*2013*

## «У мяне хопіць сэрца і гора...»

І горка, і сорамна думаць, але гэта праўда: гадоў дзесяць пасля вайны я, страшна заўзяты чытач, не ведаў, што ёсць такі выдатны рускі пісьменнік Андрэй Платонаў. І ў сямігодцы, і затым у педвучылішчы, і ва ўніверсітэце запоем чытаў кнігі сучаснай савецкай прозы, асабліва тыя, што былі на слыху, — а пра Платонава нават не чуў. Між тым ён быў не проста таленавіты, а геніяльны. «Адкрыў» яго я для сябе ўжо ў сталым веку. Як, думаю, і большыня маіх равеснікаў, падлеткаў вайны.

Нядаўна «Литературная газета» (2014, № 19) апублікавала артыкул члена-карэспандэнта РАН Наталлі Карніенка

«Послание «сокровенного человека», прысвечаны ваеннаму перыяду творчасці А. Платонава (1942–1945 гадоў). Гэтыя тры гады пісьменнік прабыў на фронце, і ўсё напісанае ім мае пазнаку «действующая армия». І што ж высвятляецца? А тое, што страшную, жахлівую праўду пра вайну і пра душэўныя пакуты рускага салдата Платонаў паказаў задоўга да праўдзівай прозы былых акопных лейтэнантаў (В. Някрасава, Ю. Бондарава, Р. Бакланава і іншых).

Перанясу ў гэту нататку два красамоўныя пасажы з артыкула Наталлі Карніенка. Першы:

«Платонов потерял в годы войны единственного сына, мальчика, прошедшего сталинские лагеря... Платон умер 4 января 1943 года. 15 февраля 1943 года осведомитель НКВД докладывал о настроении Платонова: «Советская власть отняла у меня сына — советская власть упорно хотела многие годы отнять у меня и звание писателя. Но моего творчества никто у меня не отнимет. Они и теперь-то печатают меня, скрипя зубами. (...) Я со своих позиций не сойду никуда и никогда. Все думают, что я против коммунистов. Нет, я против тех, кто губит нашу страну. Кто хочет затоптать наше русское, дорогое моему сердцу. А сердце мое болит. Ах, как болит! (...) вот сейчас я на фронте много вижу, наблюдаю (Брянский фронт). Мое сердце разрывается от горя, крови и человеческих страданий. Я много напишу. Война меня многому научила».

І другі:

«...С общенародным горем войны соединяется смерть единственного сына Платона; читаем в письмах к жене с фронта 1943 года: «Для меня мертвый Тотик — все равно вечно живой» (письмо от 24 мая); «Поцелуй за меня могилу в изголовье нашего святого сына» (письмо от 28 мая); «Ты, наверно, часто ходишь на могилу к сыну. Как пойдешь, отслужи от меня панихиду в его вечную святую память» (письмо от 10 июня); «Моя новая повесть, которую я тут обдумал, будет посвящена поклонению умершим и погибшим, а именно посвящение будет моему сыну. Я задумал

сделать героем жизни мертвого человека, на смерти которого держится жизнь. Кратко трудно сказать, как это получится, но думаю, эта вещь выйдет у меня: у меня хватит сердца и горя» (письмо от 1 июля)...»

«У мяне хопіць сэрца і гора...» Вось што трэба пісьменніку, каб напісаць балючую праўду і пра жыццё, і пра вайну. Балючую праўду Платонава перасталі прымаць да друку, тым самым пазбавілі літаратурнага заробку. У выніку... У выніку тое, што я недзе, ужо даўно, прачытаў: студэнты Літаратурнага інстытута імя М.Горкага выбягалі на перапынку ў двор і заўважалі бедна апранутага немаладога чалавека з граблямі і дзеркачом у руках. Будучыя вядомыя і знакамітыя творцы савецкай літаратуры і не падазравалі, што, каб ім было прыемна, інстытуцкі двор падмятае геніяльны пісьменнік Андрэй Платонавіч Платонаў.

5 студзеня 1951-га, на 52-м годзе жыцця, Платонаў памёр. Яшчэ пры Сталіне. Думаю, што ў выніку...

*2014*

## Галавач і затым... Панчанка. А паміж імі?..

За два першыя дзесяцігоддзі пасля Кастрычніка ў Краіне Саветаў склаўся, аформіўся і ўмацаваўся, убурэў клас партыйна-савецкіх чыноўнікаў, клас бюракратаў — людзей, як правіла, малапісьменных і прымітыўных, якія не ўпусцілі магчымасці скарыстаць сабе на выгаду сілу і слабізну новай, рэвалюцыйнай улады. Кажучы простай народнай мовай — узнік клас дармаедаў, клас гаваруноў, балбатуноў і балантэсаў, але — падкрэслім — дармаедаў-балантэсаў надта-надта ідэйных.

Яшчэ ў 1930 годзе выдатны беларускі пісьменнік Платон Галавач у аповесці «Спалох на загонах» пісаў: «Яны гатовы скрозь вывесіць шыльды з лозунгамі аб рэвалюцыі і заваяваным ёю, назваць вуліцы гарадоў імёнамі вялікіх рэвалюцыянераў нашай эпохі, абвясціць сацыялізм пабудаваным і заклікаць чалавецтва да вечнага міру. Яны гатовы ўвагнаць

сацыялізм у форму бронзавых і гіпсавых статуэтак і помнікаў, каб гэтым паралізаваць яго дзейсную сілу».

«Яны» — гэта і ёсць клас партыйна-савецкіх бюракратаў, страшэнна «ідэйных» дармаедаў, якія ўжо тады (1930 год!) прыстасаваліся да ўмоў новага грамадскага ладу і зажылі прыпяваючы, у нутры сваім плюючы і на рэвалюцыю, і на сацыялізм, і на ўсе клопаты простых людзей, гэтак званага працоўнага народа.

За гэтае сваё бачанне язваў новага, савецкага ладу, за гэты свой удар па класу бюракратаў-дармаедаў сумленны пісьменнік-грамадзянін паплаціўся жыццём: у 1937 годзе Платона Галавача расстралялі. А было яму ўсяго 34 гады.

Праз чвэрць стагоддзя пасля характарыстыкі класа дармажэрцаў, дадзенай Галавачом, абагулены вобраз-тып гэтых расшышэлых аглаедаў стварыў Пімен Панчанка ў вершы «Прыстасаванцы» («ЛіМ» за 27.10.1956). Незвычайнай мастацкай сілы вобраз! Вось у каго вучыцца і мужнасці, і яркасці пісьма!

Станкоў не знаюць, араць не ўмеюць,
Да воза з гноем не йдуць і блізка.
Разумнае, вечнае, добрае сеюць
Між мас працоўных амаль з калыскі.

Цытата з вока, цытата з вуха,
І зуб у роце блішчыць цытатай.
Глядзіш з сумненнем на сына-зуха —
Кім ён змайстраван? Наўрад ці татам.

Застылі твары кароўім лоем,
Нос падпірае тупая веліч.
Глядзяць з пагардай на ўсё малое,
Балбочуць нешта ды ружавеюць.

Вялікай працай заняты людзі,
Пяюць у шчасці, ў бядзе бядуюць.
Прыстасаванцы ж б'юць гулка ў грудзі,
Крычаць — «гадуем...», крычаць — «будуем...».

Людзі, дарагія, ці чытаеце вы паэзію Панчанкі? Заклінаю вас: чытайце! Чытайце і давайце чытаць іншым! Бо іначай...

Мы гэта зробім, калі не хочам
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

Так, іначай нас чакае гэткая ж доля. І праз 25 гадоў, і праз 50. Прыстасаванцы будуць і будуць перамагаць. І пладзіцца, і пладзіцца...

Такога верша ў беларускай савецкай паэзіі яшчэ не было. Божа прамілы! Хаця ж не дапусці, каб клас дармажэрцаў паэту адпомсціў.

*1958*

## «Па праву роўных...»

Знакаміты расійскі пісьменнік Валянцін Распуцін апублікаваў у «Правде» (24.06.1988) вялікі артыкул «Знать себя патриотом». Цэнтральнае месца ў гэтай сваёй размове з чытачамі ён адводзіць тэме патрыятызму. Адзін з раздзелаў называецца «О национальном самосознании», яшчэ адзін — «По праву равных друг перед другом». Гэты другі — аб роўных правах народаў, якія жывуць на тэрыторыі СССР.

«Шматнацыянальнасць зямлі — гэта вясёлкавасць, музыкальнасць, пачуццёвасць і паўната свету. Што ж — ад усяго гэтага адмовіцца? Ужыць сваю дзейнасць на знікненне нацый, моваў, на збядненне традыцый і звычаяў, на адрынанне ўсяго самабытнага, гістарычнага, спаліць і пусціць па ветры ідэалы неразумных бацькоў? А ў імя чаго?»

Брава, Валянцін Рыгоравіч! Вельмі мудра пастаўлена пытанне: «А ў імя чаго?» Сапраўды, у імя чаго трэба ліквідоўваць «шматнацыянальнасць зямлі» — ліквідоўваць мовы, нацыянальныя адметнасці культуры, нацыянальныя традыцыі і звычаі? У імя чаго? Дзеля якой такой высакароднай мэты?

Гэтак жа зацікаўлена разважае Распуцін і далей: «Хай не выхваляцца, але ганарыцца кожнаму чалавеку прыналежна-

сцю да свайго народа зусім не зашкодзіць. Армяніну — што ён армянін, эстонцу — што эстонец, яўрэю — што яўрэй, а бурату — што бурат». Праўда, «зусім не зашкодзіць» — сказана недакладна. Усяго толькі не зашкодзіць? Гэтага мала, зусім мала! Ну і яшчэ адна... не заўвага, а канстатацыя. Не зашкодзіць армяніну, эстонцу, яўрэю, бурату, а беларусу... зашкодзіць. Як нашы рускія браты выдатна гавораць у абарону нацыянальнага гонару іншых народаў СССР! Але ніколі — у абарону беларусаў.

*1988*

## Часопіс «Маладняк», кніжка першая за 1931 год

К гэтаму часу «Маладняк» стаў органам БелАПП — Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Паперадзе ўсяго ішло пралетарскае. І літаратура. Не нацыянальная, і не агульначалавечая, а — пралетарская. І ўсе пісьменнікі — незалежна ад паходжання — пралетарскія. А каторыя не пралетарскія... о, гора ім! Буржуазныя! У лепшым выпадку — дробнабуржуазныя. І таму — «ворагі працоўнага народа».

«Гвозд» нумара — артыкул самага страшнага пагромшчыка беларускага нацыяналізму Л. Бэндэ «Пра нядаўняе мінулае беларускай контррэвалюцыі». Звернем увагу: пра мінулае контррэвалюцыі... Якой? Сённяшняй! Той, што працягваецца, што дзейнічае! А вось — яе нядаўняе мінулае. Чытаем: «Каб зразумець сучасную контррэвалюцыйную чыннасць Лёсікаў, Цьвікевічаў, Некрашэвічаў, Ластоўскіх, трэба звярнуцца да іх нядаўняга мінулага...» А яно вось такое: «Беларускія нацыянальныя дэмакраты, «адраджэнцы», затушоўвалі нацыянальным сцягам сапраўдную класавую сутнасць... Разам з дробнабуржуазнымі падпявaламі тыпу Бядулі, Купалы ды інш.». «Лёсікі, Цьвікевічы ды іншая нацыянал-дэмакратычная дрэнь са скуры лезе, каб...» Той жа Янка Купала «в боевой трясучке», як гаварыў Д. Бедны, надрываў свой голас: «І мы ў шапку спаць не будзем».

«Такую фашыстоўскую дыктатуру... марылі стварыць Лёсікі, Некрашэвічы, Ластоўскія ды іншая сволач пасля звяржэння савецкай улады».

Вось так — такой лексікай, з такой «пашанай і любоўю» — пра вялікіх сыноў Бацькаўшчыны, пра самаахвярных змагароў за вольную шчаслівую Беларусь... Ці патрэбны каментар? Ці разумеюць сённяшнія дзеці Беларусі, што такое была тая бальшавіцкая (бэндаўская) улада? Ці разумеюць і ці ведаюць, што рабіць, каб тое не паўтарылася?..

*1988*

## Бессаромная хлусня

Расійскі літаратурны крытык Ул. Бандарэнка апублікаваў у газеце «Славянский набат» (1998, № 20) свае «Заметки со съезда писателей Беларуси», у якіх выліў на мяне ёмкую пасудзіну чорнай бессаромнай хлусні. Чытаю: гэты «камісар пры Саюзе пісьменнікаў СССР» (!), гэты «дыназаўр сацрэалізму» (!) з трыбуны з'езда пісьменнікаў выступіў «з палымянай прамовай аб тым, як беларусаў прыгняталі і прыгнятаюць рускія пісьменнікі, якая шкодная руская літаратура, якое варожае беларусам славянскае адзінства». Вось такую подлую гнюсь прыпісаў мне маскоўскі госць нашага з'езда. Усё гэта — беспардонная выдумка. Нічога і блізка падобнага ў маёй прамове няма. Любы, хто хоча, можа лёгка пераканацца ў гэтым: без ніякіх паправак у тэксце яна апублікавана ў газеце «Наша слова» за 27 мая 1998 года. Чытайце, добрыя людзі, там і намёку няма на абвінавачванне рускай літаратуры! Там — адзін крык болю за лёс беларускай мовы, за лёс Беларусі. Адзін крык болю!

Божа прасветлы! Хто дасць водпаведзь нягодніку? Ну ніякай меры ў сваёй подласці не знаюць ворагі беларушчыны.

*1998*

## «Ідзіце з Божай дапамогай вы беларускаю дарогай!»
*(З гісторыі нашай літаратуры)*

У 1930-х гадах у Заходняй Беларусі актыўна друкаваўся паэт Ул. Казлоўшчык (Уладзіслаў Казлоўскі). Быў не толькі паэтам: у 1930 годзе выдаў фальклорны зборнік «Беларускія народныя песні з Сакольшчыны» (у 1944 годзе Сакольшчыну Сталін аддаў Польшчы — купляў суседзяў на бок сацыялізму; аддаў разам з усёй Беласточчынай; як і ў 1939 годзе аддаў жамойтам-летувісам Вільню і Віленскі край). Між іншым, у маёй манаграфіі «З клопатам пра песні народа» (1970 г.) гэтае выданне Ул. Казлоўшчыка не ўспамінаецца — не ведаў, што ёсць такое, аб чым вельмі шкадую.

У 1932 годзе Ул. Казлоўшчык выдаў вершаваны раман «Путы кахання». Ці гэта сапраўды вершаваны раман, ці — амбіцыя маладога аўтара — нічога не магу сказаць: пабачыць і патрымаць у руках не давялося. Значыцца ў бібліяграфіі Ул. Казлоўшчыка і кніга «Плач па дзетках сваіх рэнегатах», год выдання не пададзены. У 1935 годзе ён выдаў зборнік вершаў «Шляхам змагання». І, нарэшце, у 1940 годзе ў Вільні Ул. Казлоўшчык выдаў асобнай кніжачкай вершаванае апавяданне «Казюк на кірмашы». Гэты твор я ўважліва прачытаў. Галоўны эпізод у ім — размова Казюка, які прыехаў у горад на кірмаш, з даўнім сваім знаёмым Вінцуком, ужо даўно гараджанінам. Вельмі цікавы, вызначальны момант у ідэйным змесце апавядання.

Не так даўно ты, брат Маркотны,
Да роднай мовы быў ахвотны:
Па-беларуску у «Крыніцы»
Свае пісаў ты небыліцы.
Пашто ж тады ўсім вам крыўляцца,
Перад панамі вырабляцца?
Ідзеце з Божай дапамогай
Вы беларускаю дарогай!

І што ж адказвае на гэты папрок Вінцук?

Ўсё гэта сам я разумею,
Але вярнуцца не пасмею
На гэту родную дарогу:
Паны даюць мне дапамогу...

Вось і ўвесь адказ: за здраду роднай мове паны даюць дапамогу. Тады, у канцы 1930-х, паны польскія, а цяпер, сёння — якія?..

*2000*

## Так і не зразумеў? Шкада!

Газета «Свободные новости» (за 29.07.2014) змясціла размову з Ул. Букоўскім, у якой былы вядомы дысідэнт выказвае здзіўленне, што нядаўна амаль уся Расія — не толькі чыноўная, але і рабоча-сялянская — радасна закрычала «Крым наш!». І ўспомніў, як у 1961 годзе ён, васямнаццацігадовы маладзён, прыехаў у пусты, галодны Краснаярск і пачуў, як старыя дохлыя ад недаяду бабулькі, што прадавалі чарамшу пучкамі, дзеля якой рублёўкі, радасна крычалі «Гагарын!», «Гагарын!» — так пёрла з іх захапленне, што ў космас узляцеў «наш, рускі». Цытую Ул. Букоўскага: «Я ў 18 гадоў гэтага не разумеў і цяпер, у 71 год, не разумею».

Вось так: не разумеў і не разумею. Ну і шкада! Такія рэчы трэба разумець. Бо не разумець, чаму ў 1961 годзе ўся галодная Расія крычала «Гагарын!», а ў 2014-м яна ж, хоць і не зусім галодная, крычыць «Крым наш!», — значыць, не разумець самага галоўнага ў нацыянальным менталітэце рускіх, у іх характары і натуры. А як жа наладжваць узаемадачыненні з людзьмі, не ведаючы іх галоўную рысу?

«Памром усе да апошняга, у тым ліку і ад голаду, а сваё будзем цвердзіць! Бо — праўда ў нас і за намі! І не падумаем ніколі, што праўда не ў нас, а недзе!»

Вось так! Вось такое сапраўднае нутро Расіі! Зрэшты, пра гэта, яшчэ паўтараста гадоў назад, выдатна сказаў геніяльны Фёдар Цютчаў: «Умом Россию не понять, аршином общим не измерить...» А шаноўны спадар Букоўскі хоча мераць

паводзіны рускіх людзей менавіта «агульным аршынам» і здзіўляецца: як так можна?

Можна, шаноўны, можна! На няшчасце блізкіх суседзяў Расіі — можна. І не толькі блізкіх. Тое, што зрабіў Гасподзь Бог — Ён не перарабляе. Так было, ёсць і будзе.

*2014*

## Вёска і лёс Беларусі

Напісаць бы такое даследаванне: «Беларуская вёска і праблемы нацыянальнага адраджэння ў святле публіцыстычных прац Максіма Гарэцкага». Разгледзець такія пытанні, як беларуская вёска і лёс беларускай мовы, беларускай культуры, самой ідэі беларушчыны... Гэта — вельмі актуальная і вельмі маштабная тэма, даследаванне якой адкрые нам веліч Гарэцкага-мысляра, філосафа, сацыёлага, і мы ўбачым, што пасля яго — такога пісьменніка ў нас не было, — такога глыбокага ў самым галоўным — у ідэі Бацькаўшчыны. Да яго быў Купала.

З 1947 года жыву ў Мінску, але як літаратар фарміраваўся і вырастаў на ўсім «вясковым». Там, у вёсцы, усе мае духоўныя «пачаткі», усе творчыя вытокі і асновы. Заўсёды падсвядома адчуваў, што вёска для мяне — вечная Мекка, што мяне цягне туды сіла непераадольная і невычэрпная, што там — сховішча ўсяго найбольш дарагога маёй душы, усяго святога. І найперш — там Слова, якое для мяне і ёсць жыццё, сэнс жыцця. А горад таму і чужы, што ў ім няма Слова. Роднага Слова! Няма — на кожным кроку, у кожнай хвіліне жыцця. Бо беларускае слова ў трох на ўсю рэспубліку беларускіх тэатрах, дзе яго можна пачуць, — гэта экзотыка. Ну, можна сказаць і кароткачасовая аддушына для тваёй істоты, каб не задыхнуўся канчаткова ад недахопу роднага паветра. Чаму нашы гарады для нас, беларусаў, чужыя, чаму ў іх няма для нас роднага беларускага паветра? Таму, што іх зрабілі такімі заваёўнікі-каланізатары. Нахабныя, прагавітыя, бяздушныя заваёўнікі. Але гэта — тэма асобная.

Цяпер жа — гаворка пра вёску і пра лёс беларускага адраджэння, як гэта бачыў і разумеў 60 гадоў таму назад Максім Гарэцкі. «Дык вось жа — будучыня адраджэння беларусаў залежыць ад селяніна, хаця, праўда, гурток інтэлігентаў ужо глыбока пусціў у нас карані, але калі селянін перастане выдзяляць са свае хаты дзяльцоў руху, дык рух будзе марнець». (Выбр. творы, 1973, т. 2, с. 192.)

Рух за нацыянальнае адраджэнне будзе марнець... Або — мы зробім беларускай інтэлігенцыю, і яна стане нашай ратоўчай сілай.

*1974*

## Гэта — у ЗША. А што ў нас? А як у нас?

Вось наткнуўся ў часопісе «Москва» (1991, № 7) на артыкул Віктара Тростнікава, прачытаў, а цяпер сяджу як акамянелы, з цяжарам на душы і думаю: дык што ж гэта? Дык як жа гэта сталася? Куды ж ідзе чалавецтва? Куды — да чаго — ужо прыйшло?

Свой артыкул Тростнікаў прысвяціў праблемам школы і школьнага выхавання ў Амерыцы. І падае ён у артыкуле дзве таблічкі праблем, якія перш за ўсё і больш за ўсё турбуюць настаўнікаў. Зроблена гэта метадам апытання. Першая таблічка фіксуе найтурботныя праблемы 1940 года.

1.Размовы на ўроках.
2.Жаванне жвачкі.
3.Шум.
4.Бегатня па калідорах.
5.Незахаванне чаргі (у буфеце ці яшчэ дзе).
6.Вопратка не па правілах.
7.Кіданне смецця на падлогу.

Вось такія «страшныя» заганы ў паводзінах вучняў былі ў 1940 годзе. Ну а што змянілася за сорак восем гадоў? Што? Чытаю таблічку апытання 1988 года.

1.Злоўжыванне наркотыкамі.
2.Злоўжыванне алкаголем.
3.Зацяжарванні вучаніц.

4.Самагубствы.

5.Гвалтаванне вучаніц.

6.Абрабаванні.

7.Збіванне.

Вось такія «дробязныя, нязначныя», — у параўнанні з 1940 годам — праблемы. З пачуццём вялікай заклапочанасці Тростнікаў свайму артыкулу даў назву «Господи, храни Америку!». Калі хто сёння ў нас — пра нашы школьныя праблемы — напіша падобны артыкул... Якія галоўныя праблемы вылучыць? І як назаве?

*1991*

## Капыцячы чалавека і чалавечнасць

«Литературная газета» за 29.01.1996 апублікавала грунтоўны артыкул Зоі Крахмальнікавай «Меж нами кровавый ангел разделенья...». Вось некалькі вытрымак з яго (падаю ў перакладзе):

«Кастрычніцкі пераварот 1917-га суправаджаўся страшэннымі злачынствамі, расстрэламі, забойствамі, ссылкамі... Жыхары краіны Саветаў, спецыяльнага гета, прызначанага для забойства душы... не маглі ведаць, што ўберагчы Расію ад бальшавікоў здольная толькі спелая дэмакратыя, якая абапіраецца на дасягненні хрысціянскай культуры, хрысціянскай маральнасці... Расія не была гатова да дэмакратыі ні тады, ні цяпер. Замест свяшчэннага права на жыццё асобы валадары Расіі ўстанавілі права на забойства любога чалавека... Камунізм як палітычная дактрына, як культура татальнай улады лідараў над народам, як культура татальнай хлусні і як тып сацыяльнага мыслення аджыў сваё.

Рабства нявыгадна... Камунізм вычарпаў сябе ў ГУЛАГу. Семдзясят з гакам гадоў без сапраўднага Хрысціянства... Яны «выветрылі» з храмаў сэнсы сказанага Хрыстом, ператварыўшы Царкву... ва ўзорны інстытут, у «структуру». Структура ў выглядзе царквы патрэбна ўладам, як таталітарысцкай, так і псеўдадэмакратычнай».

Вось такі прысуд бальшавікам, савецкаму рэжыму і камунізму. А чаму і камунізму? Што агульнага было ў сталінізме з камунізмам? Па-мойму, амаль нічога. Галоўныя ідэалы камунізму — чалавечнасць, брацтва, свабода асобы. Як і ў запаветах Хрыста. Ні першага, ні другога, ні трэцяга ў тым грамадска-палітычным ладзе, які ўстанавілі правадыры Кастрычніка, бальшавікі — не было. Дык і не трэба тое, што было, называць камунізмам. Думаю, што гэныя правадыры і разумелі і ведалі, на што яны ідуць і чаго яны хочуць, і які сацыялізм-камунізм яны ўсталююць на абшарах імперыі. Якую чалавечнасць, якое брацтва, якую свабоду асобы. І якое раўнапраўе нацый, іх моў і культур.

*1996*

## З думак аб дэградацыі

Дэградацыя... І само слова нейкае рагатае, нават па гучанні непрыемнае. Але за ім, на вялікі жаль, наша рэчаіснасць, у самых розных аспектах. Вось дэградацыя маралі: дазвол на засяленне радыяцыйна забруджаных тэрыторый, на жыццё там людзей, на вытворчасць сельскагаспадарчай і іншай прадукцыі. Туды пасылаюць працаваць маладых спецыялістаў — настаўнікаў, медыкаў, аграномаў, ветэрынараў і заатэхнікаў, культасветнікаў і іншых. Маладых! З вялікай чалавечай павагай да іхняга жыццёвага лёсу. (Прабачце гэту горкую іронію.) Упоруч — дэградацыя культуры. (А можа, гэта адно і тое ж — мараль і культура? Чалавечнасць і культура? Сумленнасць і культура?) Культура размываецца ўсё больш. Усё больш траціць у грамадстве сваё становішча. Дык як жа яна будзе спрыяць яднанню і згуртаванню нацыі? Нацыянальна свядомых сіл? Чужое, наноснае, без пераборлівасці, без грэблівасці намі прынятае, — гэта антыкультура, гэта тое, што захламляе, раз'ядае і забівае беларускія душы. Як жа ім, на якім грунце згуртавацца? На росце нацыянальнай эканомікі? А хіба ён ёсць? Дзе ён?

Найвышэйшая мудрасць чалавецтва — захаванне разнастайнасці самабытных культур, багацця нацыянальна-этні-

чных асаблівасцяў, багацця моў, форм і жанраў мастацтва. Шлях уніфікацыі (як зліццё моў у СССР), стандартызацыі, абезаблічвання — шлях да немінучага вар'яцтва, бо калі звесці ўсё да аднаго — сярод аднастайнасці пачнецца вар'яцтва, псіхіка нармальнага чалавека не вытрывае. Ды і «ніхто не хоча паміраць» — ні адзін народ, ні адна нацыя. Чаму ж нават высокага класа інтэлігенцыя не хоча гэта зразумець? Чаму, напрыклад, расійскія пісьменнікі не разумеюць, што толькі дружба на роўных нашых народаў — рускага і беларускага — дасць жаданы для славянства вынік, чаму яны не разумеюць, што назад гісторыю не павернеш, беларускі народ не «закрыеш».

Галасуючы за дэмакратызацыю грамадства, за лібералізацыю эканомікі, за правы і свабоду для чалавека-творцы, для яго таленту і розуму, — я не галасаваў за тое, што зараз бачу, а іменна: за тое, каб і ў нас запанавала мараль «общества потребления», каб нас захлынула, накрыла з галавой брудная, смярдзючая паводка псеўдакультуры. Тое, што хлынула да нас з тэле- і кінаэкрана яшчэ ў 1960–1970-я гады і працягвае нахлынваць сёння — да культуры, за нязначным выняткам, адносін не мае: прапаганда зверства, пошласці, паскудства, цынізму на культуру працаваць не можа. І на яднанне людзей у імя справядлівасці, запанавання праўды, дабрыні і любові, чысціні і дружалюбнасці ва ўзаемаадносінах у чалавечым агульнажыцці — натуральна, не можа. Лепшае, што ў нашай маралі было, што прапагандавалася і культывавалася сродкамі мастацтва і літаратуры, праз школу і ВНУ, — адкінута як непатрэбшчына, груба адсунута ўбок як нічога не вартае ў новай сістэме каштоўнасцяў. Вылезла наперад і стала вядучым пачаткам прага нажывы — тое, што адвеку асуджала дэмакратычная па духу наша літаратура. На змену калектывізму і салідарнасці ідуць (ці ўжо прыйшлі?) індывідуалізм і эгаізм.

Руйнавалася ў стагоддзях і працягвае руйнавацца сёння беларуская каштоўнасная сістэма, усё тое, што ёсць наша традыцыйная нацыянальная культура. Прасачыце праграмы на беларускім тэле, на радыё, на эстрадных падмостках — што

ўбачыце-пачуеце? Паглядзіце беларускае кіно. Паглядзіце на прылаўкі ў кнігарнях. Што ўбачыце? Беларускую кнігу? На сто кнігарань — у адной?..

Культура стваралася вякамі, руйнуецца ж — хутка, за дзесяцігоддзі, а то і за гады. Успомнім, як няўгледна хутка зруйнавалі ў 1920–1930-я гады тысячы храмаў, старажытных сядзіб з паркамі, садамі і прысадамі, як хутка, амаль вокамгненна, зліквідавалі ў 1960–1970-я гады беларускую школу ў гарадах і пасёлках, з якім імпэтам яна дабіваецца сёння — ужо і ў вёсках, у сельскай глыбінцы.

Чахнуць і выдыхаюцца цэлыя раёны, абязлюдзелі і прыйшлі ў запусценне тысячы вёсак — бо няма імпэту для прадуктыўнай вытворчай дзейнасці, зацікаўленасці ў рупнай працы. (На лысага чорта, якім стала дзяржава, працаваць не будзем!) Прапалі многія нацыянальныя рамёствы, адмысловыя мясцовыя прафесіі, якія стваралі не толькі нацыянальнае багацце, але і фарміравалі нацыянальнае аблічча краіны (ці пэўнай мясцовасці), бо гэтак — у працы, у традыцыйных вытворчых клопатах, у звязаных з імі абрадах, звычаях, фальклоры і мове — фарміравалася і сама душа народа.

Урад у сваёй культурнай палітыцы павінен абапірацца на нацыянальна свядомыя пласты насельніцтва, на нацыянальна-патрыятычную інтэлігенцыю, якая ў стваральнай працы думае не толькі пра сябе, свой уласны дабрабыт, але і пра лёс краіны, пра яе дабрабыт, росквіт, славу. У стагоддзях беларуса не толькі вырывалі з яго прыроднага нацыянальнага духоўна-культурнага асяроддзя (а вырывалі! Тысячамі і сотнямі тысяч!), але разбуралі і знішчалі само гэта асяроддзе, каланізатарскай палітыкай вытраўлялі і забівалі — праз школу, царкву, армію, чынавенства — саму душу гэтага асяроддзя, — беларускую мову.

Колькі ж можна ўсё гэта трываць? Колькі будзе нацыя мірыцца з маральнай і культурнай дэградацыяй? Колькі можна гаварыць пра неабходнасць духоўнага адраджэння

і пры гэтым адхіляць і ігнараваць такія інтэлектуальныя, творчыя сілы, якія і маглі б актывізаваць працэс гэтага адраджэння? Не выкарыстоўваць дзеля сацыяльнага, духоўнага, культурнага прагрэсу талент і розум нацыі — недаравальнае для кіраўніцтва дзяржавы «недомыслие».

*2002, красавік*

## Ці будзе калі-небудзь канец гэтаму палітычнаму бессаромству?

Шэсць стагоддзяў назад усёй Еўропе (і не толькі Еўропе) была вядома магутная дзяржава Вялікае Княства Літоўскае (поўная назва — Вялікае Княства Літоўскае, Руськае і Жамойцкае). У бальшыні сваёй насельнікі гэтага княства называлі сябе ліцвінамі. Слоў *Беларусь, беларусы* нашы тагачасныя продкі не ведалі аж да пачатку XIX стагоддзя. Мы былі *ліцвіны*. Гэта засведчана ў сотнях літаратурных помнікаў, напісаных на ліцвінскай мове — цяпер у навуковых публікацыях яна называецца старабеларускай (мова «Бібліі» Скарыны, мова Буднага, Цяпінскага і іншых нашых вялікіх асветнікаў). Гэтая мова была ў Вялікім Княстве дзяржаўнай, афіцыйнай, на ёй вялася ўся дакументацыя, пісаліся кнігі, на ёй вучыліся ў школах і гэтак далей.

Але ў Масковіі — дзяржаве нашых усходніх суседзяў — жыхароў ВКЛ называлі не ліцвінамі, а літоўцамі. Па першым, галоўным слове ў назве Княства. Так усталявалася, замацавалася і пайшло. І вось маем.

У сучаснай Расіі дзень 4 лістапада зрабілі вялікім нацыянальным святам — назвалі Днём народнага адзінства. «У гонар вызвалення Масквы ад палякаў і літоўцаў». Так і запісана. І сённяшнія рускія людзі думаюць: во, ядрона вош! Ужо тады літоўцы бралі нашу Маскву, значыць, іх тады было ў шмат разоў больш, чым цяпер! Не, летувісаў (сённяшняя саманазва народа), ці жамойтаў (так іх называлі тады — ад Жамойція) было зусім мала, зусім. Але рэч у тым, што Маскву бралі палякі і ліцвіны, па-сучаснаму — беларусы.

Можа нават быць, што ў тым паходзе на Маскву ліцвінаў было больш, чым палякаў. Зусім лагічна, што было больш. У ВКЛ было магутнае войска, а ВКЛ было тагачаснай нашай ліцвінскай (па-сучаснаму — беларускай) дзяржавай.

Дык дакуль будзе мець месца ў сучаснай гісторыі гэта палітычнае бессаромства? Што — страшна прызнаць, што браты-беларусы хадзілі вайной на братоў-расейцаў, і таму давай назавём іх літоўцамі? Дык браты-расейцы на братоў беларусаў хадзілі яшчэ больш. Колькі беларускіх зямель захапілі і назаўсёды прысабечылі! Ну, прысабечылі — на здароўе, мы ж браты, пераражывём па-брацку. Адбіраць не збіраемся, як і тыя, спаконвек нашы, якія Сталін аддаў — у імя сусветнага сацыялізму — суседзям Беларусі.

Але праўду — як што было і як ёсць сёння — гаварыць трэба? Ці будзем ехаць на хлусні і далей?..

*2013*

## Гэта зусім-зусім не дробязь

Шмат гадоў таму я выказаў у друку горкае засмучэнне, што Беларусь не выкарыстоўвае права незалежнай дзяржавы і не скасоўвае навязаныя нам каланізатарамі назвы нашых гарадоў, не вяртае ім свае, зроду беларускія, — тыя, якімі гэтыя гарады былі ахрышчаны пры сваім узнікненні, пры заснаванні. Чаму, напрыклад, ставіў я пытанне, мы дагэтуль пішам (а за намі і ўвесь свет!) на польскі лад Гродно, а не Гародня або Горадзен, па-беларуску, як было да паланізацыі нашага краю? Адкуль гэтае *гро,* калі ў аснове назвы *горад, гарадзіць,* — наша спрадвечнае поўнагалоссе? Гэтак жа сама — чаму Брэст (па-польску Бжест), калі горад называўся Берасце, ад дрэва *бераст* (берастовыя лясы раслі наўкола)? Гэтаксама княжацкі сталічны Наваградак. Каланізатары-паланізатары перакруцілі назву на свой лад — зрабілі Новогрудэк, і мы ўжо колькі сот гадоў карыстаемся гэтаю назвай. Але адкуль і чаму *грудэк,* калі паселішча называлася Новы гарадок, або Нав*а*гарадак? Гэтаксама: чаму

Крулеўшч*ы*зна, а не Каралеўшчына? Хіба па-беларуску *круль,* а не *кароль*? Кароль, дарагія мае, кароль!

Мы нават сталіцу сваёй дзяржавы называем па-польску — Мінск, а не Менск, як было з 1918-га да 1939 года. Горад узнік на рацэ Менка, прытоку Свіслачы, адсюль і Менск. Палякі перакруцілі на Міньск. І мы церпім. Змірыліся, што нават наш нацыянальны сімвал — і той перакручаны. У верасні 1991-га, калі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвярджаў дзяржаўную сімволіку, я ўнёс на сесіі прапанову вярнуць нашай сталіцы яе старажытнае, сапраўднае, законнае імя — Менск. Ого, што пачалося ў зале! Ніякага Менску! Няйначай, як усе, хто запярэчыў, ведалі: «Масква не дазволіць».

Матывацыя нежадання вярнуцца да нашых ісконных-пасконных назваў — смеху вартая: маўляў, дык жа на ўсіх расійскіх мапах замацаваны гэтыя польскія варыянты, і ва ўсіх расейскіх падручніках па гісторыі... Ну ясна! Масква гэтага не хоча. Дзвесце гадоў таму, калі царыца Кацярына загрэбла Вялікае Княства Літоўскае — нашу тагачасную дзяржаву, малаадукаваныя расійскія чыноўнікі «ничтоже соумняшеся» перанеслі польскія назвы — Мінск, Гродно, Брест, Новогрудэк і іншыя — на імперскую мапу. Так і замацавалася, і засталося, і пайшло. «Адкруціць» крыўдную для беларускага народа недарэчнасць новыя гаспадары нам не дазволілі.

Да пададзеных вышэй прыкладаў можна дабавіць назву мястэчка Мёры, якая і на беларускіх, і на расійскіх мапах пішацца Міоры. Поўны абсурд! Гук *ё* ў польскім пісьме перадаецца дзвюма літарамі — іо, адсюль і польскае напісанне назвы *Miori*; але хіба рускія чыноўнікі маглі ведаць, што Міо — трэба чытаць Мё, і на расійскіх мапах павінна быць *Мёри*?

І апошняе. Беларуская мова вельмі мілагучная, вымаўленне ў нас плаўнае, каля кожнага галоснага гука адзін або два зычныя, каб у адным складзе было аж тры зычныя — такога наша мова не прымае, бо «язык зломіш». Таму даўно пара

называць наш слаўны горад ва ўсходняй Магілёўшчыне па-беларуску — *Амсціслаў,* а не *Мсціслаў*. Так ва ўсім наваколлі і гавораць: *«Жыве ў Амсціславе, недалёка ад Амсціслава»...* Лёгенька, гладзенька, як у песні.

*2013*

## Прывітальнае слоўца да юбілею Т. Р. Шаўчэнкі

Дарагія ўкраінскія браты і сёстры!

Слаўны двухсотгадовы юбілей вялікага Кабзара Украіны выпаў на нялёгкія для яго Бацькаўшчыны дні. Няйначай як самім лёсам паслана ўкраінскаму народу яшчэ адно выпрабаванне на годнасць і гонар, дадзена яшчэ адна магчымасць засведчыць перад светам сваю мудрасць і мужнасць і не скарыцца сілам зла, не ўступіць няпраўдзе і хамству. Не сумняваюся, што як было неаднойчы раней, так і сёння, кожны сумленны грамадзянін Украіны чуе несмяротныя запаветы Кабзара і яшчэ глыбей прымае іх у сваё сэрца. Народ, узброены Яго запаветамі, Яго праўдай — неперапаможны.

Дарагія сябры!

Ведайце, што ў вашым вялікім змаганні за вольную, незалежную і непадзельную Украіну — я з вамі, і мае верныя паплечнікі — з вамі.

Слава Украіне!

*2014, сакавік*

## І яна без іх, і яна!

Дз. Хранкоў у кнізе «Дзень за днём» (СП., 1985) піша: «Ахматава сказала, што Купрын і Цвятаева не маглі абысціся без Расіі, а Расія без іх магла». Маецца на ўвазе, што яны не змаглі жыць на Захадзе ў адрыве ад Радзімы, і вярнуліся з эміграцыі ў Расію.

Калі Ахматава сапраўды гэтак сказала, то яе слова не зусім вернае. І Расія не змагла! Нейкі час — магла, але ўрэшце — не змагла. І гора краіне, калі яна можа абыходзіцца

без такіх духоўна-творчых велічынь. Яна без іх — чахне душою, марнее і гіне, толькі пэўны час не адчувае гэтага.

*1985*

## Па горкай аналогіі...

У Любляне, з размоў са сваімі новымі сябрамі, даведаўся, як славенцы шкадуюць, як плачуць, што ў выніку Другой сусветнай вайны назаўсёды страцілі свой цудоўны прыморскі горад Трыест (па-славенску Trst). Адышоў да Італіі... Як яны шкадуюць і плачуць!.. О, калі б мы, беларусы, гэтак плакалі па спрадвеку нашай крывіцкай Вільні, якую людажэр Сталін у канцы 1939-га аддаў летувісам. Аддаў горад, які быў адвеку культурнай і духоўнай сталіцай беларускага народа! Во каму летувісы павінны паставіць велічны помнік з чыстага золата! Калі б не той людажэр — Вільня была б у Беларусі.

*1973*

## Толькі ў вачах невукаў...

Чаму б у Беларусі якому-небудзь педінстытуту ці педвучылішчу не надаць імя Францішка Багушэвіча? Ён жа ў нас першы вялікі нацыянальны паэт! Першы — у поўным сэнсе слова — народны, хоць гэтае званне яму і не надавалася. Гэтаксама — ніякай навучальнай установе не нададзена імя Максіма Гарэцкага. Не заслугоўвае? Ну, гэта толькі ў вачах невукаў і антыпатрыётаў — ворагаў беларушчыны.

*1980*

## Ю. Крыжаніч аб правапісе

На Міжнародным З’ездзе славістаў у Кіеве (1983, верасень) І. Тамм зрабіў цікавы даклад пра вядомага славіста 17 ст. Ю. Крыжаніча, які дзясяткі гадоў жыцця правёў на землях усходніх славян. У 1667-м быў і сярод беларусаў у Смаленску. Сасланы ў Табольск, адседзеў там пятнаццаць

гадоў. У Вільні напісаў сваю апошнюю навуковую працу «Гісторыя Сібіры».

Крыжаніч аб мове, дакладней аб правапісе: «И нельзя его исправлять по правилам другого языка». А што мы зрабілі ў 1933-м са сваім беларускім правапісам? Скалечылі ўшчэнт! І яшчэ: «Лучше каждый отдельный звук — отдельной буквой». Так, гэта было б выдатна! Але нават і ў нас не ўсе гукі перадаюцца асобнай літарай (ДЗ, ДЖ).

*1983*

## Пра тэатр і цела

У «Литературной газете» (1985, верасень) знакаміты Яфрэмаў піша пра свайго знакамітага калегу — «караля тэатра» Жана Луі Барро і згадвае адно яго выказванне, вельмі арыгінальнае па думцы (для мяне, ва ўсякім разе). «У аснове любога тэатральнага прадстаўлення — драма існавання чалавечага цела. Цела — самы дасканалы ў свеце інструмент».

Так сказаў Барро.

Ёсць над чым задумацца. Вялікія мастакі абы-што не гавораць.

*1985*

## Разварушэнне

Якое, мяркуючы па лепшых газетах, пачалося разварушэнне грамадскай думкі, колькі надзей і запалу ў публікацыях! Вось як хутка дала пра сябе знаць Перабудова! А гэта значыць — вось як яна чакалася!

Калі так пойдзе і далей — можам дажыць да вялікіх радасцяў; нават і да зусім нечаканых.

*1986*

## Нават і Васільеў... туды ж!

У снежні 1980-га быў госцем З'езду пісьменнікаў РСФСР, — з М. Танкам і П. Панчанкам. Помню, як моцна ўразіла прамова Івана Васільева — праўдай пра вёску, пра яе жыццёвыя праблемы і клопаты. Чуйны да голасу праўды Панчанка спытаў ў мяне: «Хто гэта так здорава, так смела гаварыў?» — «Іван Васільеў, — кажу, — нарысіст з правінцыі...»

Праз сем гадоў наш знаўца вёскі В. Якавенка, у гонар свайго госця І. Васільева, запрасіў на абед В. Быкава і мяне. Доўга гаварылі пра вёску, пра хлусню на дзяржаўным узроўні... А нарэшце і пра становішча нашай мовы. І я стаў рэзка асуджаць палітыку гвалтоўнай русіфікацыі. І Васільеў (нават ён!) запратэставаў: «Ну, ребята, так вы действительно к национализму скатитесь!..»

Вось так. Нават вельмі шанаваны мной Іван Васільеў!..

*1987*

## «Дабрыня казкі»

Так называецца невялічкі артыкул З. Папернага, апублікаваны ў газеце «Известия» (2.1.1986). Аўтар артыкула згадвае адно геніяльнае выказванне славутага С.Я. Маршака пра выхаваўчае значэнне казак, а менавіта: «Як у мацярынскім малацэ ўтрымліваецца ўсё неабходнае для дзіцячага арганізма, так і ў казцы ёсць усё, што трэба для мастацкага выхавання дзіцяці».

Ад сябе З. Паперны дадае: пра чалавека, які ў дзяцінстве не чытаў казак, «можна сказаць, што ён рос без вельмі важных, жывіцельных вітамінаў і, відавочна, хварэе на паэтычнае малакроўе».

Як жа мне дадушы гэтая мудрасць мудрага! Як у малацэ маці!..

*1986*

## У. М. Конан гэта заўважыў

У час адной выпадковай размовы У. М. Конан сказаў мне: «Даўно бачу, што ў нашай крытыцы пануе неразуменне вашай паэзіі і таму — несправядлівыя ацэнкі...» Ну так, — адказаў я, горка ўсміхнуўшыся. — Гадоў трыццаць назад крытычныя мэтры прыпісалі мяне да Броўкавай лініі ў сучаснай нашай паэзіі. Каго — да Куляшоўскай, каго — да Танкаўскай, а Н. Г. — да Броўкавай. Гэта быў абразлівы для мяне абсурд. Але «кваліфікатары» паўтаралі і паўтаралі яго — і ў друку і не толькі. І ніхто ім не сказаў: «Вы памыляецеся. У Броўкі і «иже с ним» няма канкрэтнай чалавечай біяграфіі, вельмі мала ўласнага, асабістага, затое шмат лірычна-стандартнага, узятага напракат. Няма псіхалагізму і адпаведнай паэтычнай мовы, нават у вершах інтымнай тэмы. Не, Н. Г. рашуча не кладзецца ў Броўкаву «лінію».

Усцешна мне, Уладзімір Міхайлавіч, што Вы гэта заўважылі, дзякую, што падзяліліся са мной сваімі назіраннямі.

*Канец 1980-х гг.*

## Баліцкі і Некрашэвіч

У снежні 1917 года, у Адэсе, адбыўся з’езд вайскоўцаў-беларусаў Румынскага фронту — з пастановай: За Беларусь! Г. зн., за стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Кіраўнікамі з’езда былі Антон Баліцкі і Сцяпан Некрашэвіч. Знакамітыя ў 1920-х гадах у Беларусі людзі, асветнікі і навукоўцы, загінулі ад рук ворагаў беларушчыны, як антысаветчыкі-нацдэмы.

*1988*

## І рэжым пытае…

Нашаму рэжыму здорава памагае Расія, а дакладней — тое, што ў Расіі адбылося і адбываецца. А менавіта: гайдараўска-чубайсаўская прыхватызацыя, а па сутнасці — захоп нацыянальных скарбаў вялікай краіны кучкай трагладытаў.

І рэжым пытае нашых людзей: «Вы этага хаціця? Што б і ў нас кучка трагладытаў разграбіла ўсе нацыянальныя багацці? Што б і ў нас лідары гэтай кучкі мелі мільярды даляраў, а вы, чэсныя людзі, капаліся ў скрынках для смецця?» — «Не хочам!» — адказалі чэсныя.

*Канец 1990-х гг.*

## Рускія ў Беларусі

Рускія ў Беларусі не павінны змагацца супроць беларусізацыі, бо гэтым толькі проціпастаўяць і аддаляць сябе ад беларусаў, але не зблізяцца, каб у будучым мецъ цесны брацкі саюз. Сёння рускія павінны дапамагчы беларусам стаць духоўна, нацыянальна на ногі. А гаварыць: ніякі вы не самастойны народ і іншае падобнае, — гэта, выбачайце, глупства. Гэта тая неразумная крайнасць, якая выклікае другую крайнасць, — з боку беларусаў. Іначай і быць не можа. «Ага! У такім разе — вы, рускія, нам наогул не браты, вы чужакі, вы заваёўнікі». Такое і будзе брацтва.

*1998*

## Дык а чаму ж ты...

«Нам, усёй беларускай грамадзе, патрэбна яднанне». Згодзен, патрэбна. А як яго дасягнуць і чым забяспечыць? Што павінна быць мерай нашай грамадскай еднасці? На якім ідэйным і маральным грунце яднацца? Правільна: на любові да беларушчыны, да роднай мовы. Дык а чаму ж ты, бачачы што робіцца, сядзіш, як мыш пад венікам, і не змагаешся — за родную мову, за беларускую школу, за беларускую кнігу? Дзе ж яна, твая любоў, якую ты нібыта вызнаеш?

*1999*

## Вычытаў у Ю. Стукаліча... («Мы дойдзем», Нью-Ёрк, 1975)

### Наконт герба «Пагоня»

Сёння гэта дзяржаўны герб Летувы (Жамойціі). А мог бы быць гербам Беларусі — і толькі Беларусі. У 1935 годзе прэм'ер Летувы Тубеліс сказаў: «Пагоня» — не летувіскага паходжання, і таму рыхтуецца новы, арыгінальны герб». На вялікі жаль, гэтая ідэя новага (арыгінальнага) герба дзесьці захлынулася, падтрымана не была. І па сённяшні дзень дзяржаўным гербам Летувы застаецца «Пагоня». А ў нас... А што ў нас — сорамна і гаварыць. Знакамітую «Пагоню» мы бяздарна аддалі суседзям.

### Страх сатрапаў...

Калі пачаўся страх сатрапаў перад беларускай мовай? Цар Аляксей Міхайлавіч сваім ваяводам загадаў: «Книги литовской печати на пожарах сжечь, чтобы та ересь и смута в мире не была». Вось так: кнігі літоўскага друку, г. зн., выданні Скарыны і яго паслядоўнікаў, — спаліць!

Год 1854. Расійская Акадэмія Навук ігнаруе праект беларускай граматыкі Ксаверыя Нядзвецкага.

### Задача рэформы беларускага правапісу 1933 года

Задача была чыста палітычная і не матывавалася анііякімі навуковымі ці культурна-асветніцкімі мэтамі. Мэта была ў вышэйшай ступені свалачная — антынацыянальная і антыпатрыятычная. А менавіта: «знішчыць бар'ер, які аддзяляе беларускую мову ад рускай». Рэформа «сцёрла каля 30 істотных асаблівасцяў беларускай мовы». Як-то кажуць, гэта трэба помніць і помніць. Помніць — і думаць. Каля 30 істотных адметнасцяў! Фактычна — разанулі пад корань. Не дай Бог нам, беларусам, забыць гэты страшны ўдар пад дыхавіцу!..

*1995*

## Во былі акупанты!

Чытаю «Успаміны майго жыцця» І. І. Насовіча, вядомага беларускага лексікографа і фальклярыста, аўтара знакамітага «Слоўніка беларускай мовы», выдадзенага ім у 1870 годзе. Праўда, у тым першым выданні гэта капітальная праца называлася «Словарём белорусского наречия» — афіцыйныя імперскія ўлады не прызнавалі ні самастойнага беларускага народа, ні беларускай мовы; для іх беларусы — усяго толькі рускае племя, якое гаворыць на «западнорусском наречии». Натуральна, назваць кнігу «Словарём белорусского языка» ўлады не дазволілі.

Дык вось пяру І. І. Насовіча належаць і вельмі цікавыя мемуары «Успаміны майго жыцця» («Воспоминания моей жизни»). Падрабязна пра гэту кнігу я расказаў у артыкуле «Предтеча возрождения» (час. «Нёман», 1997, № 2). Тут жа хачу падаць толькі два эпізоды з расказанага Насовічам, якія ў мой артыкул не ўвайшлі, бо гэта было б трохі ўбок ад задачы, якую паставіў перад сабой аўтар.

Першае — штрых аб паводзінах французскіх акупантаў у 1812 годзе ў Магілёве. «Але як мне дзякавалі бедныя вартавыя-французікі, калі я даў ім па 10 капеек медзі». Проста неверагодна! Акупанты радаваліся 10-капеечнай падачцы. Як жабракі. Радаваліся, бо маглі купіць сабе за тых 10 капеек які-небудзь піражок ці кружку піва. Во якія былі акупанты ў 1812-м! А якія ў 1943-м?

Другі эпізод — вось такое сведчанне: адзін з прапольскіх шляхцічаў у чэрвені 1811-га пайшоў на заклад з Насовічам, што праз год у гэты дзень Напалеон будзе ў Магілёве. Значыць, «палякі» ў Беларусі ведалі, з упэўненасцю, што Банапарт рушыць свае войскі на ўсход. А ці ведалі пра гэта ў Расіі, яе кіраўніцтва? Ці рыхтаваліся да гэтага? Мяркуючы па ходу ваенных падзей — не рыхтаваліся.

*1997*

## «На жаль, падпісацца не магу»

Рэдакцыя «Народнай волі» перадала мне атрыманы ёю ліст з вершам-прысвячэннем. Надрукаваць верш рэдакцыя не можа, бо ён ананімны. У пачатку ліста аўтар так і піша: «На жаль, падпісацца не магу. Прычыны ўсім добра вядомыя». За жыццё я атрымаў з розных рэдакцый шмат прысвечаных мне вершаў. Але ўпершыню — ананімны, без подпісу. Наконт прычын ананімнасці... ну, відаць, перш за ўсё страх, што змест верша не ўпадабаюць начальнікі і давядзецца, чаго добрага, паплаціцца сваім месцам працы. Гэта — зразумець можна. Асабіста мне шкада, што я так і не буду ведаць імя яшчэ аднаго свайго сябра-чытача, каб выказаць падзяку за добрае слоўца. Ну дык зраблю так. Аўтар хацеў, каб яго верш быў надрукаваны ў газеце. Не атрымалася. То хай ён будзе змешчаны ў маёй кнізе. Як голас душы і сэрца аднаго з патрыётаў Беларусі — ён варты гэтага.

### Ноч над краем маім

*Нілу Гілевічу*

Я думаў, што ноч
Над краем маім
Ужо ніколі не скончыцца
І крумкачы будуць доўжыць свой баль,
І будзе сэрца трымцець і пакутаваць,
Закутае ў роспачы сталь.
Купалы і Коласа слова не ўваскрэсне,
Не будзе гучаць матуліна песня.

Надзея прыйшла,
Над краінай пранеслася,
Набралася моцы ў Гілевіча вершах,
Сталела і крэпла на ўчынках «Мірона»,
Цвёрда стала на ногі
У бел-чырвона-белых калонах.

Будзе жыць Беларусь! Я веру.
Верце і вы, людзі,
Калі ў гэта верыць
Адзін з найлепшых сыноў Беларусі —
Ніл Гілевіч.

*А. І., г. Ляхавічы*
*17.10.1999*

## Ужо і да «Лявоніхі» дабраліся

Глядзеў па тэлевізары канцэрт з «Віцебскага базара». Пабачыў і «Лявоніху» ў выкананні знакамітага харэаграфічнага ансамбля. Але... а ці «Лявоніха» гэта? Нешта ад «Лявоніхі» засталося, але ў цэлым... як бы ўжо і не «Лявоніха». Цяжка пазнаць. Першае «калена» і першы куплет — сапраўды «Лявоніха», тая, што ўжо сто, а можа, і дзвесце гадоў ёсць адным з духоўных Сімвалаў Беларусі... А далей пайшла апрацоўка гэтага геніяльнага твора — і не пазнаць мелодыі, і нічога ад цудоўнага малюнка танца, — якоесь фізкультурнае практыкаванне пад музыку. Абноўлены і тэкст — абсучаснены ў духу прымітыўных калгасна-казённых балванак...

Глядзеў я — і горка-гаротна думаў. Хто і дзеля чаго так спахабіў нашу геніяльную «Лявоніху»? Навошта? Тая, прыродная, была сапраўды геніяльная ў сваім чароўным харастве. А гэта? Дзе ўзбагачэнне прыроднай мелодыі і малюнка танца? Няма! А як можна ўзбагаціць геніяльны тэкст? Хто гэны звышгеніяльны паэт, што насмеліўся зрабіць лепш, чым зрабіў народ?

І калі ж гэта кончыцца ў нас? Калі перастануць калечыць нашу народную музыку і паэзію самазваныя апрацоўшчыкі?

*2001, 20 ліпеня*

## У нашай сітуацыі…

У нашай сітуацыі — лепш без партый. Партыя — гэта група, групка са сваімі групавымі інтарэсамі. А нам трэба адзін вялікі рух нацыянальных патрыётаў. Усенародны. Усебеларускі. Не было б партый — не было б раздраю, міжпартыйнай барацьбы за лідарства, за свайго кандыдата... Патрэбна стаўка на народ, — на сумленны, працавіты, патрыятычны народ, а не на партыю.

*2002*

## Мае паездкі ў Вільню

Першы раз у Вільні я быў увесну 1952 года. Ездзіў у складзе студэнцкага хору БДУ — у парадку культурнага абмену. Па ўражаннях паездкі напісаў верш, які заканчваўся радкамі:

Я палюбіў савецкі горад Вільнюс,
Як родны Мінск, як дом, дзе я жыву.

У 1962-м быў у Вільні з групай беларускіх пісьменнікаў. Тады пазнаёміўся і блізка сышоўся з такімі выдатнымі летувіскімі паэтамі, як Эдуардас Межэлайціс, Юстынас Марцінкявічус, Альгімантас Балтакіс...

У 1968-м вазіў у Вільню на экскурсію (з Нарачы) сына Сяргея — па абавязку бацькі.

Пасля бываў у Вільні шмат разоў. Але найярчэй запомнілася паездка ў студзені 1991 года — у якасці кіраўніка групы дэпутатаў ВС РБ. У сувязі з забойствам трынаццаці летувісцкіх грамадзян каля тэлецэнтра. Тое, што я ў тыя дні пабачыў у Вільні, пераканала мяне ў адным: гэты народ не ўступіць Маскве ніколі! Ніколі! Нават калі яна пашле тысячы танкаў і мільённую армію...

*2005*

## На жаль, гэта так

Разуменне самой сутнасці і місіі мастацкай літаратуры ў нас — у самых шырокіх колах насельніцтва — зводзіцца да сутнасці і задач... журналістыкі. Прычым — журналістыкі пэўнага тыпу, а менавіта: агітацыйна-прапагандысцкай. Законная і патрэбная праца — прапаганда перадавога вопыту гаспадарання ці будаўніцтва сродкамі журналістыкі. Але гэта не можа быць прадметам мастацкай літаратуры.

*1983*

## «Змагар» за праўду

Паказвае кукіш у кішэні, а думае: во рэжу праўду-матку, во даю і ў хвост і ў грыву бюракратам і ўсякім падобным нягоднікам, во які я мужны і смелы — не тое, што іншыя!.. Такому «герою» варта было б і сказаць, — каб дайшло да розуму яго, — што кукіш у кішэні ёсць не больш, чым кукіш у кішэні. Іншая рэч, што некаторым высокачыноўным адказным і яго кукіш здаецца страшным выпадам супроць Непарушных асноў і прынцыпаў.

*1984*

## Даваць мудрасць!

Выдатны пісьменніцкі твор — гэта твор не толькі ярка мастацкі, але і мудры: у ім месціцца вялікая навука жыцця, тая праўда, на якой трымаецца чалавек і чалавецтва. Мудры чалавек набытыя веды скіроўвае на дабро, на агульнаграмадскую карысць. Неразумны чалавек сілу і веды свае скіроўвае на дурное, на кепскае — скажам, на нявечанне прыроды, на знішчэнне помнікаў гісторыі і культуры. Мала даваць разнастайныя веды маленькаму чалавеку ў школе — трэба даваць мудрасць, г.зн. вучыць дабру. А як гэта рабіць без вывучэння роднай літаратуры — без твораў, вымаўленых добрым сэрцам і ў абарону дабра?

*1984*

## Самае ж сумнае, што…

Прафесійныя, таленавітыя, сумленныя крытыкі маўчаць або амаль маўчаць. Затое расшрайбаваліся недавукі-графаманы (у крытыцы іх не менш, чым у іншых жанрах літаратуры). Раскрэмзаліся і захляпваюць сваімі крамзоламі старонкі ўсіх выданняў. І такім жа ўбогім правінцыялізмам патыхае ад гэтых крытычных практыкаванняў! У іх усё знойдзеш: прымітыўнасць думкі («курыны кругагляд»), невуцтва, агрэсіўную безгустоўнасць, непрыхаваную прагу лёгкага падзаробку. І ніхто не бярэцца выставіць на публічнае асмяянне гэту «крытыку», наглядна паказаць усім чытачам, чаго яна варта. Самае ж сумнае, што нізкапробнае і нясмачнае крытычнае варыва падабаецца многім масцітым пісьменнікам: абы іх крытыкі хвалілі!..

*1988*

## Прыкра ўражвае…

Прыкра ўражвае чытачоў недасведчанасць паэта або пісьменніка ў сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных праблемах часу. А яшчэ горш — наіўнасць, ці, калі хочаце, інфантыльнасць, што выпірае з твора наповерх, паколькі нідзе ад самога сябе не дзенешся. Адсюль — і тая салонна-камерная замкнутасць, і тая — з другога боку — гучная рыторыка, канешне ж, правільная і сучасная па накіраванасці «грамадзянскага пафасу».

*1985*

## Але перахварэць трэба!..

Ну, вось — прайшло сорак пасляваенных гадоў. Такіх нялёгкіх для простага чалавека, такіх «велічных і гістарычных» для дзяржавы! А ў якіх кнігах — праўда пра гэтыя гады нашага жыцця? У якой прозе, паэзіі, драматургіі, нарысістыцы? На вялікі жаль, сапраўды праўдзівых кніг (па вялікім сацыяльна-маральным рахунку — праўдзівых) — не

шмат. У гэтым сэнсе злачынства дзяржавы перад літаратурай — невымернае. Наўрад ці ёсць у каго сёння права агулам судзіць тую літаратуру і яе творцаў. Але перахварэць і перапакутваць за яе — трэба. І з болем у сэрцы сказаць пра многія тыя кнігі праўду. Абавязкова! Бо як жа іначай мы будзем рухацца наперад?

*1986*

## Кніга-падзея, кніга-свята і...

Псіхалогія ўраўнілаўкі пануе ў нас у выдавецкай сферы... А між іншым: калі сярод паэтаў-лірыкаў ёсць Яўгенія Янішчыц — гэта не значыць, што ўсе мы надзелены гэткім жа прыгожым, моцным і самабытным лірычным талентам. Здавалася б, гэта належыць усім зразумець і... радавацца! А што ж яшчэ? Дык вось радасці то якраз чуецца вельмі мала. Баюся, што менш, чым зайздрасці і зласлівасці. Адсюль — і тая, мякка кажучы, непаспешлівасць, з якою выдаюцца кнігі таленавітыя, адмысловыя, кнігі-падзеі, кнігі-святы. І выдаць выбранае такіх паэтаў не спяшаюцца. Бо трэба ж, каб у выдавецкіх планах хапіла месца шэрасці, якая рэгулярненька выпякае свае каструбаватыя, з мякінаю, лірычныя прасначкі.

*1986*

## Такое нам пакаранне...

Хто ў нас вызначае літаратурную палітыку, грамадскую вартасць твора і нават усяе творчасці таго ці іншага пісьменніка? Хто вырашае лёс кнігі? Хто дыктуе, што трэба прапагандаваць, падтрымліваць, адзначаць прэміяй? Хто? Толькі не тыя, што літаратуру ствараюць, і не тыя, што яе любяць і чытаюць. Не пісьменнікі і не чытачы. Вызначаюць, вырашаюць, павучаюць і прадпісваюць хамаватыя і цынічныя недавукі. Закончыўшы нешта (нярэдка — дзякуючы пасадзе і партыйнаму мандату), перажваўшы яшчэ раз навукападобную жвачку на ўзроўні кандыдацкай дысертацыі, засвоіўшы па эстэтычнай табліцы множання, што двойчы два — чатыры,

а галоўнае — навучыўшыся лічыць пісьменніцкія ганарары, гэтыя арганізатары-кіраўнікі «творчага жыцця» і «літаратурнага працэсу» ўсур'ёз вераць у сваю высокаадказную місію ў духоўным жыцці народа. Літаратуру яны не толькі не любяць, але і элементарна не паважаюць. Такое, немаведама за што, нам пакаранне. На што надзеі? На перабудову, вядома. Але, пакуль што, нічога ў гэтым плане не мяняецца.

*1987*

## Шлях да спрошчанасці, да прымітыву

Павярхоўны адналінейны аптымізм... Да яго заклікалі нашу літаратуру і мастацтва. Патрабавалі ствараць вобраз, а значыць, і выхоўваць у жыцці аднамерна-аптымістычнага чалавека. Выдатныя мастакі слова (кіно, тэатра) на гэтыя патрабаванні ўвагі не звярталі, ці, прынамсі, стараліся не паддацца або, у горшым выпадку, адкупіцца нечым кампрамісным (каб мець элементарныя магчымасці фізічна існаваць; ну, а нашчадкі — зразумеюць). У цэлым жа гэтае жалезнае, дзяржаўнае патрабаванне... нават не аптымізму, а бадзёрасці прычыніла і мастацтву і грамадству велізарную шкоду. Яно прывучала да аднастайнасці, да спрошчанасці, да духоўнага прымітыву. У такім складаным, поўным драматызму і трагізму, жыцці!

*1987*

## Даёш эпахальнае?

Ці шмат у нас за апошнія гады паявілася моцных, яркіх, запамінальных апавяданняў? Такіх, як некалі былі ў Мележа, у Брыля, у Лупсякова, у Кулакоўскага, у Чарнышэвіча, у Караткевіча, у Стральцова? Па-мойму, зусім мала. Вядома, прыпамінаецца сёе-тое найноўшае, што выйшла з-пад пяра таго ж Янкі Брыля, Яна Скрыгана, Алены Васілевіч, Івана Пташнікава, Анатоля Кудраўца, Янкі Сіпакова, Алеся Жука, Уладзіміра Арлова... І ўсё ж, і ўсё ж! Так рэдка вырываецца «на аператыўны прастор» гэты аператыўны і, на

маё разуменне, галоўны жанр прозы. Шкада, што амаль занядбалі апавяданне Васіль Быкаў, Іван Навуменка, Іван Шамякін, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка. Пераключыліся на буйнамаштабнае, на эпахальнае. Вольнаму воля, вядома. Аднак жа — шкада.

*1988*

## Катастрафічны пралік

Гартаю чарговы том рамана-эпапеі пра ўсенародную барацьбу народа ў гады Вялікай Айчыннай — і ўсё больш пераконваюся, што гэта быў катастрафічны пралік аўтара — брацца за стварэнне такога «буйнамаштабнага мастацкага палатна» па канспектах тых, хто праз вайну — праз фронт, партызаншчыну ці падполле — прайшоў сам, сам перажыў тое, чаго ніякаю напругай творчай фантазіі не заменіш, не кампенсуеш.

*1989*

## Не на ўзроўні патрабаванняў часу

Слабасць нашай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў — слабасць сацыяльнага аналізу... Тое, што адбывалася ў грамадстве (яго маральная атмасфера), — адбілася на літаратуры. У масе сваёй яна аказалася не на ўзроўні патрабаванняў часу. Замест таго, каб забіць у звон, падняць трывогу, яна падалася ў бытавізм, касякамі пайшлі абывацельскія раманы, аповесці, апавяданні, нават «клубнічка». Крытыка ж як бы не бачыла нічога гэтага... Прасачыце за героямі такога твора, за іх учынкамі, паводзінамі, падыдзіце да іх з меркай высокай сацыяльнай справядлівасці, — сумна стане! Жыццё поўнае такіх сацыяльных і маральных праблем, што аж крыкам крычаць! А тут — рэгістрацыйна-нуднае, лянотнае апісальніцтва. Без пробліску сацыяльнай думкі.

Пісьменнік з лянотнай душой? Нонсенс!

*1990*

## Асабліва ж глухой да слова…

Божа, колькі ў нас «паэтычнай» крытыкі, невылечна глухой да паэзіі! Глухой да музыкі верша, да гармоніі зместу і формы, да асаблівасцей жанру, да спосабаў кампазіцыі і да ўсяго іншага, часам амаль нябачнага і ледзьве ўлоўнага, што ў сукупнасці і забяспечвае твору паэтычнае гучанне. Асабліва ж — да моўнага майстэрства паэта, да яго адчування слова, яго лексікі, фразы, сінтаксісу, да яго прыёмаў семантычна-вобразнага абнаўлення слова ці фразеалагізму. Як быццам паэзія існуе па-за словам. Як быццам, абмінаючы ўсё гэта, можна пранікнуць у глыбіню ідэі твора, раскрыць усё багацце яго зместу, убачыць яго другі, а то і трэці, і чацвёрты план.

Гаворка, такім чынам, пра прыродны талент і прафесіяналізм таго, хто бярэцца судзіць паэзію.

*1991*

## Злуюцца на творчую і навуковую інтэлігенцыю…

На беларускую, вядома. На нацыянальна-свядомую беларускую, патрыятычна настроеную, адраджэнскую, занепакоеную лёсам беларускай мовы, культуры, гістарычнай памяці народа, духоўнасці, лёсам самой беларускай нацыі. Злуюцца паны-таварышы, якім не падабаецца, што гэта інтэлігенцыя не маўчыць, а змагаецца. За што змагаецца? Зразумела, за што! За тое, за што на пачатку стагоддзя змагаліся Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Гарун, Ластоўскі, браты Луцкевічы, Ігнатоўскі, Лёсік, Тарашкевіч, Аляхновіч і тысячы іншых — можа, менш вядомых, але не менш перакананых і апантаных любоўю да Бацькаўшчыны, верай у яе свабоду.

*1992*

## Трагедыя

Трагедыя: улада і нацыянальная інтэлігенцыя між сабой варагуюць. Не супрацоўнічаюць, не ідуць у адной упрэжцы, а... варагуюць. Для лёсу народа, для будучыні нацыі — гэта трагедыя. Няўжо тыя, хто ва ўладзе, не разумеюць гэтага?

*1971*

## І ўсё — па загадзе сэрца

Што ёсць сапраўды ўсенародная любоў і сапраўды ўсенародная слава, мы, беларусы, не ведаем. Гэта ведаюць французы. Чытаю: «За труною Гюго ішло два мільёны чалавек».

Два мільёны! Пры гэтым трэба помніць: ніводнага чалавека па загадзе зверху. Кожны — па загадзе свайго сэрца. У 1956-м я быў на пахаванні Якуба Коласа. Народу было шмат — некалькі тысяч. Але колькі з іх па загадзе свайго сэрца — як за труной Гюго? А колькі «арганізаваных», дзеля?..

*1970-я гг.*

## Ад чаго радасць?

Здаецца, у Яфрэмава вычытаў, што радасць узнікае не ад ацэнкі (цябе справядліва аціанілі), а ад разумення (цябе правільна зразумелі). О, канешне! Ад таго, што цябе правільна зразумелі! Гэта — галоўнае.

*1978*

## Тры сказы з Горкага

«Роза Люксембург совершенно верно сказала, что история русской литературы есть история борьбы русского правительства с литературой и писателями. Эта тяжелая история началась в XVIII веке с Василия Тредиаковского, которого били палками, эта история принудила величайшего русского поэта Пушкина отчаянно крикнуть: «Черт до-

гадал меня родиться в России с душою и с талантом!» Так не кричали ни Гете, ни Байрон, ни Вольтер...»

Горкі паспачуваў найвялікшаму рускаму паэту Пушкіну, які ў роспачы выкрыкнуў пракляцце чорту. А якія праклянцці і каму цягам доўгіх гадоў роспачна выкрыквалі найвялікшыя беларускія паэты — Купала, Колас, Багдановіч? А ўжо ж на іх пачуццё роспачы находзіла такое, што...

*1979*

## Наконт слоў устарэлых...

Наконт слоў устарэлых, якія выйшлі з ужытку, С. П. Залыгін піша: «...без слова прошлого, только современным языком о прошлом не скажешь. Взялся писать о прошлом — изучай язык «своего времени». І далей: «Слово истинно и психологично, когда оно прожило рядом с человеком века, только тогда оно и раскрывается до конца писателю и писатель чувствует в нем своих предков» («Литературная газета», 14.10.1981).

Поўнасцю пагаджаюся з гэтым выдатным майстрам сучаснай рускай прозы.

*1981*

## Яшчэ адно набалелае слова... і што?

Народная артыстка СССР Н. Мяшко выступіла ў «Правде» (16.11.1987) з артыкулам «Народнай песні — жыць». Думаю, што такі аптымістычны загаловак яе слову далі журналісты, бо ў артыкуле амаль у кожным абзацы — гаркота і боль, боль і занепакоенасць, блізкая да роспачы. Некалькі цытат: «Усё мацней дае пра сябе знаць камерцыйная эксплуатацыя мастацтва. З'ява гэта — сацыяльна небяспечная, паколькі вядзе да духоўнага разбэшчвання народа».

«Савецкая масавая песня ў 1930–1950-х гадах вызначалася народнасцю, самабытнасцю, яркай меладычнасцю і рабіла надзвычай вялікую справу ў выхаванні патрыятызму і згуртаванні людзей. Але, пачынаючы з 1960-х гадоў, ня-

гледзячы на асобныя ўдачы, масавая песня становіцца ўсё больш безаблічнай і банальнай».

«Спараджае вялікую трывогу тое, што рускае народнае мастацтва як ніякае іншае паддаецца апашленню і разбурэнню. Плодзяцца рознага роду псеўданародныя штампы...»

«Некаторыя ансамблі адкрыта эксплуатуюць экзотыку фальклору, спалучаючы яго з чужароднымі эстраднымі прыёмамі...»

«Яны не знаюць народнай культуры, выхаваныя на штампах... Фальклор для іх — «архаіка»...»

«Ці не ад гэтага бяднее наша зямля, што бяднее духоўнае поле?»

Вось такую забілі трывогу лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ў Расіі. Дык калі гэта ў Расіі — то што казаць пра Беларусь? У нас усё тое самае, толькі памножанае на ўласцівае правінцыі малпаванне. О, наша бяздумнае беларускае малпаванне чужое брыды і пошласці! Малпуем, пераймаем — каб канчаткова звесці на нішто сваё, беларускае, што вырастала на грунце народнай культуры.

*1987*

## Які сацыялізм?..

У адным з лістоў Ясеніна, які датуецца жніўнем 1920 года, чытаю: «Идет совершенно не тот социализм, о котором я думал...» Зусім не той? А іменна — што ў ім не «тое»? Цікава было б пачуць самога паэта, пра які сацыялізм ён думаў, які сацыялізм ім чакаўся. Няцяжка ўявіць, што тварылася ў Расіі ў жніўні 1920 года. Апошнія сполахі грамадзянскай вайны. Кроў і смерць. Вайна з Польшчай. Сялянскія паўстанні. Карныя аперацыі ЧК. Голад і голад. Які сацыялізм? Пра што гаворка?..

*1980-я гг.*

## Мова перш за ўсё, мова!..

Гады два назад мяне папракнулі (у друку), што я недаацэньваю значэнне Герба і Сцяга. Гэта не зусім так. Проста я быў упэўнены, што сёння для нас важней за ўсё — Мова, на першым плане павінна быць Мова! Будзе Мова — будзе нацыянальная свядомасць і будзе Беларусь. Не будзе Мовы — не будзе Беларусі. Вось чаму пісаў: «Ну будзе Герб, будзе Сцяг, а Мовы не будзе — і што? У 1920-я гады і без Герба і Сцяга ваўсю ішла беларусізацыя». Значыць, галоўнае — Мова. На гэтым этапе — Мова! Нацыянальна свядомы народ падыме і Сцяг і Герб.

*1991, верасень*

## Калі гэтак пойдзе і далей…

Рэпартаж з пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі, апублікаваны ў «Настаўніцкай газеце» (26.09.1992), мае загаловак «Гуманітарызацыі — нацыянальную самабытнасць». Без клічніка. А можна было б паставіць і вялікі клічнік у канцы загалоўка. Бо гэта — здорава! Ніколі такога акцэнту ў пастановах нашых міністэрстваў (адукацыі, культуры і інш.) не рабілася. «Нацыянальную самабытнасць»? Ну што вы! Барані бог! Усё, што хочаце, толькі не беларускае нацыянальнае аблічча, наша ўласнае непаўторнае аблічча! Навошта? Мы ж інтэрнацыяналісты — і выпукляць нацыянальны момант... не гожа! Масы «трудзяшчых» не зразумеюць.

І аднак жа — калегія Міністэрства «падкрэсліла выключную значнасць нацыянальна-культурнага кампанента грамадазнаўчых навук, развіцця напрамкаў, якія адлюстроўваюць нацыянальную культуру, нацыянальную самабытнасць народа... Цяпер галоўным стрыжнем павінна стаць нацыянальная гуманітарная ідэя, якая абапіраецца на агульначалавечыя каштоўнасці». Калегія рэкамендавала адводзіць на выкладанне гуманітарных і сацыяльна-эканамічных дысцыплін не менш за 25 працэнтаў навучальнага часу ў тэхнічных ВНУ і не менш чым 35 працэнтаў — ва ўніверсітэтах і педінстытутах.

І далей: «...ствараюцца новыя кафедры, рыхтуюцца праграмы, падручнікі, навучальна-метадычныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі, па філасофіі, культуралогіі і іншых гуманітарных дысцыплінах. Створаны Нацыянальны інстытут гуманітарных навук».

Ну што ж! Калі ўсё гэта праўда і калі гэтак пойдзе і далей — то можна будзе крыху весялей глядзець на свет. Толькі такі павінен быць агульны кірунак адукацыі. Толькі такі! Як і ў самых развітых краінах свету.

*1992*

## Закон пачынае выконвацца

У Мінскім радыётэхнічным інстытуце прайшла грунтоўна падрыхтаваная навукова-метадычная канферэнцыя «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ» (3–5.05.1993), на якой пашчасціла прысутнічаць і мне. Пашчасціла — бо пераканаўся: «Закон аб мовах» пачынае выконвацца. Дай Бог і ва ўсіх іншых ВНУ рэспублікі арганізаваць і правесці такія канферэнцыі! Вось тэмы некаторых дакладаў: «Беларуская мова і суверэнітэт Беларусі» (кандыдат філасофскіх навук В. Маслоўскі), «Нацыянальная культура і навукі прыродазнаўча-тэхнічнага цыклу» (прафесар М. Крукоўскі), «Патрэбен дзяржаўны падыход» (прафесар М. Савіцкі), «Аб выкладанні па-ўкраінску ў ВНУ Украіны» (прафесар М. Гарбачук)... Уся аўдыторыя была горача настроена на падтрымку беларусізацыі РТІ. Калі так пойдзе і далей — перамога за намі.

Прыватная заўвага: у адным з выдатных патрыятычных дакладаў прагучала памылковая думка. Паколькі яна сустракалася мне і ў друку — мушу выказацца. Сэнс яе такі: «Гільдэнбург у 1916 годзе ў акупаванай Беларусі ўраўняў у правах беларускую мову» (дазволіў беларускія школы, газеты, кнігі і іншае). Чытаў і пра пахвалу гаўляйтару В. Кубэ, які таксама дазволіў беларусізацыю (у час Другой сусветнай вайны).

Такое разуменне гістарычных фактаў — гэта наіўнасць. Ролю немцаў у беларусізацыі Беларусі перабольшваць не трэба. Работу рабілі нацыянал-патрыёты беларусы, а немцы не пярэчылі гэтаму (да пары, да часу) у сваіх акупанцкіх мэтах: каб задобрыць беларусаў і не падштурхнуць на супраціўленне. Не забывайма: паводле гітлераўскага плана «ОСТ» — тры чвэрці беларусаў трэба ліквідаваць, а астатніх ператварыць у рабоў. Так і было б, калі б у Другой сусветнай вайне перамог Гітлер.

*1993*

## Тэхніка да новага сезона

Дзяржава правярае, у якім стане знаходзіцца ў калгасах і саўгасах сельгастэхніка (ці рамантуецца, ці праведзены тэхагляд, ці пастаўлена на захоўванне і г. д.), каб была да вясны гатова. Прыязджаюць сотні і тысячы правяральшчыкаў, кантралёраў, інспектараў. Як пісаў Багушэвіч: «Аж пальцаў не стала на ўвесь гэты шчот! А пальцамі ж трэба карміць гэты люд!» Ну так: кожнаму ж зарплата налічваецца!..

А як у свеце? Як на Захадзе? У фермераў? Ну, скажам, у прэзідэнта ЗША Дж. Картэра была агромністая плантацыя пшаніцы. (Помню здымак: будучы прэзідэнтам, ён буртуе пшаніцу.) Хто ў яго правяраў стан тэхнікі? Ніхто. Дакладней — ён сам. Сам! Чаму ж у нас не сам, а нехта? Чаму? Ці не пара даць адказ?

*1997*

## І ў гэтым уся справа

У Балгарыі выйшла кніга «Панарама венгерскай літаратуры ХХ стагоддзя». А таксама важкі том старадаўняга персідскага паэта Саадзі «Неспатольны дух генія».

Ці можа Балгарыя ўявіць сябе без гэтых кніг на роднай мове? Не можа. *І ў гэтым уся справа.* Як гэта — мы, балгары, і не далучым сябе да сусветнай культуры? Як гэта мы

не далучым паэзію Саадзі да нашай нацыянальнай паэзіі? Ці ж мы можам абысціся без гэтага? Не можам!..

*2002*

## Ну што ж: спачуваю…

Якой бачыць сённяшнюю Расію і што пра яе думае жывы класік з правінцыі? А вось такой і такое: «Нынешние времена отмечены самой жестокой цензурой, такой не было и в советскую пору. Сегодня, чтобы издаваться в Москве, надо суетиться подобно «звездам» шоу-бизнеса... чтобы угодить издателям, надо писать на мертвом канцелярите (...) по строго продиктованной тематике: о коррупции и проституции, о сталинских репрессиях, об убийствах и изнасилованиях, о преступлениях советского режима... при этом Россию надо именовать «Рашкой», народ ее — «совками» и «пиплом»...»

Гэта — словы масцітага пісьменніка Юрыя Красавіна, 75-годдзе якога адзначыла «Литературная газета» (№ 1 за 2013 год). Жыве ён у раённым гарадку Канакова Цвярской вобласці, таму і юбілейная гутарка з ім названа «Прынцыпова правінцыйны». Гутарка з сапраўдным, карэнным расіянінам...

«Сапраўднаму» цяжка і балюча: ён бачыць і разумее, што здарылася ў Расіі з Расіяй — з рускай мовай, рускай культурай, самім рускім духам. Расіяй камандуюць яе ворагі! Яны прыбралі да рук усю індустрыю культуры і асветы. О, як «сапраўдны, карэнны» абураецца і пратэстуе, як яму ўсё гэта баліць!..

Спачуваю расіяніну. Сапраўды крыўдна, балюча бачыць такое. Але!.. Але ці ведае ён, што сталася ў Беларусі з Беларуссю? І па чыёй віне?..

*2013*

## І граф А. М. Талстой — з бальшавікамі

У 10-м томе Збору твораў А. М. Талстога (1961) змешчаны «Адкрыты ліст Н. В. Чайкоўскаму», упершыню надрукаваны ў зменавехаўскай газеце «Накануне» 14 красавіка 1922 года. Бальшавіцкая газета «Известия» тут жа гэты ліст перадрукавала. Чаму? Класавы ж вораг! Граф! Яшчэ ў эміграцыі, у Парыжы... Дык чаму? Таму што ў лісце пішацца пра тое, як 400 гадоў назад (1514?) ваявода Шэйн абараняў ад польскіх войск Смаленск, не ўступіў яго «полякам, завоевавшим русскую землю».

Вось так: «польских», «полякам»... І — «русскую землю», рускую... А на ліцвінаў (беларусаў) і на Вялікае Княства Літоўскае і намёку няма.

Я чытаю гэта ў 1962 годзе. А ўжо на стале ў мяне — вялізны том Ластоўскага (з Вільні прывёз)...

Пра што думаў, чым быў заклапочаны граф Талстой? Пра «укрепление нашей великодержавности» — цяпер ужо пад бальшавікамі. «Я выбрал третий путь. За большевиками в прошлом террор. Война и террор в прошлом».

Ну так, гэта ўсё ў мінулым. Галоўнае — што бальшавікі аднаўляюць вялікую рускую дзяржаву, расійскую імперыю. Я гэта вітаю, і таму я з імі.

*1962*

## І я ўсё зразумеў...

Успомнілася, як я хадзіў да акадэміка Мікалая Бірылы наконт запрашэння на працу ў Інстытут гісторыі Беларусі М. М. Улашчыка — выдатнага вучонага, доктара навук, непараўнанага знаўцу старажытнай гісторыі Беларусі.

М. Бірыла быў тады ў АН БССР акадэмікам-сакратаром аддзялення грамадскіх навук, і ад яго цалкам залежала, каб М. М. Улашчык, пакінуўшы пасаду ў Маскве, перайшоў на працу ў наш Інстытут гісторыі. І калі б гэта было зроблена — які б магутны выйгрыш быў для беларускай гістарычнай

навукі, якое адчувальнае ўмацаванне яе палымяна-патрыятычнага крыла!

З акадэмікам М. Бірылам мы былі знаёмыя даўно, лічыў яго вялікім патрыётам беларушчыны і пайшоў да яго амаль з поўнай надзеяй. О, якая балючая атрымалася асечка! Як то кажуць — і гаварыць не стаў. «Не-не-не! Што вы! Гэта немагчыма! Нават і раіцца з прэзідэнтам не буду». — «Але чаму?! Чаму?» — «Гэты чалавек не для нас! Не-не-не!..»

І я ўсё зразумеў...

*1985*

## Цяжка паверыць...

З самай жывой цікавасцю накінуўся і прачытаў артыкул Дз. Мережкоўскага «Лермонтов. Поэт сверхчеловечества» («Книжное обозрение», 1989, 6 кастрычніка). Ад такога аўтара, як Мережкоўскі, я і чакаў нечага незвычайнага, і аднак жа — зусім не такога. Зусім не такога нядобрага крытычнага пафасу ў адрас геніяльнага рускага паэта і празаіка. Агульнае ўражанне: Лермантаў — не чалавек, а д'ябал, спараджэнне нячыстай сілы, агіднае нялюдскае стварэнне, маральная і фізічная пачвара!

Вось якім бачыў Міхаіла Юр'евіча Лермантава ягоны сучаснік І.С. Тургенеў: «В наружности Лермонтова, — вспоминает Тургенев, — было что-то зловещее и трагическое: какой-то сумрачной и недоброй силой веяло от его смуглого лица, от его больших и неподвижно-темных глаз. Вся его фигура, приземистая, кривоногая, с большой головой на сутулых плечах, возбуждала ощущение неприятное». — «Почему-то внимание каждого и не знавшего его невольно на нем останавливалось». — «Все от него отшатнулись, — рассказывает университетский товарищ Лермонтова, — а между тем что-то непонятное, таинственное влекло к нему». — «Разговор его похож на то, как будто кто-нибудь скребет по стеклу».

Хоць гэта і словы знакамітага Тургенева, аднак чытаць напісанае крайне непрыемна, яно здаецца проста невера-

годным, і хочацца сказаць: ах, Іван Сяргеевіч, хай бы гэтага ўспаміну лепш не было! Такое пра Лермантава — дзеля чаго? Ён — геніяльны паэт і быць пачварай не можа. Навошта ж унушаць нашчадкам, што ён быў іменна пачварай?

Далей Мяражкоўскі піша:

«Одна светская женщина уверяет, что глаза Лермонтова «имели магнетическое влияние». Иногда те, на кого он смотрел пристально, должны были выходить в другую комнату, не будучи в состоянии вынести этот взгляд.

Кажется, он сам, если не сознавал ясно, то более или менее смутно чувствовал в себе это «не совсем человеческое», чудесное или чудовищное, что надо скрывать от людей, потому что этого люди никогда не прощают.

Отсюда — бесконечная замкнутость, отчужденность от людей, то, что кажется «гордыней» и «злобою». Он мстит миру за то, что сам не от мира сего; мстит людям за то, что сам «не совсем человек». «И никого-то он не любит», — жаловались на него бабушке. — Бесконечная сила отталкивания: «как бы ужаленный, я бросился от него». Точно заряженная лейденская банка: кто ни прикоснется, отскакивает.

Отсюда и то, что кажется «лживостью». — «Лермонтов всегда и со всеми лжет». — Лжет, чтобы не узнали о нем страшную истину.

Звери слышат человеческий запах. Так люди слышат в Лермонтове запах иной породы. Одни, особенно женщины, по первобытному греху любопытства, влекутся к нему, видят в нем «демона», как тогда говорили, или, как теперь говорят, «сверхчеловека»; другие отходят от него с отвращением и ужасом: «ядовитая гадина», «антихрист»; или накидываются с яростью, чтобы загрызть».

Вось такі паўстае з артыкула вобраз майго любімага са школьных гадоў паэта. Вось так — пра аўтара геніяльнага рамана «Герой нашего времени». Пра аўтара геніяльных вершаў «Выхожу один я на дорогу», «Прощай, немытая Россия», «Белеет парус одинокий», «На смерть поэта». Пра аўтара геніяльных паэм і драм...

Проста немагчыма зразумець: навошта ўзорны рускі інтэлігент Меражкоўскі гэта зрабіў — сабраў да кучы столькі негатыўных, больш таго — абразлівых выказванняў у адрас вялікага паэта? Якая была мэта? Дзеля чаго? Сучаснікі вялікіх нярэдка дазвалялі сабе падобнае хамства, ну і хай бы яно заставалася на іх сумленні. Але мільёны чытачоў не маглі ўявіць вобраз паэта інакшым, як прыгожым і высакародным. І нельга, няможна іх уяўленне скрыўляць і разбураць.

Выхожу один я на дорогу;
Сквозь туман кремнистый путь блестит;
Ночь тиха. Пустыня внемлет Богу,
И звезда с звездою говорит.

Думаю, што другога такога геніяльнага верша ва ўсёй рускай лірыцы XIX стагоддзя няма. А можа — і ва ўсёй сусветнай. Дык як жа можна пра гэта не помніць? І не ганарыцца? А яшчэ — як можна не помніць пра жахлівы, трагічны лёс паэта?!

Заканчваю: пакуль будзе існаваць Расія і рускі народ — датуль будзе заставацца Гонарам і Славай рускай літаратуры Міхаіл Юр’евіч Лермантаў.

*1989*

## І каб хоць адзін голас у абарону!..

Нейкі Груган Груганоў з Віцебска, пад псеўданімам Сяргей Голубеў, на старонках газеты «Знамя юности» (за 9 снежня 1995 г.) выліў на маё імя некалькі цэбраў паскуднага смярдзючага бруду — за мой «вясковы прымітывізм», за «махровы нацыяналізм» і за маю «нянавісць да вялікай рускай літаратуры». Аспрэчваць гэту паскудную пісаніну ашалелага ад злосці Пругана — ну які сэнс? Сэнсу няма: на паталагічна хворых ненавіснікаў нашай незалежнасці, нашай мовы і культуры ніякае слова не паўздзейнічае. Скажу пра іншае. Бруд Пругана Груганова змешчаны на старонках рэспубліканскай газеты для беларускай моладзі. Хто блаславіў? ЦК

няма. Цэнзуры няма. Хто робіць газету? Па-другое: каб хоць адзін голас прагучаў у абарону Беларусі і яе паэта, каб хоць адна водпаведзь Пругану! Ні слова.

*1996*

## Даводзіліся планы

У тыя гады ў нас даводзіліся планы — кожнай вобласці, раёну, сельсавету — на пасяўныя плошчы лёну, грэчкі, бульбы, буракоў... І — заадно — планы на арышт «ворагаў народа» па першай катэгорыі, гэта значыць — для расстрэлу. «Вам даводзіцца план...» Як, напрыклад, даводзіцца план здаць 300 галоў буйной рагатай жывёлы. Можна і больш. За перавыкананне — узнагарода.

Планы на арышт, пасля якога — расстрэл. Планы на знішчэнне. І ніхто не ведае, нашто і дзеля чаго гэта. Проста — трэба. «Там» сказалі. Трэба ў гэтым годзе па Беларусі арыштаваць і расстраляць 50 тысяч чалавек. І ўсё! Трэба, значыць трэба! Але ж у кожнага забранага — сям'я, дзеткі, старыя бацькі! Ну і што? Гэта трэба ў імя вялікай светлай будучыні народа, краіны!.. Таму дасылаем разнарадку. Раёну — вось столькі: сто, дзвесце, трыста, нават пяцьсот, калі раён вялікі. Забраць — і расстраляць, знішчыць. Як сказаў балгарскі паэт Любамір Леўчаў: «Чалавечае жыццё ператварылася ў лічбу». На вялікі жаль, гэта так. Страшная, жахлівая праўда.

*1998*

## Іменна цвет нацыі

Пасля Кастрычніцкага перавароту ў Расіі бальшавікі высякалі цвет нацыі пад корань. Пачынаючы з 1918-га. Затым — праз усе гады грамадзянскай вайны. Затым — жахлівы 1922-і, высылка з Расіі соцень знакамітых вучоных (асабліва гуманітарыяў), пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва. Затым — з кожным годам усё страшней круціўся махавік рэпрэсій, які перамолваў іменна цвет нацыі.

Гэта — у Расіі. А ў нас — у Беларусі?

А ў Беларусі было яшчэ нашмат страшней. Бо, апрача ўсіх іншых пагроз заваёвам рэвалюцыі, іх страшыў нацыяналізм!

Прыйдзе час — і нашы нашчадкі будуць думаць пра нас: Божа, якія ж яны былі няшчасныя, нашы дзяды-прадзеды, нашы прашчуры! У які час ім давялося жыць! Як іх яшчэ ад калыскі абкрадалі, не песцілі Божай ласкай, не гадавалі ў яе праменнях, у праўдзе, у любові, а ўсё наадварот — у жорсткасці, у хлусні, у распусце...

*1999*

## На якія ўзоры арыентуем літаратурную моладзь?

Так, я задаю шаноўнай грамадзе гэтае пытанне: на якія ўзоры? На «Лаліту» Ул. Набокава — раман пра 40-гадовага пашляка-паскудніка і 12-гадовую «німфетку», каля заднічкі (ці пярэднічкі) якой паталагічна хворы цынік глытае слінку?

Ах, як інтэлігентна, як псіхалагічна тонка падаюцца сексуальныя жарсці 40-гадовага распусніка, які, каб задаволіць іх, лезе ў трусікі 12-гадовай дзяўчынкі! Скажыце, вы, што ўхваляеце такія творы, — вам не сорамна? Вам, бацькам 12-гадовых дзяцей, не сорамна? Не сорамна і нават прыемна чытаць гэту паталогію, гэта пачварства, гэта рафініраванае скацінства? Вы хочаце, каб такая, з дазволу сказаць, літаратура культывавалася ў нас, у Беларусі? Тым, хто, маючы сякія-такія літаратурныя здольнасці, гэтакае культывуе, скажу: сытна, вельмі сытна жывяце, панове! («Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі...» Зм. Бядуля). Няма для вас нічога ў гэтым свеце, у гэтым жыцці іншага — нічога балючага, нічога трывожнага, нічога святога. Няма! А элементарная чалавечая прыстойнасць — дзе? Не патрэбна? Аскацінімся? Дадзім волю і гэтаму паскудству — як далі алкагалізму і наркаманіі? Цікавей жыць? Іншых праблем няма — ні сацыяльных, ні эканамічных, ні экалагічных, ні духоўных, ні культурных — няма?.. О-о, людзі, людзі!..

*2000*

## І мацней паверыць…

За сябе кожны народ можа змагацца толькі на сваёй мове (кажу пра народ, а не пра аднаго героя). І весці народ на барацьбу за вызваленне, за свабоду, за сацыяльную справядлівасць можна толькі на мове гэтага народа. На роднай мове народ лепш зразумее правадыра, на сваё роднае слова лепш адгукнецца і мацней паверыць... Так было ўсюды: балгары ішлі на вызваленчую барацьбу за родным словам Хрысты Боцева, у Венгрыі — за родным словам Шандара Пецёфі, у Польшчы — за родным словам Тадэвуша Касцюшкі... Іначай не здабудзем незалежнасць і свабоду і мы, беларусы...

*2000*

## Нібы зніклі крытэрыі…

Тады, пасля з’ездаў КПСС 1956-га і 1961-га, у душах творцаў ішло вяртанне да асноў сумленнасці. Не будзем ідэалізаваць — і тады многае засмучала, і тады паяўляліся грымасы, і іх бачылі, і ім давалася належная ацэнка. Але ўсё выдатнае ішло і ацэньвалася як выдатнае. Цяпер усё зблыталася і скруцілася ў нейкі хаос, нібы зніклі крытэрыі; на волю выйшла нахрапістае графаманства, перасталі гаварыць праўду, крытыкі наогул не стала — усё забіў страх, трыумф убоства, прымітыву, цынізму...

*2001*

## Усе? Не, пакуль што не ўсе…

12 кастрычніка 2007 года на прэс-канферэнцыі ў Мінску для прадстаўнікоў расійскіх СМІ кіраўнік нашай дзяржавы заявіў: «Национализм — страшное зло. Мы с этим бороться начали давно (...) По моей инициативе из школьной программы были убраны все националисты, писатели так называемые».

Няўжо ўсе? — моцна здзівіўся я пачутаму. І калі ж гэта адбылося? Выкінулі, колькі гадоў таму, народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча з яго вершаваным раманам «Родныя

дзеці». Але каб усіх — не чуў такога. Спытаў у добра дасведчаных. Так, не ўсіх: прэзідэнт вельмі перабольшыў маштаб расправы са злом. У школьнай праграме засталіся самыя вялікія беларускія нацыяналісты: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі... Засталіся Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Іван Мележ... Так што выкінуты не ўсе... Да ўсіх чарга пакуль што не дайшла...

*2007*

## Ну дык і правільна гэны паэт сказануў!

Зайшоў неяк да мяне даўні сябар Яўген Стасевіч і пытае:

— Скажы, калі ласка, як мне гэта зразумець? Спаткаўся на вуліцы з вядомым паэтам і крытыкам, — пазнаёміліся гадоў дзесяць таму, — затрымаліся на хвіліну, і я выпаліў яму на ўсю чыстату адну прэтэнзію. Кажу: «Як гэта вы, прафесійны літаратар, маючы талент і густ, усё яшчэ сцвярджаеце, што Ніл Гілевіч не з'яўляецца аўтарам паэмы «Сказ пра Лысую гару». Чаму вы гэта робіце? Я не веру, што вы насамрэч так думаеце, калі больш чым відавочна, што аўтар — ён». І ведаеш, што мне гэты паэт сказаў? Сказаў такое, што я і ў сне не прысніў бы. Сказаў: «А яму і так надта шмат усяго надавалі, — і званняў, і ўзнагарод, і ўсякіх прэмій, абыдзецца і без славы аўтара «Сказа»...». Я паглядзеў на яго здзіўлена і развітаўся, убачыўшы, што ён не жартам гэта, а зусім сур'ёзна. Што гэта? Як гэта разумець?..

І я адказаў сябру:

— Ну дык і правільна гэны паэт сказануў. Сапраўды, гэта ўжо нахабства. Столькі набраў, нахапаў, нагроб — дык не, мала: дай яму яшчэ і паэму пра Лысую гару. Трэба ж і меру знаць.

Сябар паківаў галавою і цяжка ўздыхнуў.

— Гэта добра, што ты ўспрыняў мой аповед з усмешкай, з іроніяй. Але мне сумна. Калі ў вас, у вашай пісьменніцкай грамадзе такія меркі, такія падыходы, такія маральныя прынцыпы, — то мне вельмі сумна...

*2010*

## Усё яшчэ ахвота пацягаць…

У сувязі з маім днём народзінаў у інтэрнэце ўсплыла старая плётка наконт аўтарства паэмы «Сказ пра Лысую гару». Аказваецца, яшчэ не здохла (плётка), яшчэ сяму-таму ахвота пацягаць яе за хвост.

Лічу ніжэй сваёй чалавечай і пісьменніцкай годнасці аспрэчваць прымітыўныя сцвярджэнні накшталт «а я ні разу на Лысай гары Н.Г. не бачыла — як жа ён можа быць аўтарам?» або: «а баба Ёўга сказала, што аўтар паэмы — дзед Міхед, і я веру бабе...» На такім інтэлектуальна-навуковым узроўні гаварыць пра паэзію — ну выбачайце... Магу толькі выказаць шкадаванне, што Усявышні абдзяліў маіх суддзяў эстэтычным густам, чуццём мовы і стылю. Або — недадаў сумлення, што значна горш за эстэтычную глухату і слепату.

*2014, кастрычнік*

## Мая прапанова

Незалежныя СМІ краіны абнародавалі зварот аргкамітэта па скліканні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць. Выдатная ініцыятыва! Але... Але чытаю ў звароце радкі пра самае істотнае:

**«Таму мы прапануем склікаць Усебеларускі кангрэс за незалежнасць, каб абмеркаваць сітуацыю і прыняць усе захады для таго, каб адстаяць Беларусь.**

Мы лічым неабходным абмеркаваць такія **надзённыя пытанні, на якіх грунтуецца наша незалежнасць,** як прыватная ўласнасць на зямлю і іншую дзяржаўную маёмасць, энергетычная бяспека краіны, праблемы правоў чалавека, адукацыі і медыцыны, роля СМІ (як айчынных, так і замежных) у грамадстве, знешняя і ўнутраная палітыка нашай краіны.

Мы чакаем ад Вас канкрэтныя прапановы па правядзенні Кангрэса, яго тэматыцы...»

І так, «надзённыя пытанні, на якіх грунтуецца наша незалежнасць». Усе пералічаныя пытанні, бясспрэчна, вельмі важныя. Аднак самае значнае, самае галоўнае пытанне —

не названа, у пераліку няма. У соты раз, выбачайце, мушу заявіць і падкрэсліць: паперадзе ўсіх самых надзённых праблем у нас павінна стаяць праблема выратавання нашай роднай **беларускай мовы**. Калі мы беларусы і хочам «адстаяць Беларусь». Беларусь без беларускай мовы — не Беларусь. Няўжо хто з беларусаў гэтага не разумее? Каму з верных сыноў і дачок нашай роднай зямлі патрэбна *небеларуская* Беларусь? Мне — не патрэбна.

*2014, кастрычнік*

## Самая дэмакратычная ў свеце

Даўно зразумеў, што для нас, беларускіх пісьменнікаў, дэмакратычнае і ёсць нацыянальнае, і наадварот. Беларускі паэт не мог напісаць, як І. Севяранін:

Бесшумно шло моторное ландо
По «островам» к зеленому «пуанту».
И взор Зизи, певучее рондо,
Скользя в лорнет, томил колени франту.

Такой мовай беларускі паэт напісаць не мог. Не было ў нас такіх паэтаў — сытых, бесклапотных, эстэтствуючых... Не тое было жыццё ў беларускага народа і яго песняроў. Зусім не тое!

Наша нацыянальная паэзія — самая дэмакратычная ў свеце. Прынамсі, так было да апошняга часу.

*1960*

## «Набытая не вучэннем, а...»

Вядомы рускі літаратуразнаўца Д. Жукаў выказаў вельмі слушнае меркаванне наконт Казьмы Пруткова, а іменна: «Час сцёр у многім яго надзённасць, але засталіся тонкасці мовы, вышэйшая культура яе, набытая не вучэннем, а нараджэннем у рускім асяроддзі і хрышчэннем у купелі рускай моўнай стыхіі».

Лічу гэта надзвычай важным — «хрышчэнне ў купелі» нацыянальнай стыхіі. У нас нямала паэтаў і пісьменнікаў, якіх абмінула гэтае вялікае шчасце. Мова іх твораў не мае лексічных, фразеалагічных і сінтаксічных фарбаў жывой народнай мовы. Іх мова літаратурна дыстыляваная.

*1974*

## Бо калі магілы...

З цікавасцю прачытаў кнігу Вардгеса Петрасяна «Армянские эскизы» (1978). Кніга заслугоўвае высокай пахвалы — гэта натхнёная патрыятычная паэма аб Арменіі. Паэма ў прозе, зразумела: Вардгес —празаік. Да душы прыйшліся мне многія афарызмы пісьменніка. Напрыклад: «Радзіма — гэта тое, што нельга расказаць другому». Здорава! Ну сапраўды: як расказаць некаму, што такое Радзіма, Бацькаўшчына? Або: «Ужо лепш хай мне не даруюць людзі, чым магілы». А каб ты быў здаровенькі, дарагі Вардгес! Канечне ж , хай лепш жывыя людзі. Бо калі магілы — гэта страшна. Вельмі страшна.

*1979*

## З кнігі пра В. Бергольц

У Ленінградзе выйшла кніга «Вспоминая Ольгу Берггольц» (1974). Кніга вельмі цікавая — пра такога чалавека іншай, націкавай яна не магла і быць. Выпішу некалькі вартых увагі думак паэткі. «Правила для езды в незнаемое — это правила совести, отваги и правды». Вось яна дапоўніла і ўдакладніла вызначэнне, якое даў паэзіі Маякоўскі («езда в незнаемое»). Далей. «Любоў да Радзімы — гэта культура, якая не толькі даецца, але і выхоўваецца...» Думаю: перш за ўсё выхоўваецца. І яшчэ: «Нам пашчасціла — мы вельмі мала былі з начальствам і вельмі многа з народам». Так, сапраўды пашчасціла, бо добра, праўдзіва пісаць памагала жыццё ў народзе і з народам, а не сярод начальства.

А як хораша сказана пра Аляксандра Твардоўскага: «Праўда і прастата — вось тыя прамыя, самыя кароткія і самыя смелыя шляхі, якімі Аляксандр Твардоўскі ідзе да сваіх чытачоў, да народа». Ну так: пісаць праўду і пісаць проста. Канечне ж, гэта галоўнае.

Напаткаў у кнізе і адно мудрае выказванне А. П. Чэхава: «Пісьменнік расце да той пары, пакуль у яго душа расце».

*1979*

## Гэта іхняя сіла

Пабываўшы ў Арменіі, паўглядаўшыся ў твары людзей, у іх поўныя суму вочы, сказаў (сам сабе): «Сум — іхняя сіла. Ды якая сіла! Якая стваральная, жыццядайная!..» Усе армяне — склалася ў мяне ўражанне — толькі сумныя. Нясумных няма. Няўжо гэта адбітак нацыянальнай трагедыі 1915 года? Ці гэта яшчэ з сівой даўніны?

А з якім сумам яны глядзяць на Арарат, што так блізка — рукой падаць, і так далёка — за дзяржаўнай мяжой?

*1982*

## Каб і следу не засталося

Гэта ж трэба! Ну ніяк не паварочваецца ў жамойцкіх (летувіскіх) навукоўцаў язык — назваць дзяржаўную мову Вялікага Княства Літоўскага старабеларускай. Называюць «афіцыйнай», «славянскай», яшчэ якой, але — не старабеларускай.

Увогуле, сёння нашы паўночныя суседзі жамойты (летувісы) робяць усё, каб і следу беларускага не засталося ні ў Вільні, ні на адвеку беларускай Віленшчыне.

*1987–1990*

## Толькі гаспадар

Культурным свой дом можа зрабіць толькі гаспадар (культурны гаспадар). Калі краінай кіруюць дачаснікі («временщики») — якой ад іх чакаць культуры? (Калі «сёння тут, а заўтра там», як было ў СССР.)

*1991*

## Краснае пісьменства

У Расіі побач са звыклым «художественная литература» было яшчэ і такое азначэнне: «изящная литература», ці «изящная словесность» — у тым самым сэнсе, але з падкрэсленнем яе менавіта мастацкасці, дасканаласці пісьма, стылю. Наша «краснае пісьменства» гучыць не горш.

*1992*

## У рэчышчы дыскусіі аб правапісе

На старонках «Настаўніцкай газеты» працягваецца дыскусія аб правапісе беларускай мовы, аб запланаваных у ім змяненнях. У апошнім нумары газеты (30.9.1992) з артыкулам «А мо вернемся да Скарыны?» выступіў настаўнік Леанід Раманенка. Ён слушна перасцерагае ад празмернага захаплення некаторых навукоўцаў прапановай вярнуць у правапіс калісьці справядліва адкінутыя нормы. Успамінае, як рэзала яму слых выступленне на з’ездзе ТБМ аднаго дэлегата — «з яго *глёбусам, клясамі, плянам, лёгікай*». Вельмі разумею і падзяляю пратэст настаўніка супраць калечання нашай прыгожай літаратурнай мовы падобнымі «клясамі», «плянамі» і іншымі «клюбамі». Гэтым мы наш правапіс не аздобім і больш прывабным яго не зробім, бо гэтага няма ў жывой народнай мове — нідзе ў Беларусі.

Але хачу звярнуць увагу на іншы акцэнт, які робіць у сваім артыкуле Л. Раманенка, а менавіта: клопат аб правапісе можа мець сэнс толькі тады, *калі мова ўсенародна жывая*,

яе прыродны арганізм здаровы, развіваецца нармальна і яго здароўю спрыяе разумная дзяржава, бо ў гэтым зацікаўлены і гэтага патрабуе патрыятычна настроенае грамадства. Калі ж сама дзяржава мову душыць, заганяе ў магілу, а грамадства глядзіць на гэта раўнадушна, — то клопат аб правапісе — справа трагічна марная. Удасканаленне правапісу патрэбна толькі мове жывой, толькі жывой, дарагія мае! Жывой і здаровай! Радуюся, што настаўнік Л. Раманенка — мой аднаверца і паплечнік, што ён глыбока разумее мой боль, маю гаркоту, маё абурэнне. Гэта і засведчыў у артыкуле. Цытую: «А Ніл Гілевіч гаварыў перад дэлегатамі з'езда: «...што ж гэта за такая праклятая доля, калі цягам цэлых стагоддзяў мы вымушаны адваёўваць для роднае мовы права на жыццё? Ці не задоўга гэта змаганне цягнецца? Ці не пара рашуча пакончыць з гэтым бяспраўным становішчам народа і яго культуры?..» Ужо больш за год, як гэты крык душы народнага паэта павіснуў у паветры».

На вялікі жаль, так: павіснуў. І прадчування, што ў бліжэйшы час нешта зрушыцца, — няма.

*1992*

## Яшчэ і таму...

Доўгі час я верыў, што ў нас, у СССР, можа быць больш гуманны, больш чалавечны сацыялізм, больш дэмакратычны, і будзе іншае становішча нашай беларускай мовы. Пасля задушэння «пражскай вясны» (1968) зразумеў, што гэтая мая вера — наіўнасць, што пры бальшавіках гэта немагчыма: іх канцэпцыя — імперыялізм, цяпер ужо савецкі, і нацыянальным рэспублікам нічога не свеціць, як не свяціла царскім калоніям. Верыў, бо надта не хацелася прыняць за ісціну, што камуністычны сацыяльна-эканамічны лад — гэта ўтопія, што «дзяржава-камуна» — гэта міраж. Чаму так доўга верыў? Яшчэ і таму, што гэтай верай жылі найвялікшыя літаратурныя аўтарытэты: Максім Горкі, Уладзімір Маякоўскі, Міхаіл Шолахаў, Аляксандр Твардоўскі, Аркадзь Куляшоў,

Назым Хікмет, Ніколас Гільен і многія іншыя — і ў нас, і ў цэлым свеце. Прыклад вялікіх быў для мяне справай святою.

*1996*

## Дзве красамоўныя ацэнкі

У расійскай «Литературной газете» (2013, № 44) наткнуўся на дзве цікавыя характарыстыкі. Першая належыць Льву Пірагову: пра «свободомыслящую (т.е. мыслящую о свободе)», ліберальную інтэлігенцыю ён гаворыць: «Есть для них одно старомодное, но исчерпывающе точное название — «семя антихристово». То-бок, дзеці антыхрыста. Коратка і ясна. Каментар не патрэбен. Другая належыць Марыне Струкавай: з'езд расійскіх пісьменнікаў у Калузе яна назвала з'ездам «праваслаўнутых п'яніц». Брава, пані Струкава! Якое трапнае слоўца знайшла для характарыстыкі: праваслаўнутых! (а не праваслаўных). Значыць, з таго ж самага «семя»? Хоць і зацятыя антыліబералы?..

*2013*

## Аж страшна чытаць!..

Як толькі не бэсцілі ў апошні час нядаўняга лідара Сербіі Слабадана Мілошавіча! І дыктатар, і тыран, і дэспат, і г. д., і г. д. Да міжнароднага суда давялі справу. А між тым... А між тым — вось што напісана ў дакуменце, які называецца «Завяшчанне Мілошавіча». «Адна з галоўных задач марыянетачнага ўрада, калі такі прыйдзе да ўлады, заключаецца ў разбурэнні нацыянальнай самасвядомасці». (Вось як? Дык гэта ж тысячу разоў праўда!) Чытаю далей: «Дзяржавы, якімі кіруюць звонку, адносна хутка расстаюцца са сваёй гісторыяй, са сваім мінулым, са сваімі традыцыямі, са сваімі нацыянальнымі сімваламі, са сваімі звычаямі, часта і з уласнай літаратурнай мовай». (Божа! Ды гэта ж геніяльна сфармулявана! Іменна: нават і са сваёй літаратурнай мовай!) Чытаю далей: «Адным з несумненных наступстваў захопу тэрыторыі якой-небудзь дзяржавы з боку звышдзяржаў у

XX стагоддзі з’яўляецца *разбурэнне нацыянальнай самасвядомасці народа*, які жыве ў гэтай дзяржаве. З досведу такіх дзяржаў бачна, што народ амаль не ў стане ўсачыць за хуткасцю, з якой ён *пачынае ўжываць чужую мову як сваю* (...), лепш разбірацца ў літаратуры акупантаў, чым у роднай літаратуры, захапляцца чужой гісторыяй, аплёўваючы пры гэтым сваю, быць падобным на чужынцаў, але не на самога сябе...» (аж страшна чытаць! Вось які — гэты «вораг дэмакратыі» Мілошавіч! Вось як ён б’е не ў брыво, а ў вока — усім гэным! Дык нічога дзіўнага, нічога дзіўнага, што гэныя з’елі яго. З дапамогай запраданцаў...) І выснова: «*Страта нацыянальнай існасці — самая вялікая параза любога народа*». Ну так. Гэта параза. Пасля якой немінуча наступае нацыянальная смерць.

Яшчэ і яшчэ раз думаю: як жа сталася, што кіраўніка краіны з такім цвярозым дзяржаўным мысленнем аддалі ворагам на расправу? Што творыцца ў гэтым свеце?

*2013*

## «Лічбы гора людскога»
## *(Каб помнілі пра свой лёс)*

Сярод выцягнутых на свет божы старых папер знайшоў выразку з газеты «Звязда» за 20 кастрычніка 1993 года, а ў ёй — артыкул Уладзіміра Адамушкі «Лічбы гора людскога». Але ж і малайчына Адамушка: незвычайнай гістарычнай каштоўнасці архіўныя матэрыялы абнародаваў! Спакойна чытаць немагчыма. Валасы ўстаюць дыбам і камянее сэрца ад болю. Якія расправы чынілі ў нас, з нашым народам, людажэрцы-бальшавікі! З нашым добрым, ціхамірным, у вышэйшай меры талерантным народам! Вось толькі некаторыя жахлівыя лічбы. «Матэрыял, які прапануецца чытачам, зроблены на аснове аналізу 7000 картак персанальнага ўліку на жыхароў Мінска і Мінскай вобласці, якія былі рэабілітаваны ў 1955–1993 гг.». Значыць, размова пойдзе адно пра частачку жыхароў толькі Мінска і Мінскай вобласці, і гэта частачка — 7000 чалавек. 7000 палітычна рэпрэсаваных!

З іх — 3097 чалавек (44,24%) былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і былі расстраляны. Падкрэсліваю: усе былі невінаватыя, бо ўсе на працягу 1955–1993 гг. рэабілітаваны. Прыгавораны да смерці былі не судом, а гэтак званымі «двойкамі», «тройкамі», калегіямі АДПУ, асобымі нарадамі, камісіямі НКУС СССР, — іначай кажучы, знішчалі невінаватых людзей без суда і следства.

Цікава прасачыць нават на прыкладзе толькі гэтых 7000 чалавек, як ішоў «хапун» па гадах: 1922 год — 3 чалавекі, 1923 — 0 (Ніводнага! Ішла беларусізацыя), 1925 — 39 чалавек, 1927 — 47 чалавек, 1928 — 63 чалавекі, 1929 — 408 чалавек (Адкуль такі скачок? Пачалася барацьба з «нацдэмамі».), 1930 — 233 чалавекі, 1933 — 673 чалавекі, 1936 — 181 чалавек, 1937 — 2436 чалавек (Скачок у 13 з гакам разоў! У гонар прынятай самай дэмакратычнай у свеце Сталінскай Канстытуцыі? Хіба што так!), 1938 — 1598 чалавек. І раптам: 1942 — 8 чалавек, 1943 — 6 чалавек (Ну зразумела: Беларусь была пад фашысцкай акупацыяй!), 1945 — 182 чалавекі (А як жа: прыйшло вызваленне ад акупантаў!), 1946 — 99 чалавек, 1949 — 46 чалавек, 1950 — 41 чалавек... І нарэшце: 1953 — 1 чалавек.

Цікавыя лічбы і наконт рэабілітацыі. Яна працягвалася з 1955 года па 1971. «З 1972 па 1988 год, — піша Адамушка, — працэс рэабілітацыі практычна быў спынены». Чаму — адказу няма, прычына невядома. У 1989-м было рэабілітавана 63 чалавекі, у 1991 — 32 чалавекі, у 1992-м — 834 чалавекі, у 1993 — 216 чалавек. Падумалася: калі арыштавалі (ні за што, без віны!) у 1937-м, а рэабілітавалі ў 1993-м, дык колькі гадоў чалавек — жывы ці ў памяці людзей — заставаўся быць «ворагам народа»? 56? Запішу пропіссю: пяцьдзясят шэсць гадоў.

*2014*

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 60

**Гілевіч** Ніл Сымонавіч

# У віры быцця

Новая кніга эсэістыкі

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Барыс Сачанка
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Сяргея Гілевіча, Лідзіі Карамазавай
Дызайн вокладкі Дзмітрыя Шылы

Падпісана да друку 4.03.2015. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 9,66. Ул.-выд. арк. 6,48.
Наклад 300 ас. Зак. 94.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.